**Юл. Таўбін.**

# ЗЛУЧАНЫЯ ШТАТЫ

(*З кнігі „Рака Місісіпі“*)

1

Зорамі засыпаны
шуміць над Місісіпі
штандар Штатаў
сіні, як сон.
Два камэрсанты
сухімі галасамі
сьпяваюць на палубе
пад патэфон:

„Злучаныя Штаты Паўночнай Амэрыкі!..
Пяруны зьбіраюцца над вашай галавой.
Маладыя
морскія афіцэрыкі
высака трымаюць
штандар твой.

Штандар рыс і зор,
сьцяг скалістых гор—
сіні і стракаты,—
Каліфорнія і Мэн,
Прэзыдэнт і палісмэн,—
вось! вось!
Злучаныя Штаты.

Уздоўж па рацэ мы вязем тавары,
чорны вугаль і белы рыс.
Пакупцоў разьвеяла, як нашы мары,
каморкі Амэрыкі корчыць крызыс.

Сьцяг палос і зор,
сьцяг Пяці Вазёр,
сіні сьцяг Палаты...
Шолах шын
і рух машын,
Вашынгтон і Віскансін—
вось! вось!
Злучаныя Штаты!

На біржах робіцца нешта панічнае.
Газэты прыносяць жахлівыя навіны.
І няма на тое,
каб сонца
спыніць,
другога
Ісуса Навіна.

Штандар зор і рыс,
золата і рыс,
чым ты не багаты?
Алабама, Дэлявар
і тавар,
тавар,
тавар,—
вось! вось!
Злучаныя Штаты.

Дай нам сілы, нацыя, у гэты цяжкі момант!
Настаў камуністам доўгі нос!
Каб зноў
усё было па старому,
каб дывідэнд, як на дражджах, рос.

Сьцяг палос і зор,
прарабі нам тор
і сарві загаты!
Крызыс, крызыс душыць нас,
Калярада і Тэхас.
Нас! Нас!
Злучаныя Штаты!“

2

Зорамі абсыпаны
шуміць над Місісіпі
штандар
штатаў,
сабраных па каліве.

Два качагары
галасамі асіплымі
сьпяваюць,
у топку падкінуўшы паліва:

„Як табе сьпіцца,
рыжы Морган?
Колькі даляраў
за сёньня выспаў?
Каб табе вочы,
даражэнькі Морган,
Гэты агеньчык
высмаліў.

Злучаныя штаты—
чысты рай!
Проста кладзіся
і падбірай
І цягні даляры дахаты...
Хіба мы не Морганы,
любы мой сын,
Хіба не ясі ты
маргарын?
Дык услаўім
Штаты!

Слава табе, Морган!
Слава табе, „росквіт“!
Сытныя паштэты
ляцяць нам у рот.
... Пашукай
на вуліцах
агрызка папяроскі,—
вось табе дарожка
ад варот!..

Грузы прыплываюць—
задыхаецца рака...
Параходы хлеба,
лайбы малака—
штандары
Штатаў
падняты!
— Выкінулі з працы,
любы мой сын...
Хай цябе накорміць
дзядзька Джын*)—
Злучаныя штаты!

*) Джын—гарэлка. Сухі закон у Амэрыцы прыкрывае агульнае п‘янства.

Слава табе, Гувэр,
вялікі прэзыдэнт!
Ты ў нас паблажэеш з твару!
Каб табе дастаўся кожны цэнт
Так, як дастаецца качагару!

І ты нас не падманеш,
сукін брат—
чулі мы мароку—
дэмакрат,
Усе вы дэмакраты!
Пасядзі ў куточку,
любы мой сын.
Я вярнуся ў хату...
праз...
некалькі гадзін...
Ну...
*Не забывайся
пра Штаты.*

Што ты зажурыўся?
Сьцісні кулак...
Рукі
на куркі
вінтовак!
Мы цябе падстрэлім,
стракаты хіжак,
штандар
беспрацоўя
і галадовак.

Абцяры сьлёзы,
любы мой сын,
Бацька твой ня вернецца,
ты цяпер адзін...
„Мы з табою дойдзем расплаты...
Падкідай у топку
жару, качагар...
Мы паставім кропку.
Будзе вам прыпар.
Мы цябе раззброім,
сьцяг драпежных зор,
мы вас перакроім
на савецкі ўзор,
Злучаныя Штаты!“

Менск—Мсьціслаў
1-8—V 1932

**Крапіва**

# МЯДЗЬВЕДЗІЧЫ

**(Раман)**

## КНІГА ПЕРШАЯ

(*Працяг*)

### ШУКАЙ ВЕТРУ Ў ПОЛІ

Коняй шукалі трэха ня цэлы дзень. Некаторыя павАрочаліся адвячоркам, калі сонца, стомленае і пачырванелае, спаўзло ўжо на самыя стрэхі Дымаўкі, а некаторыя дык і зусім на зьмярканьні. Прайшлі па ўсіх дарогах мо' на вёрст дзесяць ад Мядзьведзіч. Пыталіся ў вёсках і па дарозе ў людзей: ці ня чулі, можа хто моцна ехаў уночы цераз вёску, ці ня бачылі вось такіх коняй. Ніхто ня чуў і ня бачыў. Абышлі ўсе закануркі паблізу вёскі—можа дзе дачасу зладзеі кінулі коні. Нідзе нічога не знашлі. Спачатку яшчэ была сякая-такая надзея: ад хлява Соміка па сьцежцы на прыгуменьне і далей па загуменьню пашоў сьвежы сьлед Сомікавага каня. Конь яго быў падкуты на перад і гакі ў падковах былі не кавальскай работы, а купленыя, штыфтавыя, што прышрубоўваюцца. Ад іх на цьвёрдай зямлі заставаліся круглыя ямачкі. Сьлед гэты павёў па загуменьню, а далей цераз поле ў лес, трохі прайшоў каля лесу па дарожцы і раптам зьнік. На мху і шыпульках у лесе ніякіх сьлядоў нельга была ўбачыць.

Заходзілі да Жыгулы, хто жыў на хутары сярод лесу.

— Ці не заходзіў хто да цябе ўчора ўдзень ці вечарам? Ці не праяжджаў хто ўночы каля цябе?

— Не, мужчынкі, ніхто не заходзіў, і не праяжджаў ніхто. Сабакі маўчалі цэлу ноч. Там тае ночы дык з вечара завінуліся моцна брахаць—мусіць воўк блізка падышоў. Я ўзяў стрэльбу ды разы два пужнуў, то яны й супакоіліся. Ня іначай—воўк. А гэтай ночы, усю ноч спакойна было,—хлусіў Жагула, не маргнуўшы вокам.

Прышлося яму верыць, хоць Пятруся Кухара і цюкнула, што Жагула занадта спакойна ўжо гаворыць пра ўсё гэта, нібы ён загадзе да гэтага падрыхтаваўся, што Манька Жагулава нешта вельмі вёртка вільнула за дзьверы сваім гладкім азадкам, што ў старой Жагуліхі, якраз на той час у печы дровы раскаціліся і яна так старанна ўзялася іх папраўляць, аж

нават і ня чула, аб чым гаварылася ў хаце. Але-ж сілаю за язык не пацягнеш; верыш ня верыш, а нічога ня зробіш.

Паварочаліся людзі дадому ні з чым. Моцна прысьцігнула гора. Здавалася, канца і краю няма яму і ніколі ад яго не адкараскацца. Але пераносілі яны гэта гора па-рознаму. Пятрусь Кухар маўклівы, з глыбока запалымі маркотнымі вачыма, аж згорбіўся нек за гэты дзень, нібы непамернае гора ўсім сваім цяжарам гняло яго да зямлі. Ён нікому ня скардзіўся, ні на каго не наракаў і ні з кім не хацелася яму гаварыць. Цяжкія думкі ахінулі яго галаву і ня відаць было праз іх ніякага прасьвятленьня.

Баранок-жа ня мог вытрымаць свайго гора сам-на-сам. Ён ішоў па вёсцы, прыпыняўся каля кожнай чародкі людзей, кожнаму, каго сустракаў на вуліцы, расказваў пяты, дзясяты, дваццацы раз, як ён усё лета замыкаў хлеў і каня на начлег ня пускаў, як сапсаваўся замок, і як якраз у гэты час укралі яго каня. Сам ён бедаваў, людзі яго шкадавалі і памагалі бедаваць і ў гэтым ён меў сабе некую палёгку.

Зусім інакш трымаўся Сомік. І тое, што шкада было каня, і стома ад хады нашча праз цэлы дзень—усё гэта танула ў яго непамернай злосьці. Яна поўніла ўсю яго істоту, пералівалася цераз берагі, пырскала, біла фантанам. Злосьць гэта павялічвалася яшчэ, што ня было таго, на каго яна павінна была наваліцца. Выходзячы ў пошукі, ён моцна штурхануў жонку, якая сказала яму слова напоперак, ці проста адважылася нешта параіць. Увесь дзень ён кляў на чым сьвет стаіць члена сельсавету Язэпа Ганскага, што той не глядзіць, каб варта была на сяле; крыў наогул усю савецкую ўладу, што яна толькі ўзяць у селяніна можа, а ня можа рады даць разбойнікам ды зладзеям, якія ня даюць спакойна пажыць на сьвеце. Пад вечар ён—здалося яму—знайшоў вінаватага, на якога і накіраваў усю сваю злосьць. Калі ён перад зьмярканьнем увайшоў у вёску, дык яго прарэзьлівы тонкі голас загайсаў па ўсёй вёсцы, нэрвуючы нават найбольш спакойных. Яго тонкія, пабялелыя губы, ледзь прыкметныя ў агністарыжым кароткім шчаціньні барады і вусоў, былі запенены, на твары скакаў і дрыжэў кожны мускул, трапяталася кожная рыса.

— Зладзюгі! абармоты! астрожнікі! згубіцелі! Усё сяло за сьведку запішу, усе скажуць, што Наздрэйкі коні пакралі,—крычаў ён, ідучы па вуліцы і грозячы ў паветра кулакамі.—Усе ведаюць, што яны падлогу ў магазыне ўзадралі ды дошкі пакралі, што яны снапы ў мяне з азяроду пацягалі, што ня іначай яны і сала Тарасікава з сьвірна пакралі. І коні таксама іх рук ня мінулі.

Людзі выбягалі, пачуўшы яго крык, на вуліцу. Некаторыя спачувалі, а больш дзівіліся, і ня ведалі—ня то верыць яму, ня то не. Можа і сапраўды ён знайшоў якія небудзь доказы на Наздрэйкаў.

А доказы ў Соміка былі слабыя. Што Наздрэйка, бацька з сынам, узьдзіралі падлогу ў магазыне, гэта праўда. Але кралі з магазына не адны Наздрэйкі. І засекі паразьбіралі, і падлогу паўзьдзіралі, і нават дзьверы з завесаў пазьнімалі. Пакінулі адны голыя сьцены.

У гэты магазын да вайны ссыпалі збожжа ўсяею вёскай. Ня раз у гэтым збожжы пагрэў бы рукі і Андрэя Каржакевіча бацька за шэсьць год свайго старастоўства. За час вайны засекі былі ачышчаны, магазын пу-

ставаў і на яго забыліся. А калі пра магазын зноў успомнілі—успомніла толькі што організаваная ў Мядзьведзічах камсамольская ячэйка, якая надумалася зрабіць з магазына клюб,—дык тагды ўбачылі, што ад магазына засталіся толькі сьцены ды страха.

Камсамольцы на сходзе паднялі гвалт. Пачалі шукаць вінаватых. Але іх было вельмі шмат і кожны з іх адказваўся тым, што «ўсе бралі, дык і я браў. Хіба-ж гэта крадзеж?» На Наздрэйку нападалі больш, як на іншых. Яны цягалі дошкі, нават не хаваючыся, удзень. Але ўсімясна было, што не адны Наздрэйкі расьцягнулі магазын. Так яно й засталося. На падлогу, на лаўкі ды на сцэну пачалі зьбіраць дошкі з усяе вёскі, а вінаватых шукаць пакінулі.

А снапы ў Соміка залетась сапраўды пакраў нехта з азярода. Снапоў з дзесяць аўса не далічыўся Сомік. Ён тагды бажыўся, што сьлед пашоў (націрушана было) аж пад самую адрынку Наздрэйкаву. І Тодар Пошта, як быццам, гэта бачыў.

На вёсцы гаварылі, што проста стары Наздрэйка захацеў каня падкарміць, каб лепш плуг цягнуў, як паедзе на жыта араць. Ну, а свайго аўса ў яго нямнога было. Дык ён пашкадаваў, надалей, на зіму пакідаў. Як там ні было, але тагды Сомік на сьмерць палаяўся, аж чуць не пабіўся з Наздрэйкамі. Хацеў на суд падаваць, ды людзі адгаварылі; казалі, што нек сорам і судзіцца за дзесяць снапоў аўса. Але з таго часу, якая-б у вёсцы пакража ня здарылася, Сомік казаў, што гэта, няйначай, Наздрэйкі.

Стары Наздрэйка сапраўды мёў нядобрую прывычку прыбіраць (праўда драбніцу толькі) калі што ў каго дрэнна ляжыць. Патрэбен, напрыклад, Наздрэйку рубель воз уціскаць. У лес ісьці яму ня хочацца,—шукай там ды цягні з лесу на плячах. А ў суседа пад страхою ёмкая яловая жардзіна ляжыць. Назаўтра сусед мацюкаецца, не знайшоўшы на месцы жардзіны, а ў Наздрэйкі рубель новы—любата. Або пойдзе Наздрэйка да суседа:

— «Братка, дай сьвярдзёлка. Граблі раблю, дык няма чым дзіркі папракручваць у стаўпцы».

А праз тыдні два суседу самому сьвярдзёлак патрэбен. Мац за трамаю—няма.

— Ці ня ведаеш ты (там сякая такая), дзе наш сьвярдзёлак?

— Ты-ж, здэцца, Данілу даваў.

— Данілу? А чорт яго ведае, можа й даваў.

А сустрэўшыся з тым:

— Даніла, ці табе ўжо мой сьвярдзёлак ня трэба?

— Які сьвярдзёлак? Хіба я ў цябе браў?

— Здаецца, браў.

— Пашукаю. Але нешта я не памятаю.

А другі раз сустрэўшыся:

— Няма ў мяне твайго сьвярдзёлка. Ты мо' каму другому даваў?

Але каб Даніла каня адважыўся ўкрасьці, дык гэтага пра яго ніхто-б не сказаў. А што да маладога Наздрэйкі Міколы, дык пра таго й гава-

рыць няма чаго. Ён так хлопец мялаваты, трохі гультаяваты, да гаспадаркі ня вельмі здатны, але каб красьці, дык не.

Аднак Соміку здавалася іначай.

— Астрожнікі! Зладзеі! Ня я буду, калі я іх у астрог не засаджу. У вышэйшы суд падам. Да самага Чарвякова дайду. Гэтакую сволач вон трэба з вёскі выгнаць, каб іх і почуту не засталося!—лемантаваў ён, ідучы па вуліцы, і зьбіраючы вакол сябе ўсё больш людзей, найбольш хлопцаў-падшыванцаў. Падышоўшы да Наздрэйкавай хаты, ён сашчаміў зубы і кінуўся да вакна. Кулакі дробна і шалёна заскакалі па раме, шкло са звонам пасыпалася на прызбу.

— Зладзюга! Прызнавайся, дзе коні? Кішкі выматаю! У зямлю ўтаню!

З сянец выбег зьбялелы, спалоханы Даніла Наздрэйка:

— Ды што ты, чалавек! Ашалеў?! Што ты мне вокны б'еш!? Каб я так сваю гаспадарку аглядаў, як я ня бачыў твайго каня. Каб мне ногі паадсыхалі, калі я куды-небудзь далей свайго двара адышоўся ўвечар... І чаго прывязаўся чалавек?

— Маўчы, халера старая! Тваіх рук ня мінула,—падступаў да яго агніста-рыжы, нібы злосьцю да чырвана напалены, Сомік.

Малады Наздрэйка, які толькі што вышаў з андрынкі, стаяў хвіліну буйны, маўклівы і наліваўся злосьцю. Раптам, рвануўся з месца, закасваючы на хаду рукавы:

— Пусьцеце!.. Растрыбушу рыжую суку! Разьдзяру, як жабу.

— Пакінь, не займайся з шалёным. Няхай судзіцца, няхай яго сутарга судзяць,—заскочыў сыну наперад Даніла.

А мужчыны трымалі за рукі Соміка, які ўжо ўзьняў вялізарны камень, каб адбіць атаку маладога Наздрэйкі.

— Гэта табе не за царом—людзей мардаваць!—крычаў, задыхаючыся ад злосьці, Мікола.—Возьмуцца яшчэ за цябе. рыжага сабаку!

Але Сомік падаўся ўжо да свае хаты, усё яшчэ абарочваючыся, лаючыся і грозячы Наздрэйкам кулакамі.

Калі малады Наздрэйка закідаў Соміку цара ды ўспамінаваў пра мардаваньне людзей, дык гэта з вялікай злосьці прышлі яму на памяць тыя чуткі, што хадзілі па сяле. Адслужыўшыся некалі ў войску, Сомік ня прышоў зразу дадому, а яшчэ недзе прападаў гады са два. І вось на сяле гаварылі, што ён нібы стражнікам ці ўраднікам быў у некім мястэчку Бабруйскага павету. Што там быў нібы нейкі бунт і ня то ён біў людзей, ня то яго людзі білі, што яшчэ й цяпер на галаве ў яго знакі ёсьць, валасамі не пазарасталі. А можа і ён біў, і яго білі. Казалі, што нехта нібы нагледзеў у яго ў куфэрку фатаграфію, дзе ён зьняты верхам на кані ў стражнікоўскай форме з шашкай і плёткай. Але ніхто нічога напэўна ня ведаў, яму ў вочы ніхто гэтага не казаў і Сомік нават не пазбаўлен быў выбарчага голасу. Пачуўшы сёньня ад маладога Наздрэйкі закід пра царскія часы, Сомік, як ні быў злосны, але трохі спалохаўся. Мо толькі таму і даў сябе ўгаварыць мужчынам і пашоў дадому ад наздрэйкавай хаты, нікога ня скрывавіўшы і сам ня скрываўлены.

# КАЛАТНЯ

Па сьвяточнаму нудна ў хаце ў Верамейчыкаў. Малады Верамейчык Юзік у зеленкаватай суконнай чырвонаармейскай гімнасьцёрцы, якую ён прынёс з арміі і адзяе толькі ў сьвяточныя дні, сядзіць каля стала, нагнуўшыся над «Беларускай Вёскай». Газэты чытаць прывык ён яшчэ ў арміі і цяпер яму без газэты, як без вачэй.

Чытаючы, Юзік час ад часу ўзьнімае галаву ад газэты, бровы яго паўзуць угору пад валасы і ён паглядае на жонку, што ўвіхаецца каля печы. Яна стаіць проці печы з чапялою, маладая, бялявая і прыгожая. Дровы моцна разгарэліся, полымя шугае аж у чалесьнікі. Зосіны шчокі нагрэліся і таксама палаюць. Яна спрытна выхапляе чапялёю з печы скавараду, хапае гарачы румяны блін і кідае яго на зэдлік, засланы чыстым абрусам. Трэ па гарачай скаварадзе падмазкай, ад чаго скаварада шыпіць і ад яе ідзе пахучы сіняваты дымок; зноў кідае на скавародку палонік цеста і ставіць у печ.

Яна часам сустракаецца вачыма з Юзікам, робіць сьмяшлівую міну і ледзь прыкметнаківае галавою ў бок сьвякрыві. Тая ходзіць насупленая, як хмара, толькі злосна носам сапе. Бровы яе навісьлі на самыя вочы і зьбегліся на пераносьсі. Яна даўно ўжо шукае якой небудзь прычэпкі, каб пагрызьці нявестку, але ў тае сёньня ўсё спраўна выходзіць і ад гэтага Тадору яшчэ большая злосьць падшыбае. Калі яна адварочваецца ў другі бок, Зося ловіць Юзікаў позірк, выцягвае падбародак і ледзь прыкметна, бяз гуку, толькі шавелячы губамі, шэпча:

— Ведзьма.

Юзікавы губы ледзь кранае ўсьмешка і ён зноў нагінаецца над газэтай.

Белагаловы, гадоў адзінаццаць, хлопец сьнедае. Ён есьць ужо другі блін, памазаны маслам. Есьці яму ўжо ня хочацца, але і пакідаць чуць не палавіну мазанага бліну нядобра: будуць сварыцца, што зглуміў. Ён неахвотна кусае блін, марудна жуе, шчыпле блін яшчэ і крадкам кідае кату пад стол. Кот, які дагэтуль яўкаў, супакойваецца і смачна есьць. Калі хлопец чапае яго караваю босаю нагою, кот абараняецца лапаю і бурчыць. Хлопец ціха сьмяецца.

Есьці цёплыя бліны ўсім бы пара было, але масла прынесена толькі хлопцу, дарослым маслам мазаць бліны—«каб не занудзіла», добра будзе ім і здорам. Але ўсім скаромным загадвае старая. А яна, каб спагнаць сваю злосьць, знарок не сьпяшаецца: «Трасцу, няхай жа паглытаюць трохі сьлінкі пасынак ды нявестка».

Злосная яна ходзіць ня толькі сягодня,—скрозь так мусіць ад першага дня, як прышла ў гэту хату. І прычына гэтай злосьці адна: не ўдаецца ёй ніяк выжыць з хаты Юзіка, каб уся гаспадарка цалкам засталася яе белагаловаму Піліпку. Пашоў Юзік на вайну, думала дзе небудзь галаву скруціць. І чорт яго ня ўзяў, вярнуўся назад. Каторы год чаўпе бацьку, каб выштырыў як небудзь з хаты Юзіка. Маўчыць стары, моцна думае нешта, часамі буркне сам сабе пад нос, а іншы раз і ня вытрымае,—зазлуе, запырскае, замацюкаецца. І рад бы быў стары Верамейчык, каб сын адышоў куды небудзь з хаты, каб знашоў сабе дзе які

талент. Але, як відаць, нікуды ня думае адыходзіць Юзік, усё мацней за гаспадарку бярэцца. А выгнаць—як жа ты яго выганеш? Шкода нек, і ён жа сын усё такі. Дый закону такога няма цяпер, часьць возьме, калі што якое. Дык вось і злосьць старой, вось і шукае кожны дзень Тадора якой небудзь прычэпкі, каб дапячы нявестцы. Пасынка самога баіцца трохі чапаць. Злосны і на язык востры; адсячэ зразу, аж абліжашся. Дый розуму вельмі набраўся. Над газэтамі ўсё сядзіць, спусьціўшы нос. Ох, гэтыя газэты! Гэта ёй пераяда вантроб. Яна на іх глядзець ня можа. Каб сіла, дык вырвала-б з рук, і кінула-б у печ, каб яны ўсе з дымам пашлі. І кнігі ўсе з яго гэтым зялёным куфэркам. Яшчэ на кут паставіў брыдоту гэту!

Ня любіць старая ні кніг, ні газэт—«пустая забаўка ўсё, хлеба з гэтага ня будзеш есьці. Гэтым толькі паном займацца, якім няма чаго рабіць, на якіх мужыкі хлеба наробяць». Таму і мела кожнага за гультая, хто з кнігамі знаўся, таму і Юзіка ня раз у сварцы абзывала гультаём, хоць і робіць ён у гаспадарцы больш за ўсіх.

А яшчэ яна ненавідзіць Юзікавы кнігі, што праз гэта ён вунь як нясе сябе, разумнейшым за яе сябе ставіць, і ніяк тут Тадора нічога зрабіць ня можа, не папнецца, не зраўняецца з ім, хоць бы й хацела. І зайздрасьць і злосьць ад гэтага—на ражне-б яна яго бачыла.

Стары Верамейчык толькі што зьмяніў кашулю, надзеў чыстую. Ён зашпільвае гузікі. Яны дробныя і высьлізгваюцца, уцякаюць з яго тоўстых закарузлых пальцаў. Ён таксама скоса паглядае на газэты. Ужо два разы сплюнуў, але маўчыць яшчэ пакуль што. Карціць яму палаяць сына! Выпусьціў кабылу блэнгаць зубамі па выгане. Сьвіньні зрылі выган, гусі спаскудзілі—што там ёсьць на тым выгане! Павёў бы папасьвіў дзе небудзь, дык ён за газэты ўзяўся. А з газэты вычытае якую трасцу і тагды лезе, мяшаецца, хоча бацьку вучыць, як гаспадарку весьці. Бацька век зжыў на гаспадарцы, а ён—вучыць: сырадэлю сей, буракі на полі садзі, вокны ў хляве карове прарэзай. Быццам карове чытаць там альбо пісаць. Чорт яе ня возьме, патрапіць мысаю ў трасянку і папацёмку.

Стары і сам трохі пісьменны: калі літары вялікія, дык ён, сьлябізуючы, бэкае трохі. Быць пісьменнаму—яно нядрэнна: расьпісацца калі дзе прыдзецца, дык ня трэба людзей прасіць, грошы добра пазнаваць, каб не ашукалі часамі на кірмашы,—ведама, гэтулькі ўсялякіх грошай перавярнулася за гэтыя гады! Так прыемна прачытаць на траскучай белай паперцы: «Адзін чырвонец», злажыць яго хораша, завярцець у насоўку і схаваць у такое месца, што ня толькі сын, але нават і старая ня ведае. Гэтыя новыя грошы, гэта табе ня «лімоны»—моцныя, кажуць. І зусім няпрыемна чытаць такую паперку, як «Акладны ліст». Панадрукованы малюсенькімі літарамі нейкія ня зусім зразумелыя словы, а ўрэшце выходзіць, што яму трэба вывертаць з насоўкі таго самага траскучага чырвонца дый другога з палавіны чапіць і ўсё гэта несьці дый аддаць: «Чорт ведае за што»—заўсёды злуе Верамейчык. Стары і сам бачыць у лісьце лічбу «16», але думае,—а можа яшчэ й менш, можа скідка якая ці што. Ён падае ліст сыну:

«На палядзі, колькі тут нам сёлета».

І пасьля гэтага ў старога ўжо ніякай надзеі не застаецца: трэба вывертаць чырвонцы.

Добра, пісьменным быўшы, і шыльду ў мястэчку прачытаць «Дробны гандуль М. Розэнгауз», альбо «Рымар Антось Маляўка». Моўшу Шэвелевага (гэта Розэнгауза) Верамейчык ведае яшчэ з маладых год і заплюшчыўшы вочы ён патрапіў бы ў Моўшаву краму, але падыходзячы, ён заўсёды шавеліць губамі, сьлябізуючы, чытае, што напісана на шыльдзе, і тагды толькі заходзіць у краму, рады, што сам прачытаў, якая тут крама і хто гандлюе.

Аднаго разу, калі яшчэ Юзік другі год у школу бегаў, дык стары Верамейчык аж цэлую кнігу прачытаў. Пра Баву Каралевіча. Сыну купіў чытаць, ды сам усю й прабэкаў—спадабалася вельмі. Цяпер ня чытае стары, вочы ня так добра бачаць, літары мітусяцца і расплываюцца. Зблізку зусім ня відаць. Толькі калі выцягнуць на ўсю руку ды аднесьці кнігу ад вачэй, тады можна што разабраць. Дый старая гэта—няхай яе паралюш!—ня любіць вельмі. Лаецца моцна, а то й зусім гатова кнігу з рук вырваць ды ў качаргешнік шпурнуць.

Тадора прынесла на дзеравяным кружку кусок здору і моўчкі бразнула з кружком на стол. Гэта значыць: «жарэце, няхай вас паразрывае ды парасьпірае!»

Юзік адлажыў прачытаную газэту і ўзяўся за другую. У будны дзень часамі няма калі й глянуць у газэту, дык трэба нагнаць хоць у сьвята. Раней за бацьку ён ня хоча, браццa за блін, каб не ўгнявіць. А той, паважаючы сваю сталасьць, не сьпяшаецца. Узяў аскепак з некага вялікага відаць люстэрка (шкло ледзь ня ў палец таўшчынёю) і глядзіцца, зачэсвае валасы, расчэсвае вусы, і цёмна русую, з ніткамі сівізны, даўно стрыжаную бараду. Тагды толькі падышоў да стала і капянуў нагою ката, які блытаўся пад нагамі.

— Хто гэтай парсюку ўчора мяшаў?—буркнула старая, глянуўшы ў ражку, у якой на дне была са жменька пакуцанай лычам сьвіной яды.

— Я мяшала,—адказала, не адварочваючыся ад печы Зося, але адчуваючы, што свякроў знашла такі прычэпку.

— Каб табе мазгі ў галаве перамяшаліся,—шчыра пажадала ёй старая.

Зося нічога не адказала, толькі глянула на Юзіка, бы́ццам кажучы: «Во глядзі—пачынаецца». Юзік чытаў, моцна ўнурыўшыся ў газэту, але спрактыкаванае жончына вока бачыла, што ён чуе кожнае слова.

— Ня выбрала недзе даўнейшага, дык яно ўсё ўкісла, вось і ня еў. Папэцкаў, раскеўзаў па ражцы дый кінуў. І палавіны ня зьеў.

— Выбрала і выпаласкала,—коратка кінула нявестка.

— Вось паласкала ты... Няхай цябе нечага ўжо з гэтага сьвету спалоцча. Робіць пакане́ц рук, каб табе ў грудзёх рабіла. Гэта сала будзе з гэтакага догляду... А нябось, як на скавараадзе паставіць, дык прэш аж нос гнецца.

— Учора зьеў усё, дык бяда была—казала, мала замяшала, галодны застаўся, а сёньня больш замяшала, дык зноў бяда, што ня зьеў. Не хацеў, дык і ня зьеў. Што-ж я, пад хвост яму напхаю?

— Лайнік ты! Што-ж ты калі па-людзку зробіш? Табе-ж цяжка рукі завярнуць, каб табе нечага гэту яндоўку тваю на патыліцу завярнула. Толькі з кубельца дык ты-б цягала, каб з цябе кішкі ды вантробы выцягнула.

— Няхай з цябе і выцягне, ведзьма старая,—не сьцярпела нарэшце нявестка.—Начорта мне твой кубелец, задушыся ты ім сама. Горла-ж вялікае маеш, дык глыні яго зараз з усім, што там у ім ёсьць.

— Тфу, брадзяга, трасца тваёй матары! Яшчэ аскірзаецца. Кепска робіць, дык і аказацца нельга, зараза паршывая. Сапагога вялікая, ня можна слова сказаць,—умяшаўся ў сварку стары Верамейчык.

Юзік з усяе моцы крапіўся, каб не ўмяшацца. Ён, сьціснуўшы зубы, яшчэ ніжэй нагнуўся над газэтай, але ня бачыў ужо ніводнай літары. У Зосі на вачох заблішчэлі сьлёзы і яму яе моцна было шкода. У сярэдзіне пачало ныць, накіпала злосьць і разам з гэтым было страшэнна агідна ўсё гэта чуць і бачыць, пэцкацца ў гэта самому. Пачыналася тое, без чаго рэдка які дзень праходзіў у хаце Верамейчыкаў. Ваўкаватая панурасьць, якая заўсёды панавала ў Верамейчыкавых хаце, калі цэлы дзень ад чалавека бывае слова не пачуеш, калі нават блізкія між сабою людзі, як мужык з жонкаю, не асьмельваюцца пры другіх сказаць адно аднаму ласкавае слова,—гэта панурасьць часьцяком узрывалася. І тагды людзі не чаялі нагаварыцца адно з другім. Гаварылі ўсе зразу. Крычалі, лемантавалі, скавыталі, скрыгіталі зубамі з бруднай лаянкаю, са страшнымі кленічамі. Зычылі адно аднаму такое, што каб хацяя дваццатая доля таго сталася, дык бы ўсіх іх назаўтра павыцягалі на могілкі. І ўсё гэта за пусьцяковіну, за глупства, за зломаную іголку, за лапаць недатопак, за тое, што курыца «мусіць» зьнеслася ў суседавых каноплях.

Здавалася Юзіку, што з кожнага кутка хаты шчэрыць зубы нешта сьлізкае, прагавітае і агіднае, што яно гатова вырваць з зубоў кожны кусок, сарваць з плеч кожны лахман. І дзе выхад з гэтага? Як зрабіць, каб у хаце можна было вольна дыхаць, каб насьмелую можна было сказаць звонкае і вясёлае слова, па-добраму пагаварыць пра тое, як і што трэба рабіць, пажартаваць, пасьмяяцца самому і пачуць людзкі шчыры, а ня зьедлівы штучны сьмех? Дзе дзецца ад усяго гэтага? Ці плюнуць на ўсё, адрачыся ўсяго ды йці ў сьвет, шукаць сабе працы і людзкага жыцьця, ці змагацца з усім гэтым (але якім чынам?), ці нарэшце махнуць на ўсё рукой, рабіць па прыказцы: «з ваўкамі жыць—па воўчы выць», грызьціся кожны дзень за кусок хлеба, рваць у другога і абараняць сваё ўласнае, клацаючы ашчэранымі зубамі. Для сябе то ён знашоў бы выхад; пайшоў у саўгас рабочым, як зрабіў Нупрэй з жонкаю. Ці ў горад бы падаўся. Напэўна знашоў бы хоць невялікую працу. Але-ж ці выхад гэта, калі адкінуць сябе ў бок, глянуць на ўсё вясковае жыцьцё? Гэта азначала-б, што з вёскі падаўся, падтуліўшы хвост, найменш зубасты і зьядлы, які ня здужаў з ваўкамі «па воўчы выць», а вёска засталася па-ранейшаму, па-зьвярынаму прагавітая і цёмная. Юзік адчуваў, што

недзе на краі яго сьвядомасьці туліцца нешта ня зусім згоднае з яго такімі разважаньнямі. Але ў гэту хвіліну ён у думках стараўся ня крата́ць гэтага нешта. Гэта было тое новае ў вёсцы, да чаго ён употай далучыў і сябе, што канкрэтна зьвязвалася з вобразамі Сьцёпкі, Шуры ды іншых некаторых; і яшчэ тое, часта ня зусім для яго выразнае, што ня столькі бачылася, колькі адчувалася; і тое новае, хвалі якога патрошку, але ўсё сьмялей падмываюць грунт старога вясковага ўкладу, адрываюць ад яго кавалачкі і кавалкі. Гэтакім кавалачкам у пэўнай меры зьяўляецца і ён сам. Ён яшчэ ня бачыць усёй законамернасьці гэтага працэсу, але адчувае, што недзе там ёсьць разумная і цьвёрдая рука, якая накіроўвае гэтыя хвалі ў пэўнае русло, дае ім пэўны кірунак. Тая самая рука, якая накіроўвала яго і шмат тысяч такіх, як ён, на фронце, у хаосе баявой абстаноўкі, паказвала заўсёды патрэбны кірунак, ставіла патрэбную баявую задачу кожнаму ўдзельніку. І ў суме выкананьня гэтых паасобных, часта дробных, задач вышла нешта грандыёзнае і мала верагоднае—перамога Чырвонай арміі над усімі ворагамі і на ўсіх франтох. Юзік верыў у разумную і цьвёрдую волю бальшавіцкага кіраўніцтва; як сонца ў каплі вады, бачыў адлюстраваньне гэтай волі ў знаёмых і нават блізкіх яму мядзьведзіцкіх людзях, у тых справах, якія адбыліся і адбываюцца ў Мядзьведзічах. Больш таго, сам пра сябе і ён думаў (і гэтым ганарыўся ўпотай), што хоць у некай малюсенькай меры зьяўляецца часта выканаўцам гэтай волі. Але цяпер ён наўмысьне стараўся ня думаць пра гэта новае, каб з тым большай сілай накіраваць увесь цяжар свайго абурэньня на стары зьвярыны вясковы быт, які так уеўся яму ў косьці.

Грызуцца ня толькі Верамейчыкі. Рэдка ў якой хаце няма грызьні. Ня грызецца сьвякроў з нявесткай, дык брат з братам, братавая з дзеверам, залвіца з ятроўкай, бацька з сынам, мужык з жонкаю. І кожны лічыць найвялікшым шчасьцем, калі яму ўдасца ўварваць як-небудзь штонебудзь сабе ў другога. Але як жа зрабіць вось, каб гэтага ня было, каб кожны ня дрыжэў над сваёю крыхою, каб ня рваў у другога, каб не калаціўся кожны раз, думаючы пра тое, як будуць жыць яго дзеці і хто яго будзе даглядаць пад старасьць. Некі адказ на гэта пытаньне як бы недзе шавяліўся ў Юзікавай галаве. Але гэта было нешта вельмі нявыразнае і туманнае.

«Зробіш тут з гэтакаю брыдотаю камуну»—падумаў ён, злосна глянуўшы на старую, якая ўсё яшчэ дапякала нявестку, і рада была, што нявестка цяпер ужо напэўна сьнедаць ня будзе.

Толькі Тадора прыдумала нешта такое зьедлівае і пякучае, што праняло-б нявестку аж да самых печанёў, як у сенцах бразнула клямка. Ішоў нехта чужы. Сварка сьціхла. Зося хутка выцерла рукавом вочы і нагнулася паглядзець у печ.

У хату ўвайшоў высокі, бялявы хлопец.

— Дзень добры,—кінуў ён з парога.

— Дзень добры,—адказаў стары Верамейчык і нявестка. Нават старая і тая нешта буркнула.

— Што дарогу загарадзіла!?—крыкнуў хлапец і, жартуючы, схапіў Зосю за плечы.

— Алесь!.. Ашалеў ты, ці што?—адмахнулася тая.

— Што газэты пішуць?—спытаўся хлопец, паціскаючы ўжо руку Юзіку і садзячыся на лаве.

— На вось пачытай.

— Чорт яго... Доўга чытаць. Ты-ж чытаў ужо, дык скажы.

— Дык і казаць жа доўга.... Вось пішуць, што лубін трэба сеяць—жыта добра родзіць. Кажуць, што на лубіне на весну і бульбу можна садзіць бяз гною.

— Лубін позна ўжо сеяць, малаціць пара. Вунь наш даўно пад страхою стаіць, ня хочацца неяк брацца за яго. Пра землеўпарадкаваньне што чуваць?

— Пішуць, што на пасёлкі людзі йдуць, на хутары, аж каморнікаў не хапае абмерваць.

— Я чуў, што і да нас нейкае начальства прыедзе пра пасёлкі гаварыць. Але хіба-ж нашы пойдуць? Гэтакія дурныя людзі. Усё на прадзедаў аглядаюцца. У іх адна гаворка: «Дзяды—прадзеды жылі і мы пражывём».

— А што-ж; як дзяды жылі, не мудравалі, дык і хлеб быў, а цяпер трасца з хваробаю,—азвалася старая.

— З мякінкаю, з мякінкаю хлеб быў ды лебядою. А цяпер з мякінаю ніхто й есьці ня хоча,—нясмачна,—супярэчыў і дражніў старую Алесь.—Нашага чалавека яшчэ трэба дубінкаю ў рай заганяць. Каб я быў вялікім начальствам якім, Саўнаркомам ці Цыкам, дык я-б такі загад даў, каб, скажам, за два тыдні ўсё на пасёлкі вышлі, каб за год усе завялі шматпольле і ўсялякія новыя парадкі ў гаспадарцы. Хто ня слухае—штраф, альбо ў турму, хто праціўіцца—проста біць трэба. Нябось, быць ня можа, памагло-б.

— А як цябе білі, добра было?—злосна ўжо сказала Тадора.

Усім у хаце стала трохі няёмка. Алесь на момант зьбянтэжыўся і нават крыху пачырванеў ад гэтага напамінку.

— Варт быў, дык і білі,—адказаў ён, зьнізіўшы голас.

— Дык на што-ж табе каго заганяць у рай. Ты-ж сам першы ішоў бы. Знашоў бы сабе хеўру такіх ахвотнікаў, ды на пасёлак ці на хутар...

— Ня вельмі такіх ахвотнікаў і набярэцца. Вось прайдзі па сяле, спытай, колькі іх знойдзецца. Ды я-ж і не гаспадар. У нас жа ў хаце ёсьць гаспадар апрача мяне.

Гаворку Алесеву перапыніў, увайшоўшы ў хату, рыжы Сомік.

— Вы, Верамейчык, сёньня ў мястэчка ня едзеце?—доўга не чакаючы, зьвярнуўся ён да старога.

— Не. Сказаць і патрэбы няма такой.

— А я думаў, паедзеце, дык і я з вамі пад'ехаў бы. Думаю сёньня існці ў суд падаваць за каня.

— На каго-ж гэта?—зьдзівілася і зацікавілася старая.

— На зладзеяў, на каго-ж іначай.

— Ці вы-ж іх ведаеце?

— А хто-ж іх ня ведае? І вы іх ведаеце.

— Я?.. Адкуль жа мне ведаць,—ухілілася Тадора. Усе астатнія маўчалі, ведалі ўжо наперад, пра каго будзе гаварыць Сомік.

— Наздрэйкі коні пакралі і больш ніхто. Я галаву магу ў заклад аддаць, што яны. Не адны, вядома, перадалі некаму ў другія рукі, а з хлява то яны вывелі.

— Як кажаш, чорт ім і верыў, у душу чалавеку не залезеш,—няпэўна сказаў стары.

— Пакуль ты яму ў душу, дык ён да цябе ў сьвіран, альбо ў хлеў. Гэтакія рыштанюгі, яны ў цябе з зубоў вырвуць. Іх, бы, свалачэй, з сяла трэба было выштырыць, каб і шныру іх тут ня было. Але-ж няма каму. Усюды зладзеяў поўна. Якія людзі, такая і ўлада. Самі рвуць, дзяруць, бяруць, грабуць, дзе зарваў хто, дык і народ так. Вунь з фінаддзелу скарбнік зьбег, пятнаццаць тысяч звалок—лаві яго цяпер. Гэта з гэтакімі людзьмі камунію зробіш! Адзін з другога кашулі ўночы паскрадаюць, калі ня будзе чаго. Адзін другому горла перагрызуць. Гэта каб, скажам у Нямеччыне, дык можа што й вышла-б. Там жа ня то што—яблыка чужога не падыме. Кажуць, дарогі паабапал высаджаны яблынямі ды грушамі, дык валяцца будзе пад нагамі—не нагнецца, ня возьме. Або малако як прадаюць... Скажам, жыве чалавек на хутары, дык вы думаеце кожны раз ён вязе, ды мераюць, ды лічаць, ды з рук у рукі? Нічога падобнага. Гаспадар налівае ў бітоны, колькі там у яго ёсьць, выносіць, ставіць ля дарогі, а сам ідзе дадому, робіць, што яму трэба. А купец сабе едзе па дарозе і зьбірае гэтыя бітоны. У канцы месяца разьлік—і капейкі табе ніхто ня скруціць. А ў нас бы гэтак паставіў! О-го! Там бы ня толькі малака, яны-б табе такое зрабілі, што ты й нос бы адвярнуў ад свайго бітона.

— Але што-ж тут ўлада вінавата?—стаў супярэчыць Юзік.—Закон жа забараняе красьці. Зловяць,—засудзяць, пакараюць.

— Караюць яны... Возьмуць дзеля прыклёпу, пасадзяць на месяц, а там то амністыя, то трасца, то хвароба—і зноў гуляе маладзец. Або й зусім умоўна засудзяць. Гэта-ж зьдзек проста. Той прыдзе ды будзе выскаляцца, што табе шкоду зрабіў. Але гэтых я ўсаджу, ня я буду.

— Ну, а як жа ды не яны, дык шкода-ж людзей, што дарэмна пакутаваць будуць—сказала Зося.

— Гэта іх шкода, зладзееў гэтых!? Апрача коняй яны ўжо ня мала чаго пакралі. Ім усёроўна не пашкодзіць, калі гадоў два пасядзяць. А ня ўкралі, дык яшчэ ўкрадуць, за іх сыдзе.

— Дык гэта-ж не па закону; за такія рэчы і самому можна папасьці—заўважыў Алёсь.

— Пляваць мне на закон. Няхай мне закон каня купіць, што вось няма на чым на поле выехаць,—узгарэўся Сомік. І пачакаўшы крыху, ужо спакойна зьвярнуўся да старога Верамейчыка:

— Гэта-ж я хацеў прасіць, можа-б вы за сьведку ў мяне былі. Яны-ж і ў вас тагды снапы пакралі.

— Ды снапоў з дзесяць вывалак нехта... Не, дзе бачылі, куды мне старому. Я ня буду ведаць, што там і казаць. Хіба можа Юзік падахвоціцца,—нарэшце сказаў стары. «Чорт іх, снапы ўжо ня вернеш,—падумаў ён. Але няхай бы іх засудзілі, перапудзілі-б, можа спакайней бы было ў сяле. Толькі каб мне ня ўмешвацца».

Юзік ускіпеў на бацькавы словы. Ён увесь зачырванеўся, а з вачэй дык здэцца іскры сыплюцца.

— Ішоў бы сам ды сьведчыў, што меў выпраўляць,—груба адказаў ён бацьку.—Ня ведаючы нічога ніякага, я пайду на людзей нешта ўзводзіць.

— Хто цябе выпраўляе, як хочаш. Я так сабе кажу,—мармытаў стары зьбянтэжана.

— Вось так жа ў нас і робіцца.—Рыжая Сомікава барада ўжо скакала і трымцела ад злосьці.—Няма, каб памагчы злодзея за каўнер узяць, дык яшчэ пакрываюць. Усё сяло абыдзі, ня ўпросіш чалавека за сьведку пайсьці. Крумкач крумкачу вока ня выдзяўбе,—скончыў ён ня зусім дарэчы.

Старога Верамейчыка кальнулі гэтыя Сомікавы словы.—«Ці ня я гэта ўжо крумкач?»—падумаў ён, насупіўшыся.

Юзік, ссунуўшы бровы, глядзеў недзе ў бок і чакаў, што яшчэ скажа Сомік. Але той рэзка павярнуўся і шпарка пашоў да дзьвярэй.

## Сомік сьведку знайшоў

Калі Сомік казаў, што ўсё сяло трэба абыйсьці, каб сьведку дастаць, дык ён быў недалёка ад праўды. Пабыў ён за раніцу хатах у пяці ці ў шасьці. Абышоў усіх тых, у каго коні пакралі, і яшчэ ў сяго таго быў. Пятрусь Кухараў дык той проста сказаў: «Не падбівай братка, мяне на такую справу. У цябе-ж з Наздрэйкамі нейкая даўнейшая крыўда, ты злосны на іх, дык табе й здаецца, што гэта яны. А я да іх нічога ня маю, не магу сказаць на людзей дарэмна. Хай ужо мне аднаму баліць».

Баранок як быццам ва ўсім згаджаўся з Сомікам, патакаваў яму, разоў колькі сам пачынаў гаварыць пра замок, што ў каваля, і што злодзей мусіць ведаў пра гэта,—няйначай свой. Але калі Сомік загаварыў пра тое, каб разам на суд падаваць, дык Баранок зразу пачаў аднеквацца.

Каржакевіч дык той гаварыў мала, больш слухаў гарачую нэрвовую гаворку Соміка і яго блытаныя няпэўныя довады супроць Наздрэйкаў. Заявы ў суд разам з Сомікам падпісваць не захацеў.

Найбольш пашанцавала Соміку ў Пошты. Застаўшы таго на дварэ ў адрыне, Сомік зразу прыступіў да справы:

— Ты, Тодар, памятаеш, як снапы ў мяне пакралі?

— Памятаю,—адказаў той, чакаючы, што далей будзе.

— Бачыў, што сьлед павёў на двор да Наздрэйкі?

— Бачыў... Усе бачылі...

— Можаш сказаць, што яны снапы пакралі?

— Магу. Што мне, цяжка сказаць ці што?

— Дык ты пабудзь у мяне за сьведку.

— За авёс на суд будзеш падаваць?

— Не, за коні.

— Дык я-ж пра коні ня ведаю. Што-ж я буду там казаць?

— А ты кажы, што Наздрэйкі зладзеі, што яны скрозь кралі, авёс пакралі, сала пакралі, што і коні яны таксама пакралі. Скажы, што ты

ішоў позна ўночы, чуў, як у Наздрэйкі ляпнулі дзьверы і нехта, крадучыся, падаўся на гароды.

— Дык я-ж тае начы нідзе ня быў і ня бачыў гэтага.

— Я сам гэта бачыў, але-ж мне суд не паверыць, трэба, каб сьведка сказаў. Хіба табе цяжка сказаць?

— Ня цяжка, але што-ж я буду гаварыць, ня ведаючы? Дый часу няма, работы чорт што,—схлусіў Пошта, чуючы тут нейкую пажыву.

— За тваю турбацыю я табе аддзякую, я дарэмна не хачу.

Пошта маўчаў, думаў, перабіраючы нейкія старыя жалязякі. Сомік, чакаючы, наглядаў за яго тварам, на якім пад сьветлымі вусамі торгаліся губы. Відаць, чалавек разважаў сам з сабою.

— Ды я магу пабыць, мне ня цяжка. Скажу, што ведаю,—няўпэўнена адказаў нарэшце Пошта.

— А... Ну дзякую табе, Тодар. Скажы Тэклі, няхай падбяжыць, я крышан здору на затаўку кам. У цябе-ж, мусіць, няма ўжо скаромнага?

— Добра. Я скажу, зараз падбяжыць,—ахвотна адгукнуўся Пошта.

«Наўрад ці патрапіць так сказаць, як я яго вучыў. Па дурнаце сваёй набалбоча яшчэ такога, што і сам ня рад будзеш», думаў Сомік, выходзячы з Поштавага двара.

## ЗАСТАЛОСЯ Ў ПАМЯЦІ

Каменнаму трэба быць, каб жыць у сям'і Верамейчыкаў. Цяпер яшчэ трохі Зосі палепшала, як Юзік вярнуўся: ведае, што хоць будуць грызьці, ды ня ўкусяць патом, пабаяцца. Дый агойталася ўжо трохі за колькі год, прывыкла да грызьні. Часамі й сама агрызьнецца, калі ўжо вельмі сьвякроў прыстане. А спачатку дык думала ня вытрывае. З першага дня ня ўзьлюбілі Верамейчыкі Зосі. Вельмі-ж сьвякроў ужо сіберная трапілася. Наровіш, як ліхой скуле, а ёй усё нядобра. Не хацелі старая, каб Юзік яе браў. Бацька бабыль дымаўскі. Зямлі свае нават і дзесяціны поўнай ня было. Шавецтвам займаўся. Кожную нядзелю, як пойдзе ў мястэчка тавар набіраць, дык і барыш ад заказчыка, каб лепшы тавар выбраў ды боты мацнейшыя шыў. Ня трапіцца заказчык, дык па прывычцы ўсёроўна ня міне Рэйзы. А прыпляцецца з мястэчка—цесна яму вуліца ў Дымаўцы, ходзіць ў лакаткі, за вуглы чапляецца, песьні пяе, людзей пацяшае. А дачку выгадаваў—людзям зайздросна. Прыгожая ды прыветная. Засьмяецца—здаецца сонца выбліснула ў хмарны дзень, аж у сярэдзіне цёпла зробіцца ад Зосінай усьмешкі. За хараство ды вось за гэту цёплую ўсьмешку і ўзяў Юзік Зосю. Згаладаўся ён у панурай суровай сям'і па ласкавым слове ды прыветнай усьмешцы. А бацьку ды мачасе гэта ня ў нос. Што ім з Зосінага хараства! У гаспадарцы хараством дзірку не заткнеш. Не прывяла Зося ад бацькі каровы. вось і пустуе загарада ў Верамейчыкавым хляве. Усяго й пасагу, што сьвінчо нейкае з сабой прывезла ды пасьцель сваю. А радня-ж! Хіба гэткага свата думаў мець Верамейчык—лайдака ды бабыля, у якога хата жардзінаю падпёрта? Не вялікі гонар гэтакае сваяцтва для Кастуся Верамейчыка. Глядзеў ён зусім ня ў той бок. Як і гаспадаром застаўся

напінаў усе жылы, каб гаспадаркі не апусьціць, каб прыдбаць яшчэ што ды ад людзей не астацца. Калі ён думаў пра людзей, дык ня ўсіх людзей меў на ўвазе, ня Рыгора Варанца і не Пятруся Кухара, а людзей «адмысловых», як Каржакевіч, як Грамабой ды яшчэ два тры такіх гаспадары. Далекавата было Верамейчыку даганяць Каржакевіча, але пяўся, ня траціў надзеі. Вось сын падрос, работнік добры. Ажэніцца, парадніцца Верамейчык з добрым чалавекам, з якім і на людзях ня сорам будзе спатканца. Ды ў гаспадарку нявестка прывядзе некага хваста, а можа й два. Вось і падпірка ў гаспадарцы. Вось і ўзьняўся Верамейчык на сучок ці на два вышэй. Але ўпарты Юзік хлопец. Як упёрся, сукін сын, дык хоць ты яму кол на галаве чашы. Ні просьбаю, ні грозьбаю нічога рады не дасі. І паставіў такі на сваім: прывёў у хату нялюбую, голую нявестку, якая яшчэ й работу гаспадарскую ня ўсю добра ўмела рабіць. Вядома—якая-ж у бацькі гаспадарка!

Вельмі-ж крута прыстрыгло Зосі, калі Юзік у Чырвоную Армію пашоў, пасьля таго, як палякаў адагналі. Пяць год прайшло, а крыўда балючая, як сьвежая яшчэ. Уцяжку яе пакінуў, апошнія дзянёчкі даношвала. А працавала-ж да самай апошняй часінкі. Грэчку рвала якраз на полі. Адна: сьвякроў за старую дома была, на поле не хадзіла. Як кальнула ў сьпіну, Зося адразу пазнала, што пара ёй прышла. Падхапілася і засьпяшалася дадому, пабаялася на даўжэй адна заставацца. Схопіць яе на дарозе, сядзе яна, перачакае, сашчапіўшы зубы, ды зноў у ход. Насілу ў хату ўкацілася. Ля полу на колінкі ўпала. Зыркнула сьвякроў вачыма і зразу дагадалася, што з нявесткай робіцца. Узяла хлопца за руку:

— Хадзем, Піліпка, у гарод, я табе моркаўку вырву.

Знарок сышла з хаты.

Вярнуўся неўзабаве Піліпка ў хату. Уцёк, мусіць, ад маткі, як тая недзе закорпалася; скеміў, што з Зосяй нешта нядобра. Дармо, што падвучаны маткаю, часта ўсяляк гаварыў на Зосю ды фігі соваў ледзь не пад самы нос, цяпер шкода стала, расчуліласся яго малое сэрца. Сядзіць ля стала, нібы ў вакно глядзіць, здэцца й ня бачыць, што Зося ўся потам аблілася і з болю рог падушкі зубамі сьціснула, каб ня крычаць, а ў самога сьлёзы на вачох навярцеліся і дрыжыць ніжняя губа.

— Піліпка, братачка, родненькі,—папрасіла Зося, калі ёй адпусьціла,— зьбегай ты, братка, да Варанца, скажы іхняй бабе, што я прасіла, каб яна да нас прышла. Скоранька. Бяжы-ж толькі, каб мама ня бачыла, ато будзе сварыцца, яшчэ ня пусьціць цябе.

— Бабцы Вароне сказаць?—перапытаў хлопец, ужо трымаючыся за клямку.

— Але,—пакутна ўсьміхнулася Зося.—Толькі на кажы на яе Варона, ато яна загневаецца дый ня пойдзе.

Лепш бы было, каб пры роду пабыла Піперманіха ці, як яе па-далікатнаму некаторыя завуць, мадам Піперман. Тая ўсё-ж такі нейкай акушоркай трохі лічылася, вучылася на гэта некалі. Дык той жа заплаціць трэба, а чым жа Зося ёй заплаціць? Яны-ж яе загрызуць, калі што з гаспадаркі возьме.

Прышла бабка Варона, маці Сьцяпана Варанца, шчуплая, маршчатая і рухавая. Памагла не памагла, добра што пабыла, пакуль малое нарадзілася.

— Маладзец, сына прыкаціла,—сказала бабка, калі дзіцянё за кугакала ў яе на руках.

Зося шчасьліва ўсьміхнулася і, змораная, заплюшчыла вочы.

Нядоўга прышлося вылежвацца Зосі ў пасьцелі. На другі дзень ужо сьвякроў сапла, ходзячы па хаце, ды нешта бурчэла сабе пад нос. Назаўтра не сьцярпела.

— Ну, надоўга-ж разьляглася? Пані вялікая! Ці ня ў бацькі панаваць навучылася? Баішся вельмі чэрава растрэсьці. Чорт цябе ня возьме.

Адмаўчалася Зося. Ні пікнула нават, абы толькі паляжаць яшчэ дзянёк, каб не скалечыць сябе на ўсё жыцьцё.

Але праз дзень не магла ўжо ўлежаць. Гной пад жыта якраз вазіць трэба было, накідаць няма каму. Не наймаць жа чужога чалавека, а старая-ж ня пойдзе.

Калупае сахаром той гной Зося, ды асьцярагаецца патом—ня доўга сябе сапсаваць. Дый ногі яшчэ дрыжаць і млеюць. На далёкі палетак сьвёкар гной возіць—вярсты тры будзе, а яна ўсёроўна ня ўправіцца воза накідаць. Прыедзе стары—воз не давершаны. Плюне са злосьці, хапае сахор і моўчкі крэхча, узьдзіраючы вялізныя скібы і прыплескваючы іх на возе.

Накідае Зося, а самой руліць—як там малы? Можа з плачу заходзіцца. Можа карміць пара? Дый пакідаць аднаго ў хаце з сьвякрывёй... Хто яе ведае, што ў яе на ўме. Падбяжыць пад акно, паслухае—ня чуваць плачучы. Тагды зноў страх агорне: а можа ён ужо няжывы? І мурашкі пабягуць па целе. Бяжыць у хату, нібы вады напіцца. Патрымае кубак ля губ, і да калыскі—ці дыша хаця? А сьвякроў ужо насупіла бровы, скоса паглядае,—зараз вызьверыцца. Цалуе Зося малюсенькі, чырвоны з жаўцізною лобік і зноў бяжыць у хлеў—хаця-б сьвёкар ня прыехаў.

Наробіцца Зося за дзень, ляжа ўвечар стомленая, а сон не бярэ. Думаецца ўсё—а як ён там? Даўно ўжо ліста ня было; як прыслаў адзін ускорасьці пасьля таго, як пашоў, дык больш і ня было. Невядома, што з ім робіцца, мо ўжо жывога няма. Малы ў калысцы па шавеліцца, запішчыць, тагды весялей стане,—возьме за вяровачкі, пакалыша асьцярожна, каб ня рыпела.

А цераз хату, на другой пасьцелі сьвякроў усё бубніць нешта старому ў вуха. Слоў не разабраць, толькі ўсё: бу-бу-бу, бу-бу-бу. Стары маўчыць і ня чуваць яго, толькі зрэдку ўздыхне моцна ці мармытне слова. Горшы жаль ад гэтага агортае Зосю і страх нападае. На яе нагаворвае сьвякроў старому, навучае. Набубніцца за ноч, а назаўтра ўстане як тая тыгра. Возьмецца Зося за чыгун, каб вады нагрэць, дзіця пакупаць, а яна— рвець чыгун з рук:

— Не бяры майго чыгуна. Вазьмі той, што ад бацькі прынесла.

Сядзе Зося ля дзіцяці, зальлецца сьлязьмі, паплача ціханька, а потым вытра сьлёзы ды ідзе да суседкі чыгуна пазычаць.

Або трэба ўночы малому пялёнкі зьмяніць. Запаліць Зося газьнічку, а сьвякроў толькі таго й чакала; усхопіцца з пасьцелі, дзьмухне, затушыць газоўку:

— Не палі мае газы. Купі сабе за тое, што мужык прыдбаў.

Пра адно бубніць Тадора старому начамі. Юзік пашоў, наўрад ці вернецца. Чуваць, што паміраюць шмат у войску: есьці няма чаго, тыфус кладзе людзей. На вайне шмат забіваюць. Вунь, чуваць, палякі зноў гоняць бальшавікоў назад, вельмі-ж шмат пабілі пад Аршавай. Няма ўжо Юзіка жывога на сьвеце. Вось каторы час і лістоў няма. Прыцягнуў у хату гэту ланту, толькі хату заваліў. Каб хаця-ж дзіцяці ня было, дык бы мо' хто ўзяў, пагнайся-б на хараство, на гладкую задніцу. А з дзіцем начорта-ж яна каму. Ды на гэтым жа яшчэ не канец. Ці гэта-ж яна ўцерпіць? Яшчэ мо' са тры байструкі прынясе ў хату. Рыхтуй тагды, сьвёкар, кожнаму часьціну з гаспадаркі.

Не палянуецца тут старая і сьлязу падпусьціць, каб больш расчуліць старога. «І ня здохне яно, байстручанё гэта, даруй ты мне, божачка, цяжкі грэх!»

Маўчыць стары. Толькі ўздыхае ды крэхча, а што думае, ня выказвае. Але чуе Тадора сваім нутром, што ўдзяўбла яна яму ў галаву. На нявестку яшчэ горш стаў воўкам глядзець. Іначай і не акажацца да яе, як са сваркаю ды з лаянкаю.

Устала аднаго разу Зося грудзей дзіцяці даць. Усьперлася на калыску, а ў самой вочы зьліпаюцца,—змарылася за дзень. І тут раптам паляцела разам з калыскай, нібы ў прорву. Прарэзьліва кугакнула дзіця на доле і зразу сьціхла. Загаласіла, забожкала Зося, падхапіла яго на рукі. А тут ніяк ня знойдзе па пацёмку конаўкі, каб вады зачэрпаць. Памачыла руку ў вядро і пырснула ў тварык, раз, другі. Слабым галаском аказалася малое.

— Чаго цябе там нячыстая сіла душыць?—прачнуўся сьвёкар на крык Зосі, запаліў газьнічку.

— Чаго-ж. Дзіця вунь, мусіць, забіла ўжо,—зьедліва адказала сьвякроў.—Ня высьпіцца ўсё ніяк, мех гэты. Узваліцца, гэтакая карова, на калыску. Гэта-ж вяроўка, што воз уціскаць, і тая ня вытрывала-б.

Грукнулася дзіцянё лобікам аб гліняны ток. Сіняк на ўвесь лобік і кроў прасочваецца праз тонкую аксамітную скурку. Прыпала Зося губамі да болькі і заякатала, зайшлася з плачу, распасьцёршы рукі крыжам на пасьцелі. Валасы рвала на сабе, праклінала, што сама сваё дзіця ўправіла.

Аж да раніцы трымала малое пры грудзях. А яно і смактаць ня можа. Запішчыць слаба ды жаласна і зноў дыша, разявіўшы роцік. Глянула раніцою, а ў яго і вочкі пацьмянелі, глядзіць, як праз пялёнку. Што будзе ўжо—уздыхнула Зося. Можа яшчэ й папravіцца. Узяла ў рукі праклятыя вяровачкі, глянула і рукі апусьціліся, задрыжалі. Ня самі парваліся вяровачкі, пахадзілі каля іх нечыя рукі. У двух месцах, як паражованы ўсёроўна. На маглі яны так парвацца. Хутчэй за ўсё каменем нехта пастукаў, палажыўшы на камень. Хацела пабегчы да каго небудзь, паскардзіцца, расказаць усё, ды пабаялася пакідаць адно слабое дзіцянё.

Назаўтра малы зусім ня браў грудзей. Смакануў разоў са два, дык і тое назад вылілася. Да доктара надумалася везьці Зося. Аказалася нясьмела да сьвёкра:

— Тата, я хачу хлопца да доктара павезьці. Можа-б вы каня запрэглі?

Памаўчаў сьвёкар, глянуў у запек на старую, а тая моргае—не давай.

— Што яму зробіцца твайму дзіцяці? Мала што там прыхварнула—паправіцца. Гэтулькі работы на полі. Іржэўнік яшчэ ня вораты. На цэлы дзень каня адрываць дарэмна.

А сам думае: «Памрэ дзіця. Ну й няхай, так яно лепей. Я тут ні ў чым не вінават».

Пабегла Зося да Пошты:

— Тодарка, саколік, можа-б ты мне каня даў. Дзіця зусім нядужае, трэба да доктара звазіць.

— А чаму-ж на сваім?

— Бацька кажа, што работы шмат, араць паедзе.

— Вось людзі! Вось прорва! Каня шкадуюць. А каб вам бог сьмерці пашкадаваў!—скляў Тодар.—Я таксама думаў ехаць бульбу выворваць, але калі так, дык бяры. Ідзі зьбірайся, я пайду запрагаць.

Распытаўся доктар, што і як, патрымаўся за ручку ў малога, запалку запаліў, павадзіў перад вачыма, потым пад патылічку руку падлажыў, галоўку прытнуць папробаваў—ня гнецца шыйка, як дубяная. Сьціснуў губы доктар, пастаяў трошкі, падумаў:

— Ня можам, цётачка, нічым памагчы твайму сыну. Маладая яшчэ, ня ўмееш дзяцей гадаваць.

І слова не змагла выгаварыць Зося. Узялася за стол, каб не паваліцца. Калі адлягло трохі, ухутала дзіця і вышла з пакою. Колькі ехала і як ехала, ня ведала. Ачулася толькі, калі конь сам на двор узышоў.

Сканала дзіця адвячоркам. Цэлу ноч сядзела над ім Зося, як скамянелая. Толькі назаўтра, калі вярнулася з могілак, знашліся сьлёзы і пацяклі па твары гарачыя і спорныя.

Пад вечар апранулася, пашла да Аўдолі. Тая хлеб якраз рашчыняла. Гаворыць ёй Зося пра сваё непамернае гора, пра ўсё тое, што так накіпела ў яе на душы за гэтыя тыдні бяз Юзіка. Маўчыць Аўдоля, корпаецца ля дзяжы. Відаць, што шкода ёй Зосі, а словамі гэтага ня выказвае, перапыняць ня хоча: няхай кабеціна выкажа ўсё, што ў яе набалела, лягчэй тады стане.

Сама Аўдоля хапіла гора нямала. Ведае, пачом хунт ліха і як гэта патрэбна бывае ў такую часіну пагаварыць з добрым чалавекам, расказаць яму ўсё. Здаецца тагды, што падзяліў з ім свае гора, што ён узяў частку твайго цяжару сабе на плечы. Пашла яна за Антося, як той толькі з салдатаў вярнуўся. Два гады жылі ў вялікай сям'і. Таксама хата ніколі ня сьціхала, лічаныя дні бяз сваркі праходзілі.

Браты Антосевы старэйшыя,—абудва жанатыя, з дзецьмі, кожны сабе глядзіць. Калі заробіць дзе каторы набаку—у кішэнь цісьне, на гаспадарку не дае. А яны ўдваіх, як малодшыя, ня маюць такой волі. Вечна са сваёю работай душацца, а калі справіць што, боты якія зрабіць ці хустку купіць, дык і няма за што. Нарадзілася дзіця, тагды і завяршылася. Біцца пробавалі некалькі разоў, ды нарэшце разарвалі гаспадарку на часткі.

— Ведаеш, Зоська,—гэта-ж яна наконт цябе ўсё пра Піперманіху ды пра сала. Гэта-ж Рыпіна са злосьці ня ведае, што брахаць, дык зложыла ды пусьціла гэтакую дзейку па сяле, што ты з настаўнікам абнімалася, ды загрубела ад яго, ды пасьля бегла да Піперманіхі і несла ёй сала. Вельмі-ж яны ўжо злуюць на цябе, што ты хлопцаў іх выказала. Грамабой раз у Сураўцовых казаў, што каб запарваў цябе дзе адну, каб ніхто ня ведаў, дык бы зразу канцы табе зрабіў і граху-б не пабаяўся.

— Няхай брэшуць, няхай ім языкі паадсыхаюць. Укусіць патом не асьмеляцца, дарма, што гэты абух грозіць. Няма, мінулася яму, кароткі рукі цяпераka,—храбрылася Зося, хоць плёткі гэтыя моцна такі яе ўразілі, а Грамабоя яна й дагэтуль баялася, а цяпер аж цела шэрхла, калі Ганна ёй гаварыла пра яго.—А гэтай сучцы Сураўцовай няхай ёй зарве. Каб яна аглядала так сваіх дзяцей, як яна бачыла, што я абнімалася. Каб яна кожны дзень па гэтулькі сала ела, колькі я Піперманісе занесла, дык бы пакуль здохне, ніколі-б не пакаштавала,—расхваляваласся дарэшты Зося.

— Дык ты, Зоська, глядзі, асьцерагайся патом. Чорм яму, гэтаму боўдзілу, і верыў, гатоў яшчэ залавіць дзе адну, ды... Што-ж ты тагды зробіш яму? У небе ня сыпчаш. Ды ня толькі-ж гэтыя злуюць на цебя за хлопцаў. Тут ужо адно за адно пачало чапляцца. Усе багатыры злуюць, кажуць, што гэта ты з Аўдолею ды Рыгор ходзіце ў воласьць ды ўдаяце, у каго збожжа шмат, ці хто парсюка добрага выкарміў. Нібыта гэта праз вас і разьвёрсткі панакладалі больш на іх. Кажуць: «усіх нас улада роўна абараняе, дык няхай і бяруць з усіх пораўні. У людзей кажуць, так і робяць, аў нас, кажуць, гэта праз іх (праз вас значыцца) гэтакая напасьць на людзей. Каржакевічу-ж восемдзесят пудоў жыта назначылі ды пуд сала. Воўны ня ведаю там, таксама шмат. Але гэты не Грамабой, гразіць ня будзе. Гэты ціхенька. Калі ўкусіць, дык спатайку. І не пазнаеш, што гэта ён, а знак будзе... Я свайму кажу: хаця ты ўжо ня лезь ў гэту калатушу. Не чапайся, кажу, няхай іх сарочка не чапае, а то калі, барані божачка, ды ня ўтрымаецца гэта ўлада, дык тагды-ж са сьвету зжывуць. Дык ён лаецца са мною, кажа, што я нічога не разумею.

А ўскорасьці Сураўцовы падшыванцы Зосі прайсьці не давалі па вуліцы. Меншы, абы толькі зглездзеў яе здалёк яшчэ, бяжыць і крычыць: «Міхась, Зося йдзе!» Той выскаквае з хаты ці з хлява. Хутка камечаць сьнежкі і складаюць у касьцёр за плот. Самі садзяцца ў дварэ за тым самым плотам і чакаюць, пакуль падыдзе Зося. Тагды пачынаюць дружна песьню, зложаную мусіць некім з старэйшых!

Зося, Зося
Пуза выстаў;
Завялося
Ад камуністаў.

Разоў дзесяць сьпяюць, аж пакуль яна, не аглядаючыся, міне іх хату. Тагды выскакваюць на вуліцу, дружна выпускаюць увесь запас сьнежак, у плечы і ў патыліцу, адскочацца і пачынаюць зноў абразьлівую песьню. Ужо за хат дзесяць яна адойдзецца, а яны ўсё крычаць на ўсю вуліцу.

Пу-у-уза завялося!
Са-ала зьвялося!

А Рыпіна паглядае ў вакно з-за шалёўкі і цешыцца:

— Ото, ня шкодзіць! Ото добра! Малайцы хлопцы! Няхай ведае гэта флюндра, як удаваць добрых людзей.

Калі раз Зося ішла з Аўдоляю, ды яны гэтак напалі, дык тая не сьцярпела. Сьціснуўшы дручок ў руцэ, падалася да жэўжыкаў:

— Я вам, шчанята вы, каб вы не паўзрасталі! Як злаўлю, дык усе вушы паадкручваю, ды ў камітэт яшчэ заяўлю. Гэта маці вас так навучае?

Меншы зразу кінуўся ў дзьверы скардзіцца мацеры.

Калі ўжо Аўдоля з Зосяю адышліся да суседняй хаты, на вуліцу выбегла Рыпіна. Узяўшы рукі ў бокі і падаўшыся ўсім тулавам да Аўдолі, яна крычала:

— Хто мае права маіх дзяцей ушчуваць?! Аднаго ўправілі, а цяпер ужо да гэтых дабіраецеся? А не дажджаце вы! рукі кароткі! Няхай толькі паткнецца каторая, дык я табе, сучка ты сухая, вочы выдзеру, я табе ўсе калдуны павырываю!

— А ну, падыдзі сюды, зьненавідзь!—абярнулася Аўдоля з дручком.—Вось пацягну раз па шчарбялёх па тваіх, дык і хопіць з цябе.

— На, во—бачыш?—скруціла тая дзьве хвігі. Потым—як віхрам яе закруціла—адвярнулася, нагнулася, лёпнула заўзята сябе ззаду па хвандах спадніцы і паджгала ў хату.

---

Другі мяшок з жытам завязвае ў сьвірні стары Верамейчык. Рукі, якімі ён зьбірае ў роўныя складкі бераг мяшка, трасуцца, на твары ад носа і да куткоў губ глыбокія пакутныя маршчыны. І ад таго, што ў зубах ён трымае нарыхтаваную аборачку—завязку (абедзьве рукі заняты) маршчыны гэтыя здаюцца яшчэ глыбейшымі і пакута яшчэ большай. Зглеедзеў Андрэй Каржакевіч з вуліцы Верамейчыка з мяшкамі ў сьвірні. Знарок зайшоў.

— Як маецеся, Верамейчык?

— Як самі здаровенькі?

Адагнуўся той ад завязанага ўжо мяшка. Парукаліся.

— Ці ня ў млын гэта рыхтуецеся?

— Ай, дзе бачылі! Гэта-ж вось трэба аддаваць. Два мяхі ўжо раней завёз, а гэта вось яшчэ. Дваццаць жа пудоў усяго налажылі.

— А я думаў у млын... Зайду, думаю, запытаюся, можа чулі ці завозна там. Мне-ж самому трэ было...

— У млын, сказаць, і везьці ўжо мала чаго засталося.

— Дайце рады. Таварышы чыста падмятаюць. Я думаў, што на вас увагу якую небудзь мець будуць, адно-ж і вам...

— А што-ж я ў іх за лепшы?

— Чаму. Сын ваш такі ў іх служыць дый нявестка ваша, кажуць, даходная да іх.

— Сын, як сын, а з нявесткай—маўчэце вы ўжо лепш, пане Каржакевіч. Праўда гэта, ці ня праўда, а людзі гавораць. Дык, думаеце, мне гэта прыемна, што сорам у вочы зірнуць добраму чалавеку? Альбо я карысьць якую маю ад гэтага?

— Ды яно-ж так... Я ўжо думаў пра вас. Не пашанцавала трохі вам з нявесткаю. Карысьці свае не разумее жанчына. Глядзіць на тых, у каго

зусім няма нічога. Тыя з зайздрасьці падбрэхваюць і яна з імі. А яно каб усе ў адно гаварылі, што няма лішняга хлеба ў нас, зямлі мала ды не ўрадлівая, то нябось, не налажылі-б гэтулькі на вёску. А тагды і вам, і мне, і пятаму й дзесятаму ня прышлося-б па гэтулькі даваць. То што я меў лішніх шэсьцьдзесят пудоў туды аддаваць, дык лепш бы я якога паўпуда ці пуд той самай Аўдолі ці Рыгору даў. І ёй добра было-б і мне лягчэй. А то зараз таварышы ўсіх падраўнуюць.

— Каб жа яны падраўноўвалі ды ўгору, з багацейшымі, дык я-б ім яшчэ й падзякаваў, ато-ж яны ўніз раўнуюць.

«Вунь ты чаго захацеў! Кароткі пяты»,—засьмяяўшыся толькі вачыма, падумаў Каржакевіч, а ўслых сказаў:

— Вось я-ж тое і кажу. Зараз усе будзем сьвяціць, шануючы вас, голымі задніцамі і кожнаму трэба будзе дапамагчы. Ды ня будзе ў каго ўзяць. Я ня ведаю, што яны й думаюць сабе гэтыя таварышы... Мусіць, каб на доўгае спадзяваліся, дык бы гэтак не рабілі. Гэта вы сёньня думаеце везьці?

— Трэба везьці. Даўно ужо трэба было, ды я думаў, што можа яно так як небудзь абойдзецца гэтыя дзесяць пудоў. Адно-ж прысталі—рады няма. Пагразілі, што калі не павязу, дык самі прыедуць забіраць.

— Я таксама аддаў ужо. Даўно, яшчэ перад калядамі. Тры вазы як каню павезьці. Але-ж на мяне яны вока ня маюць яшчэ за Ўладзіка. Дый так... Нельга мне было цягнуць. А вам то можна-б і пачакаць, можа перамена якая будзе.

— Ня чуваць нешта перамены.

— У Кранштаце, чуваць, матросы ўзбунтаваліся. Сіла вялікая. Караблі і гарматы ўсе захапілі. І заграніца ім памагае. Цяжка здужаць іх бальшавіком.

— То што-ж тагды будзе? Хаця-б палякі не вярнуліся,—занепакоіўся Верамейчык.

— Палякі то наўрад ці вернуцца. Заграніца тагды ім не дазволіць. Але што ўлада можа зьмяніцца, дык гэта праўда.

— Хто яго ведае як яно... горш будзе ці лепш,—задумаўся Верамейчык.—Якая-б улада ня была, дык з нас яна скарэй возьме, як дасьць, бо дзе-ж яна начай возьме, як ня ў мужыка?

— Добра даць, але-ж ня гэтулькі.

— Баюся, пакуль што якое, каб кепска ня было. Трэба, мусіць, везьці,— адказаў Верамейчык хутчэй на нейкія свае думкі, як на заўвагу Каржакевіча.

Каржакевіч далёка ўжо дыміў самаробнаю, скручанаю з «мультану», цыгараю, а Верамейчык усё сядзеў на мяшку, абапёршыся далонямі на калені, і думаў.

*(Працяг будзе)*

А. Куляшоў

# АПАНАЛ

**(Аповесьць)**

(*Працяг*)

## РАЗЬДЗЕЛ IV

Бачылі: сядзеў валацуга на камені,
І плыў па небе балачынавы ланцуг...
Ён некаму дужа пагражаў кулакамі,
І праклінаў свой лёс валацугі.

Куды ён ідзе—у яго пыталі,
А той казаў, што ён зельлем акроплены,
Казаў, што мозак яго—
сплаў медзі і сталі,
Казаў, што ў яго вашыны клопат.

Пыталі—дзе яго маці радзіла,—
Ён д'ябла называў сваім кроўным братам,
Прытулак вядзьмачы—сваёй радзімай,
І людзі лічылі яго за вар'ята.

І тады з вялікай вашынай злосьці
Ён пасек кашулю на кавалкі дубовым кіем:
І кінуўся ў лес, у якім некалі жылі лосі,
А цяпер, па захадзе сонца, вылі ваўкі.

У той час,
на Худавым хутары
Клён атрасаў мядзяныя пятакі,
а бярэзьнік капейкі.
Камянеў лес сонцам неадхуканы,
Крапіўныя сьцежкі абсыпалі апенькі.

Як прышоў валацуга туды, людзі ня бачылі—
Тумановая цемразь на варце стала,
Ён сабаку паклікаў імем сабачым,
І сабака хвастом яму пахвыстаў.

І зусім валацуга ня быў вар'ятам.
Ён грэўся ў Худавай хаце ля грубы,
Гаспадар яго назваў афіцэрам і братам,
А той гаспадара назваў Якубам.

Ён вымыўся ў лазьні. І ў новай кашулі,
Калі над хутарам рос пеўнікавы кліч,
Спаў на канюшынавым шуме...
І ў бледы досьвітак ён зьнік.

Гэта ў мінулым годзе адбылося:
Калі хутар зарастаў апенькамі,
Гэта адбылося па восені:
Клён атрасаў мядзяныя пятакі,
а бярэзьнік—капейкі.

Калі ён зноў прышоў да Худавай хаты,
Пачынаўся чацьверты месяц.
У яго была гаворка з братам,
А над пушчай боўтаўся русальчын месяц.

Раніцой ён знайшоў сьвятую крыніцу,
Яна ішла з-пад могілак дзядоў.
І тады да яе прыходзілі бабулі маліцца,
І стаяць на мокрым мосе доўга.

Анупрыёнак Восіп, Мацьвеенка Агата,
І іншыя Худавы даўжнікі прышлі туды,
Валацуга ўсіх абвясьціў братамі,
І ў новую веру ахрысьціліся браты.

І тут-жа бабулі малілі доўга,
Скаргі Хрысту пасылалі ў прыцем,
Яны малілі, каб прышла іх маладосьць,
І плакалі, таму што ня прыдзе.

У бабулек быў твар з воску літы
І голас, як гіблы хрып асін...
Тут-жа стаялі Мацьвеенка Агата,
Анупрыёнак Восіп.
І прасілі ў Хрыста Худавай літасьці.

Тут-жа гаспадар дзякаваў братца.
Ён старанна маліўся... Яго малітоўнік другі:
За добрую талаку, за выгоднае брацтва,
І за тое, што адпрацуюцца даўгі.

Тут-жа стаяў настаўнік. Быў твар яго чорны,
У вачох яго застыла трывога.
І ён думаў, што ён падобны на дужага чорта,
Якому адно засталося—кпліва рогат.

Усе яны кругам пасталі,
І хадзілі шэпты кругам...
А самы галоўны—валацуга,
Маліўся за тое, што людзі яго не пазналі.

З боку стаяў Юнак.
І яму здалося сьмешным
Яго валацужніцтва.
Ён толькі зірнуў на настаўніка,
Усьміхнуўся, і пайшоў
упрочкі,
праз межы...
... І тады перад ім радзіма яго паўстала.

Ён ішоў. Да яго даляталі гучныя словы,
Гэта штунды свой гімн зачалі:
— Хрыстос прышоў у сьвет суровы,
Каб царства ўславіць на зямлі!

На партыйна-комсамольскім сходзе
ухвалілі
рэзолюцыю
(У штундаў было маленьне тады):
Настаўніка, ворага культурнай рэволюцыі,
Які нядаўна паступіў у штунды,
Зьняць з настаўніцкай працы
І лічыць дэзэртырам з фронту культуры.
Лічыць, што штундаўская провокацыя,
Ёсьць новая вылазка кулацкай агентуры,
І перашкаджае організацыі колектыву.
Неабходна:
Парторганізацыі і комсамолу
Наладзіць дыспут, праявіць актыўнасьць...
Вылучыць:
новага настаўніка таварыша Міколу.
Масавы вечар наладзіць заўтра.
Усім падрыхтавацца. Зборны пункт—
„Куток Леніна“.

Таварышу Міколу:
дамовіцца з штундаўскім арганізатарам,
Наконт ягонага ўдзелу і выступленьня.

Верасень. 1917 год:
На Беларусі вайна,
На Украіне крычаць галодныя валы,
На небе зьнічкі завязваюць
рабінавыя вузлы—
Такія ночы рабінавымі назваў народ.

Рабінавая ноч. Ад сініх зьнічак навокала
Выюць ваўкі
і сабакі хаваюцца за вароты...
У цемры цягнік—
чырвоным вокам
Бліскае
і грукаціць на заваротах.

Ён толькі што з фронту,
толькі што з аршанскага дэпо
Вырваўся ў рабінавыя панарамы,
Мінуў Ходасы, Клімавічы, і потым
Спыняецца на станцыі Комунары.
Адгэтуль ідзе сказ пра Міколу:
На станцыю каня яму прыгналі вяскоўцы,
І конь скрозь ноч ляцеў праміком
Да маёнтку Галынскага на Гайдукоўцы.

Назаўтра тыя,
чые рукі згрубелі ад працы,
І тыя,
што хаваліся ў лесе,
ад слова—вайна,
Ў рабінавую ноч ламалі палацы.
І пан на сходкі скочыў з вакна.
Калі ламалі дзьверы.
пана працяў пяруновы ток,—
Цараў портрэт напал перарэзала бліскавіца.
Ён уцякаў праз вакно і ня ўцёк:
На сходках яму здавалася,
што недзе воўк скавыча.

Праз колькі дзён,
Мікола—
злачынца вялікіх памераў:
Вусатая варта і пяцьдзесят вёрст дарогі,
Па воле воласьці і мясцовых эсэраў,
Яму належала сядзець у Чэрыкаўскім вастрозе.

Свайго вастрогу лічыў ён трыццаць
Дзён, апранутых у шэрыя хмары...
На другі дзень пасьля 25 Кастрычніка
Дзьверы вастрогу адчыніў яго таварыш.

У воласьці хваляваліся эсэры:
— Ён нам учыніць рабінавую ноч!..
А ён з таварышам у досьвітак шэры
Глядзеў на краявіды скрозь вагоннае вакно.

І
...
Як кажа рэзолюцыя:
вечар наладзіць заўтра,
Ўсім падрыхтавацца.
зборны пункт —
„Куток Леніна“.
Таварышу Міколу дамовіцца
з штундаўскім організатарам,
Наконт ягонага ўдзелу і выступленьня.

Калі сьпявалі штунды гімн урачысты свой,
Скрыжаваўшы рукі,
і ўглядаючыся на Захад,
Настаўнік пайшоў у лес,
у яго быў настрой,
Прыгадаць мінулае—азірнуцца назад.

А калі штунды скончылі сьпяваць і маліцца
І панаваў у пушчы перадзахадавы спакой,
Прыбег з вёскі да іхнае крыніцы
Новы настаўнік, таварыш Мікола.

Ён адразу прызнаў галоўнага,
Як сярод чарцянят прызнаюць д'ябла,
Ён зьмерыў яго зіркам з галавы да ног.
І ў валацугі з рук выпаў надкусаны яблык.
— Вы будзеце ў іх за організатара?
— Так,
якая ў вас да мяне патрэба?
— Бачыце, мы думаем наладзіць заўтра,
Антыбаптысцкі дыспут. Нам трэба
Мець супрацоўніка...
Мы мелі...

У валацугі быў белы твар
і гушчарны зірк цяцеры.
Мікола зірнуў на яго
згадаў паўстаньне ў Гомелі
І высокага бледнага афіцэра.
— Калі я не памыляюся...
Вы былі ад'ютантам...
Валацуга Міколу падхапіў пад рукі:

— Ідземце хутчэй...
Так, я быў ад'ютантам...
Вы кажаце—дыспут...
Я згодзен.
Для пашырэньня навукі...

Я не пярэчу, навука добрая рэч...
— Выбачайце, я вас арыштоўваю!..
Вы вораг бальшавікоў...
Але яго перапыняе стрэл.
І валацуга хавае ў кішэню кольт.

І стаўшы над акрываўленым чалавекам,
Ён казаў:
— Браты мае, прыяцелі,
Не падыходзьце да яго,
ён адыходзе ў пекла,
Бачыў я, сам д'ябал прастрэліў яго цела!

Ён перахрысьціўся.
І Худ сказаў:
— Аман!
Шапталі бабулі:
— рука д'ябла, рука д'ябла!
Усе ўцякалі, за хвораст чапляючыся нагамі,
І каля Міколы ляжаў толькі
надкусаны
яблык.

(Ідзе настаўнік. Ён нічога ня ведае пра стрэл,
Ён блізка ад Міколы,
але чалавечае крыві не заўважае,
Ён глядзіць на чырвоныя макушкі дрэў,
Ён хмуры і сам пра сябе разважае):

Настаўнік: Зноў той-жа мірны, прыкры захад,
Быццам пеўнікавага сэрца
крывёю абліты.
Мікола: *(падымаецца на локці):*
І так хочацца азірнуцца назад,
Прыгадаць знаёмыя абліччы.

*

Настаўнік: Ты... Той самы... Мікола!
мы зноў стрэліся..,
Памятаеш Чэрыкаўскі вастрог?
Мікола: Маўчы... Ты... Лепш не кажы... наконт
Новае стрэчы нашых дарог.
Настаўнік: І многа было тады рознага,
Згадай... Тады быў час прыгожы.
Мікола: Я чуў... Што ты згубіў розум,
І трапіў ня ў тое падарожжа.
Настаўнік (рве на сабе кашулю, перавязвае Міколу рану):
(*нізка нахіляецца*)
Рана я на сьвет нарадзіўся, Міколка, рана.

Таму я чую голас патайны,
Голас з-пад Эйфэлевай вежы,
Што мы рэволюцыю прытапталі
І на мапе сьвету тыя-ж межы.

Мікола: Яна там... Дзе мы...
Ліквідуем няпісьменнасьць...
Яе ўжо... не затопчуць...
Старакапытавы і Каледзіны.
Яна там... у бубнах піонэрскай зьмены,
І можа ты яе простым вокам ня ўгледзіш.
Пазнаўшы яе... ня станеш душой крывіць...
І яе добра пазнаў...
твой таварыш Мікола...
Яна жыве...
вось...
у гэтай крыві...
Яна там...
дзе дымнь'я...
раны ад ворагавага кольта.
*(Падае).*

Бягуць комсамольцы.
Нехта крычыць:
— Забіў яго, паскуда!
І ўсе моўчкі спыняюцца каля яго...
— Ён... брат Худа...
Афіцэр... былы ўдзельнік... у паўстаньні...
ў Гом...

Яны паднімаюць цела непатрэбнае,
парожняе...
Яны яго панесьлі
і моўчкі пакладуць у клюбе...

*

Праз нейкі час у лесе пачынаецца
дробны вясновы дожджык;
Чуваць, як на вёсцы граюць трубы.
Настаўнік: Труна адчынена. Сэрца попелавы дрож.
Адпяваюць рагатыя трубы,
Рассыпаючы сумнай медзі дрож...
(Ідзе далей у лесавыя глыбы).

## РАЗЬДЗЕЛ V

Калі мясцовая газэта вышла з друкарні,
Гарадзкія жыхары чыталі ў аддзеле навін:

Гандляр адчыняе сваю пякарню,
Набірае рабочых на паравы млын!

Пад вечар адчыняліся рэстораны,
Там модныя маршы музыкі гралі,
А каля Гандляровай крамы
У той самы час расла чарга.
І тут-жа на вуліцы, перад піўной,
Як і даўней хлапчукі крычалі:
— У гэтай піўной
п'е поэт Сымон Развой
За лепшую будучыню
і вясёлых дзяўчат!

Тады быў час позьні,
І запалілі каля крамы ліхтар,
Калі падышоў да чаргі і стаў апошнім,
Чалавек, у якога быў бесклапотны і вясёлы твар.

А першы ў чарзе лаяў касіршу:
— Дура!
Чаму партызана ня прымаеш?
— Так загадаў Гандляр
— Перадай яму, што сьмярдзіць ён, як сабачая скура,
І што я яго некалі пацягаю за карак...
Хлапчукі крычалі:
Выключная эмоцыя!
Стыхія душы, як мора! Як вецер!
А другі пытаў:
— Якіх прымаеце?
— Ціхіх!

Першы: Дурня прымаюць, каб ня ўкусіў за локаць.
Другі: Скажы яму, што ён аднавокае ліха,
І я абяцаю выбіць яму апошняе вока!

Хлапчукі крычалі:
— Агонь яго сэрца палкі і моцны,
Яго кахаюць лепшыя дзяўчаты ў сьвеце!

А трэці казаў:
— Ня пойдзем да гэтага?!
Другі: Мы нічога ня страцім усё роўна!
І тады загаварылі чалавечым басам радыёрупары:
— У краіне Саветаў
Не павінна быць беспрацоўных!

Хлапчукі апавяшчалі і клікалі:
— Дзяўчаты пакахайце яго, вялікага!

А чацьверты з чаргі падышоў да касіршы,
Каб пераканаць яе, што ён белы бандыт
Але новы беспрацоўны прыбег і крыкнуў
— Біржа,

Пасылае рабочых на фосфорыт!
Загрукацелі ад тупату сходкі—
Беспрацоўныя пакідалі Гандляроў ганак,
І яны ўсё далей адыходзілі,
грукаючы нагамі...
І ім тлумачыў
іхны таварыш,
што зацьверджан плян пяцігодкі.
Хлапчукі крычалі, як і раней...
А апошні чалавек з чаргі
казаў да касіршы ў ваконца:
— Я арганізатар комсамольскага атраду
на Калінінпічыне,
Які лавіў вядомага бандыта Чырвонца!
Касірша адказала яму:
— Ня прымем!
А пасьля паляпала пальцамі па стале,
зірнула на зоравае неба,
Падумала і сказала:
— Прымем!
Але чалавек усьміхнуўся і сказаў:
— Ня трэба!

**Звалі яго Юнаком. Быў час позьні,**
**Ён згадаў, што яшчэ ня скора**
**адыходзіць цягнік,**
**І пайшоў туды,**
**дзе падымаў келіх апошні,**
**Поэт Сымон Развой,**
**за вялікі горад**
**і электрычныя агні.**

Калі Юнак адчыніў дзьверы,
паўсталі перад ім,
Поўныя келіхі ў люстравым дыме,
Ён стаяў ахутаны ў сыгарэтавы дым,
І поэт Развой схапіў яго ў абдымкі...
Ён яго пасадзіў за стол
і крыкнуў:
— Папахен!
І перад ім паўстаў чалавек
сьвету
рэстараннага,
бронзавага...
— Шампанскага,
чорт падзяры,
шампанскага,
Трэці келіх, самы вялікі!
Грайце, слаўныя музыкі,
Мядзяныя сонаты сяброўства!

Юнак сьціскаў скроні рукамі,—
Недзе ў шкляной пасудзіне дзынкала муха...
— Мы цябе даўно з Гандляром шукалі...
Казаў яму Развой на вуха.
Юнак слухае струн
мядзяновую скруху,
І яму ўвесь час здаецца—
Што недзе дзынкае
над падальлю
жоўтая муха
І кроў сасе ў пячорах няжывога сэрца.
Яму казаў Развой:—Здаецца
У нас пра цябе была гаворка ўчора...
— Вы думалі, што кожны мае ў сэрцы
Даўнія, для жоўтых мух пячоры?
Казаў Развой:—Я знаю, ты другіх дарог,
Тады, як мы дарог старэчых...

Але...

... Прышоў Гандляр.
Яны сядзелі ўтрох
І так казаў з іх трэці:
— Мне здаецца... Я чуў,
Вы чалавек разумны, добры, чулы?
Юнак: Так, у мяне лірычнае сэрца,
Усё тое праўда—
напэўна пра мяне вы чулі
Яшчэ, што я вам спачуваю?
Гандляр: Калі яшчэ ня чулі, дык пачулі...
Юнак: Вы чалавек разумны.
Пра вас далёка чуваць,
Вы славіце поэтаў на кожнай вуліцы!
Гандляр: Вы хочаце?.. Адно толькі ваша слова
І будуць вам славу крычаць мае хлапчукі.

(*Юнак маўчыць*).

Развой: Скажэце яму, на якіх умовах...
Гандляр (*да Юнака*): А пасьля права вашай рукі?
Юнак (*усьміхаецца*): А пасьля пыціск маёй рукі.
Гандляр (*п'е*): Я хачу, каб вы напісалі
хроніку маіх продкаў,
Вы гэта зможаце...
Апранеце іх у чырвоны колер,
Няхай яны праліваюць за рэволюцыю кроў,
Няхай яны ворагамі ня робяцца ніколі...
Юнак: Накідаць кволы тургенеўскі пэйзаж,
Паставіць на могілкі
некалькі кляноў і бярозак
з восені савецкай,—
І няхай у сэрцы вашых продкаў
шуміць Чорнаморскі пляж,
І вечары гулянак сьвецкіх?

Гандляр (*п'е*): Таксама і магілкі трэба прыгледзіць,
Няхай бярозкі
вартуюць
кроўныя пакаленьні...
Юнак: Няхай сыплюцца
кружочкі золата і медзі
На іх галовы
з родзічавае кішэні...
Вы хочаце, каб я напісаў
хроніку вашых продкаў?
Гандляр (*п'е*): Каб яны пралівалі за рэволюцыю кроў,
І елі з катаржацкае місы
полудзень нішчымны,
Каб яны цягалі па горах
сібірскія пароды...
Юнак: Але спачатку я павінен ведаць прычыны,
Якія вас прымусілі
згадаць
пра хроніку продкаў.
Гандляр (*п'е*): Хіба вы ня бачыце самі,
Як падыходзяць другія часы?..
Хіба ня прыдзе апошні дзень маё крамы
Калі кожны лічыць, што я чужы?
Хоць бы сягонешняе здарэньне,
Калі беспрацоўныя нават
пачалі мяне
лаяць і карыць...
Юнак: Якраз дарасьлі вашыя карэньні,
Да тэй глыбіні,
калі іх трэба падрыць.
Гандляр: Да глыбіні, калі іх трэба падрыць?
Юнак: Калі іх трэба вырваць нават,
Голымі, бяз жаднае акрасы.
Гандляр: Хто вам дазволіць вырваць нават?
Юнак (*усьміхаецца*).
Хто?
Клясавая нянавісьць.
Гандляр: Але што-ж вы без мяне будзеце рабіць?
Юнак: Усё, што ня можам рабіць з вамі разам.
Гандляр: Дык вы напішаце пра час калішні,
Трохі бярозак... І болей чырвонага колеру.
Напішаце,
што ўсе мы з-пад царавай шыбеніцы вышлі!
Юнак: Што вы жартуеце?
(*устае*)
Ніколі!
Гандляр (*устае*). Пішэце хроніку продкаў!
Пішэце болей!
І ваша слава будзе створана маімі рукамі,

Пішэце, з якім
(за продкаў)
болем,
З якой любоўю
(да рэволюцыі)
крычу я ў краме:
„Паспрабуйце заморскіх він,
І будуць вашыя шчокі, як ружы!“
Юнак: А памятаеце:
Чычыкаў адчыняе магазын,
Будзе прадаваць гогалеўскія душы!
Гандляр (*хоча ўсьміхнуцца, але ня можа*).
Юнак: У вашых продкаў сталёвая на могілках агарожа—
Вам трэба іх апрануць у чырвоны колер?
Я гэтага вам не напішу!
Чуеце?
Ніколі!

Памятаеце, як палацы гарэлі,
Вы тады ня мелі права нікога карыць...
І цяпер
якраз дарасьлі
вашы і Худавы карэньні
Да тэй глыбіні,
калі іх трэба падрыць.
(*Разьвітваюцца*).
Мне некалі быць з вамі
ў люстравым дыме,
Роўны лік налічылі гадзіньнікі,
І мне трэба ехаць цягніком на радзіму,
У тыя мясьціны,
дзе некалі
маці радзіла.
(*Ідзе*).

*

Гандляр (*на вуха Развою*):
Ты яго ня слухай...
Яны нам нічога ня зробяць...

— А можа яны так...
як некалі ў час вайсковы?
Гандляр: Ты не зважай на гэтыя дробязі,
Галоўнае, што ў мяне
ёсьць таварыш Худ,
адзін вясковец...

Ты-ж памятаеш,
як мы ў семнаццатым
іх стрэлі?..

— Але-ж цяпер не такі час!
Гандляр: І той з іх адчуе,
што такое глухія стрэлы,
Хто будзе больш ад усіх крычаць.

— Але яны нас зьнішчаць экономічна!
Гандляр: І гэта будзе прадугледжана намі:
Я толькі сьмяяцца з іх буду,
Калі яны будуць хадзіць
голыя,
толькі пры адным
чырвоным банце.

— Але-ж яны будуць будаваць...
Яны будуюць!
Гандляр: Яны ня будуць будаваць...
я сплаўлю іх валюту
ў контрабандзе.

— Але-ж яны ведаюць,
што ты іх вораг люты!
Гандляр: А ты лірычным словам
іх сэрца крані...

У мяне будзе праз тыдзень
контрабанды
на тысячу рублёў валюты,
І ты атрымаеш замежнае пальто
і гарнітур.

— Вядома, я гэтае буду мець...
Гандляр: І ты напішаш пра кроўныя пакаленьні
Чакай... Хто гэта сказаў:
Сыплюцца кружочкі
золата і медзі
На іх галовы
з родзічавае кішэні?“



У гэты час
мяжу пераходзілі
два контрабандысты,
І адзін з іх быў забіты:

Гэта быў той,
        каго Мікола запрашаў на дыспут,
Госьць Гандляра,
            брат Худа
              і ўдзельнік у паўстаньні Стракапытава.

А калі яго цела ў заставу ўзялі,
У кішэні быў знойдзены
                    пагранічнікам чырвоным
Рукою Гандляра напісаны ліст,
Кольт...
      і дзьвесьце савецкіх чырвонцаў.

26-IX—30-X
1931 г.

*(Працяг будзе)*

Р. Мурашка.

# С Ы Н

(Кіно-аповесьць)

*(Працяг)*

## ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

Гааляналвае поле Манчжурыі. Гаалян варушыцца, рухаецца, калышацца няроўнымі хвалямі.

З вінтоўкамі на перавес, схаваныя гааляпам, прабіраюцца шэранькія фігуркі. Адна... дзьве... пяць... дзесяць... сотні... тысячы ідуць гааляпавым полем:

**За веру, цара і айчыну.**

Далёка ўперадзе бліскучыя срабрыстыя на сонцы сопкі.

Адна з сопак зацягваецца раптам дымам. За ёю другая, трэцяя...

Японскія снарады ўзрываюць гааляпавае поле. За выбухамі і дымам нічога ня відаць.

Дым расьсейваецца.

Ільсьцяцца ўдалёку манчжурскія сопкі.

Узрытае снарадамі гааляпавае поле. Нярухомыя, залітыя крывёю шэрыя фігуркі—адна... тры... пяць... дзесяць... Многа іх на ўзрытых гааляваным полі.

Рэшткі калён паразрыванымі радамі бегма бягуць назад са здрадніцкага гааляну.

Канвэрт, абведзены чорнаю палоскаю, у загрубелай мазольнай руцэ. На канвэрт капаюць сьлёзы.

Вясковая хата. За сталом з жалобным канвэртам у руцэ бязуважны сядзіць Ясь.

Бяз сэнсу ўтаропленыя ў адну кропку вочы.

**— Сын мой, сын мой!..**

Канвэрт падае з рук на стол.

Ясь цяжкаю хадою выходзіць з хаты.

Даўгі роўны шлях.

Па шляху аслабелаю хадою ідзе Ясь. Незашпіленая на апліку сьвітка адкрывае валасатую грудзіну. На твары балючая пакута, сьляды сьлёз.

Ігнасёва вёска. Двор Агапы.

Пад сенцамі стараста, аконам пана Вайніловіча, дзесяцкія.

Перад старастам напалохана-пакорлівая Агапа.

**— За самаўпраўства ў панскім лесе зьбірайся ў халодную... А там суд разьбярэ.**

Ломіць рукі і галосіць кабета.. Раптам супакойваецца. Абцірае рукавом сьлёзы. На твары зноў прыбітасьць і ціхая пакора.

Палявою мяжою, ледзь перастаўляючы ногі, ідзе Агапа. Сьледам з грубою чачоткаваю палкаю дзесяцкі.

Апусьцелы Агапін двор. Жмуты саломы зьвісаюць над вокны хаты. На дзьвярах сянец замок.

«Халодная» пры воласьці. З-за кратаў пазірае змучаная Агапа. Вочы з тугою імкнуцца ў далёкую далячынь.

**За веру, цара і айчыну.**

Вялікі цяжкі замок на дзьвярах «халоднай».

Пахмурная раніца. Зрэдку праходзяць па гарадзкіх вуліцах людзі. Можна пазнаць, што гэта рабочыя.

Ува ўсе бакі сьпяшаюцца рабочыя.

На рагу дзьвёх вуліц. Арон жыва азглядаецца на бакі. Схіляецца да вуха свайго размоўцы рабочага-друкара.

**— Сягоньня. Майзэль, канчай з шрыфтом. Увечары буду ў цябе.**

Лёгкая складка заклапочанасьці на ілбе ў сухарлявага, шчуплага Майзеля.

Рэзкі ківок галавы ў знак згоды.

Нэрвовым крокам адыходзіць ад Арона.

Майстэрня Зуся. Перапынак на полудзень. Рабочыя—хто сядзіць на варштаце—ёсьць свой мізэрны сухі полудзень, хто прытуліўся ў кутку—з асалодай курыць махорачную цыгарку.

У адчыненых дзьвярах да вушака прысланіўся Ігнась. Вочы лятуценна глядзяць перад сабою.

Да майстэрні падыходзіць Ясь. Аголеная пад расхрыстанай сьвіткай валасатая грудзіна. Скамечаная шапка сядзіць няпрывычна на калматай галаве.

Лятуценны выраз зьлятае з твару Ігнася. Ён зьбягае на тратуар. З радасьцю трасе руку Ясю.

Нізка хіліцца на грудзі галава Яся.

Ігнась устрывожаны.

У вачох у Яся сьлёзы.

З майстэрні на вуліцу падазрона высоўваецца галава Юзіка.

Ігнась бярэ за руку Яся.

Павольна ідуць вуліцаю.

У пакоі Арона.

Пахмура ўтоўпіўшы зрок у падлогу стаіць Ясь.

Размашлівым крокам ходзіць па пакоі Арон.

**— — Досыць пакуты! Сялянства ня можа больш цярпець. Скажы Дубу, Ясь, што мы яго чакаем пасьлязаўтра.**

Ігнась ласкава дакранаецца да Ясявай рукі.

**— Не гаруй, бацька. Здачы трэба даваць. Тады і на нашу вуліцу прыдзе сьвята.**

Ноч. Глухімі завулкамі прабіраецца Арон. На хвіліну прыпыняецца—тады фігура зьліваецца з цёмным плотам і зноў пасоўваецца далей.

Нізенькая старая хатка на ускраіне гораду. У хаце цёмна.

Арон стукае ў дзьверы.

Дзьверы адчыняюцца—цемра праглынае Арона—і зачыняюцца.

Аднекуль зьнізу цягнецца вузкая палоска цьмянага сьвятла. Сьвятло цягнецца млява і млява асьвятляе стромыя брудныя сходкі ўніз.

У палоску сьвятла пападаюць ногі чалавека, які намацвае кожную сходку.

Глухое сутарэньне без вакон. Стол. На стале газьніца. Пры стале на падстаўках груба зробленая наборная каса.

Майзэль раскідае па касе шрыфт.

Адчыняюцца дзьверы ў сутарэньне, упускаюць Арона.

На хаду Арон дастае з кішэні ліст сьпісанае паперы. Зморана садзіцца.

**— Жывеш ты ў чорта ў запазусе. На, вось, набірай хутчэй.**

Вярстатка ў руках Майзэля.

Шпарка бегае рука Майзэля ад касы да вярстаткі.

Вярстатка поўная літар у руцэ ў Майзэля.

Адбітак праклямацыі.

*„Пролетаріи всехъ странъ, соединяйтесь. Россійская Соціалъ-демократическая Рабочая партія.*

*Ко всъмъ гражданамъ.*

*Вокругъ происходятъ неслыханныя насилія въ угоду привилегированной кучки всесильныхъ палачей и богатеевъ. Поля далекой Манчжуріи заливаютсл кровью народа. Съ каждымъ днёмъ все новыя и новыя жертвы приносятся на алтарь монархіі. Кровавые палачи лицемерно скорбятъ будто-бы со всемъ народомъ, а темъ временемъ посылаютъ все новыя и новыя тысячы людей на убой.*

*Во имя чего совершается эта кровавая бойня? Во имя чьихъ интересовъ тысячи людей складываютъ свои головы на поляхъ далекай Манчжуріи, люди никогда не слыхавшие о ней ни слова?*

Арон чытае.

На сухарлявых шчоках выступаюць тургункі мускулаў.

*„Но справедливость должна восторжествовать надъ произволомъ. Подымайте голосъ протеста противъ войны, противъ бесчеловечныхъ дъяний кровавого царизма. Довольно крови! Долой самодержавіе на трупахъ народа установившее трон!*

*Да здравствуетъ борьба противъ угнетателей народа!*

Міргае сьвятло газьніцы.

Цьмяна асьвятляюцца глухія сьцены сутарэньня, наборная каса, стол.

Куты сутарэньня ўнізе і ўгары патаюць у цемры.

Майзель схіляецца побач з Аронам над праклямацыяй.

**Зацямненьне.**

Мост на рацэ пры ўезьдзе ў горад.

На парэнчы ўзапёршыся, тварам на раку, стаіць Ігнась.

З маста адкрываецца жывапісны від на горад.

Раз-по-раз Ігнась кідае позірк уздоўж вуліцы, напружна ўзіраецца і расчаравана глядзіць зноў на раку.

Мостам праяжджаюць сялянскія хурманкі. Ідуць пасьвятковаму адзетыя хлопцы і дзяўчаты з вёсак.

Ігнась нецярпліва адрываецца ад парэнчаў.

Кватэра Любы.

Да ганку падыходзіць Ігнась. Спыняецца нерашуча.

Нага павольна становіцца на сходцы і рэзка зрываецца. Ігнась пад уладай нейкай унутраной барацьбы—ісьці ці не.

Дзьверы Любінага пакою.

За ручку дзьвярэй бярэцца Ігнасёва рука.

Пакой Любы. Побач пры стале сядзяць Люба і Юркевіч.

Адчыняюцца дзьверы. Ігнась.

Люба дэманстратыўна пакідае сваё месца. Падыходзіць к Ігнасю.

Сарамяжна-вінаваты Ігнасеў твар.

**— Я думаў, ці не забылася ты аб тым, што мы ўмовіліся на сягоньня.**

Любіны вочы з дакорам глядзяць на Ігнася.

Усёю постацьцю, паводам галавы, шаволеньнем чорных кучаравых валасоў, завітых на скронях, яна гаворыць:—не, не.

Пакрыўджаны твар Юркевіча.

Пальцы Юркевічавай рукі барабаняць па сьпінцы Любінага крэсла.

Ня вітаючыся з павятоўцам, Ігнась садзіцца ў баку.

Павятовец разьвітваецца.

Любіна рука, працягнутая для разьвітаньня.

Юркевіч падносіць руку для пацалунка.

Поўныя сасьмяглыя вусны Юркевіча складваюцца жадліва, цягнуцца да рукі.

Рэзка вырываецца Любіна рука.

Люба гняўліва глядзіць на павятоўца.

На хаду. Позірк Юркевіча з нянавісьцю ўпіваецца ў Ігнася.

У пакоі Люба з Ігнасём.

Пяшчотны погляд Любы ловіць Ігнась.

**— Як я рада, што ты прышоў, Ігнась. Ён мне дыхаць не дае.**

Рухам рукі Люба просіць пасядзець Ігнася, выбягае ў другія дзьверы.

Ігнась устае. Пяць крокаў уперад і назад па пакоі. Садзіцца. Устае. Падыходзіць к вакну. Прыціскаецца лбом да шыбы.

На дварэ. У вакно пазірае дзяўчынка 7—8 год.

Паказальным пальцам правай рукі дзяўчынка прыплюсквае сабе нос. Рагоча. Глядзіць у вакно.

У вакне з прыплюснутым носам твар Ігнася.

Дзяўчынка рагоча.

Сьмех пырхае па вуснах Ігнася.

Дзяўчынка больш націскае нос.

Твар Ігнася—вясёлая маскарадная маска.

Дзяўчынка бяжыць з-пад вакна.

Ігнась адварочваецца.

У дзьвярах нярухомая стройная дзяўчына ў чорнай даўгой спадніцы і белай блюзцы пад паясок. На руцэ адзеньне гімназісткі.

Ігнась увесь захапленьне.

Дзяўчына падбягае да яго, бярэ за руку.

— **Прывітай-жа мяне са сканчэньнем гімназіі, Ігнась. Ах як мне абрыдзела гэтая гімназіцкая шалупіна.**

Адзеньне гімназісткі пралятае цераз пакой і падае ў куток.

Прырэчны поплаў увесь у кветках. Ружовыя, блакітныя, чырвоныя, сінія, жоўтыя, белыя колеры красак зьліваюцца ў квітнеючую гаму.

Ігнась з Любай ідуць поруч—блізка, блізка. Рука датыркаецца рукі.

Люба спыняецца. Аглядвае вакол.

Высока ўздымаюцца і апускаюцца грудзі. Люба ўздыхае.

Вецер шаволіць чорныя кучаркі валасоў.

— **Колькі бруду, няшчасьця, гора на сьвеце, а тут гэтак прыгожа. Як доўга трэба ачышчацца чалавеку, каб стаць такім-жа прыгожым. І калі чалавецтва зробіцца падобным на гэтую прыгожую сям'ю красак.**

Бераг ракі.

Пабраўшыся за рукі павольным крокам ідуць Люба з Ігнасём.

На сьлядох іх ног, пазадзе, астаюцца прытоптаныя прыгожыя краскі.

На хаду парыўчата садзіцца Ігнась, цягне за руку Любу.

Рука Любіна б'е па руцэ Ігнася.

Нездаволены Любін твар.

Прытворна насупленыя бровы.

Устрывожаны твар Ігнася.

Сустракаюцца дзьве пары воч.

Сьмяхотлівыя вочы Любы.

— **А што-ж ты кепства робіш.**

Ігнасёва рука адбымае павольна, нясьмела, Любіны плечы.

У дзьвёх парах воч пяшчоты і каханьне.

У кайданох моцных адбымкаў.

**Першы пацалунак.**

На рацэ. Роўная гладзіня вады серабрыцца ўсплескамі. Адзін за адным разыходзяцца кругі па вадзе.

Пахіснулася чарацінка, за ёю другая, трэцяя...

Бераг ракі. Ківаюць галоўкамі адна аднэй гордыя краскі.

Ігнась з Любай—у кайданох моцных абдымкаў.

Хвалямі калышацца чарот на рацэ. Грабянцамі бягуць па вадзе хвалі. Вада хлюпае ў берагі.

Вецер. Устаюць і прыгінаюцца да долу гордыя галоўкі красак на беразе. Шаўковіцца зялёная густая трава.

Адна за аднэй бягуць угары белыя аблачынкі.

Ігнась ляжыць дагары. Шырока і лятуценна раскрытыя вочы.

Сядзіць побач Люба. Сарамяжа апушчаны ўніз вочы. Пальцы павольна, павольна ўплятаюць у вянок краскі.

Парыўчата ўсхопваецца Ігнась.

Вянок падае з рук у Любы.

Шапка кінутая вобземлю.

Трэплюцца ветрам валасы на галаве ў Ігнася.

— **Праўда, Люба... Чалавека трэба чысьціць... Чысьціць жалезнымі шчоткамі барацьбы супроць спрадвечнай несправядлівасьці супроць пры-**

**гнёту беднага багатым. Бачыш, уся бяда пачалася з таго, як першы чалавек сказаў: «Гэта—маё». А мы кажам: «Гэта павінна быць нашым і гэта будзе нашым агульным».**

У ажыўленай гутарцы Люба з Ігнасём ідуць тэй самай дарогай назад.

Далёка відаць першыя будынкі гораду.

Люба пацiскае Ігнасёву руку.

**— Я буду з вамі, Ігнась. Я адчуваю, што праўда за вамі.**

Берат ракі. Прыкамечаная трава і краскі.

Сіратліва ляжыць недаплацены Любаю вянок.

**Зацямненьне.**

Узлаваны Юркевіч спорным крокам праміпае вуліцу за вуліцай.

Гразкі завулак.

На водкідзе, асобна ад усіх дамоў, на пустыры старэнькая хатка.

Павятовец праходзіць паўз яе туды і назад. Ня ў прыклад ранейшаму спорнаму кроку хада яго павольная, чакальная.

Адчыняюцца дзьверы хаткі. На парозе Юзік.

Юркевіч падае ледзь прыкметны знак.

Юзік нагляддкам ідзе за павятоўцам.

Вуліца за вуліцай.

Чысты домік у садзе.

Юркевіч заходзіць у дом.

Сьледам за ім неўзабаве Юзік.

Апратны пакой з цяжкаю дубоваю мэбляю.

Юркевіч жэстам рукі жандарскага ротмістра паказвае Юзіку на крэсла ля стала. Дастае з дубовага буфэту талерку з вянглінай і каўбасой, талерку з хлебам. На сцэну зьяўляецца пляшка гарэлкі, чаркі.

Юркевіч разьлівае ў чаркі.

П'юць. Закусваюць.

Злосны выраз твару ў павятоўца зьмяняецца мядовым, ласкавым.

Чарка за чаркай зьнікаюць у глотцы Юзіка. Ён прыкметна пачынае п'янець. На запрашэньне павятоўца піць і закусваць, удзячна цягнецца з абдымкамі і пацалункамі.

Юркевіч грэбліва крывіцца, але не працівіцца. Пасьля пацалункаў Юзіка сплёўвае на бок, выціраецца белай хустачкай. На твары зноў мядовы, ласкавы выраз.

**— Юзік... Ты знаеш такога рыжага з вашай майстэрні... Ён ходзіць з сабакам... Ігнасем зваць? Разьведай, куды ён ходзіць... дзе бывае... з кім... што робіць.**

Юркевіч гаворыць. Вусны складваюцца ў жорсткую ўсьмешку.

Юзік ківае яму ў тахту галавою.

Юркевіч скончыў сваю гаворку.

Юзік усё таксама ківае галавою.

На стале парожная пляшка, парожныя талеркі з абгрызкамі вянгліны, каўбасы, хлеба.

Няцьвёрда ўстае Юзік. Выходзіць, чапляючыся за вушакі.

Юркевіч пацірае рукі. Глядзіць у вакно на вуліцу.

Хісткаю хадою, але проста Юзік перасякае вуліцу.

Юркевіч надзяе шапку павятоўца, бярэ шчыгольны кіёк.

Вуліца.

Ня ў прыклад Юзіку павятовец ідзе цьвёрдаю роўнаю хадою. Вочы бегаюць па баках. Ідзе ён не сьпяшаючыся, нібы на шпацыр.

З сіняе вышыні ўсьміхаецца сонца.

У адказ яму здаволеная ўсьмешка ўспырхвае на вуснах Юркевіча. І імгненна зьнікае.

Пасярод вуліцы стаіць высокі дужы селянін. Дуб. Ён. беспарадна азіраецца на бакі, як-бы ўспамінаючы што ці ня ведаючы ў. які бок пайсьці.

Перад вачыма ў Юркевіча...

Пакой з хвалямі шызага дыму...

За сталом жандарскі ротмістр...

Папера... Подпіс:

*„Владѣлецъ имѣнія Славное Вайниловичъ“.*

Юркевіч прыціпшае крок. Ідзе павольна, насьвіствае,

Дуб абглядвае яго цяжкім позіркам. Накіроўваецца ў процілеглы канец вуліцы.

Юркевіч перастае сьвістаць, паварочвае назад.

Над галовамі шпацыруючае публікі ўперадзе відна галава Дуба.

Рог вуліцы. Дуб азіраецца.

Павятовец шпацыруе ў яго бок, Цень лёгкай трывогі прабягае па твары Дуба.

Рог другое вуліцы. На завароце Дуб азіраецца зноў.

Дуб у трывозе: павятовец не астаецца.

Наперадзе крывая, глухая вуліца.

Шырознымі крокамі Дуб перабягае вуліцу. Пераскоквае цераз плот у сад.

Сад з другога боку.

Цераз плот пералазіць на вуліцу Дуб.

На рагу вуліцы, адкуль зьнік Дуб, зьяўляецца Юркевіч.

Перад ім пустая вуліца.

Павятовец расчараваны, зьбянтэжаны.

Сярэдзінаю вуліцы бяжыць Юркевіч.

Уперадзе пустая вуліца.

Юркевіч раздумвае. Лэпае сябе па лбу далоньню.

Вялікі сад, абгароджаны плотам, цераз які Дуб выскачыў на суседнюю вуліцу.

Шпаркім крокам абыходзіць плот саду Юркевіч.

Уздоўж вуліцы прысады з высокіх таполяў.

Вясёлы ідзе Ігнась.

Бокам стаіць Дуб.

Ігнась чапае за плячо Дуба.

Дуб спалохана паварочваецца.

Ігнась устрывожаны яго паводзінамі.

Дуб бярэ за руку Ігнася, адцягвае да плоту.

**— Па лістоўкі іду... Ды вось свалаціна нейкая ўвязалася, ніяк не адарвацца. З паўгадзіны ў хваста поўзае.**

На твары ў Дуба буйныя кроплі поту. Ён выцірае іх проста рукою.

Ігнась раздумвае.

Дуб паказвае яму на пройдзеную вуліцу.

З-за залому воддалек паказваецца галава ў шапцы павятоўца. Галава паварочваецца направа і налева.

Ігнась выпроствaецца. Паціскае Дубу руку.

**— Я бяру яго сабе.**

Шырокім крокам Дуб зьнікае за плячыма ў Ігнася.

На дарозе перад павятоўцам Ігнась.

**— Мы з вамі сустракаліся ўжо, пане павятовец. Але дзеля такога прыемнага, прыгожага надвор'я яшчэ раз «Добры дзень».**

Юркевіч сьвярліць вачыма працаўніка. Шчыгольны кіёк медзяной арэхвай на канцы нераўнамерна б'е па блішчастым гамашы.

**— Гм... праўда. Прыгожае надвор'е... і рыжыя на вуліцы.**

Тарганулася вусны ў Ігнася.

Высозныя таполі ў прысадах.

Сьмяхотлівы твар Ігнася.

**— А вы шпацыруеце ці шукаеце рыжых? Можа шукаеце аднаго хлапчука ростам вось з гэтую таполю, дык я бачыў яго... Ён пайшоў вунь у тую канцылярыю.**

Паказальны палец выцягнутай рукі Ігнася.

Клёзэт за плотам.

Выпрастаны паказальны палец Ігнася.

Юркевіч замахваецца ў азьвярэньні кійком.

Ігнась адступаецца. Здымае шапку, пасьмешліва кланяецца.

**— Да пабачэньня, пане павятовец. Ага, чакайце... Ледзьве не забыўся... Правітаньне ад Любы. Вельмі прасіла перапказаць, калі ўбачу.**

Юркевіч азьвярэла аглядаецца на бакі.

На вуліцы пуста.

Моцна сьціснуты ў кулаку кіёк падымаецца ўгору, трасецца ў паветры.

Ігнась з рогату аж прысядае.

Са злосьці лупіць кійком па плоце Юркевіч.

У руцэ абломак шчыгольнага кійка.

Абедзьвюма рукамі трымаецца за жывот Ігнась, рагоча.

Сьпіна Юркевіча.

Часта мільгацяць блішчастыя гамашы.

Пад плотам рэшткі таго, што было некалі шчыгольным кійком Юркевіча.

**Зацямненьне.**

**Аднойчы рабочыя сыходзіліся на соцыял-дэмократычную нелегальную масоўку.**

За горадам, пазадзе чыгуначнай лініі, раскінулася бярозавая дуброўка. На адным канцы дуброўкі густа растуць кусты. Пасярод кустоў голая палянка.

Крапіць часты дождж.

На палянку з кустоў выходзіць Майзель. Выгляд у яго не сухарлявага рабочага-наборшчыка, а соліднага, з пузам, гаспадара якое-небудзь майстэрні.

Ён абводзіць вокам палянку і садзіцца пад куст. Жывот яго пры гэтым неяк дзіўна перагінаецца ў таліі і ўціскаецца ў сярэдзіну.

З процілеглага боку на палянку выходзяць два рабочых.

Солідны Майзель спрытна ўскаквае і порстка падыходзіць да рабочых.

Вітаюцца. Адзін з рабочых весела пахлопвае Майзэля па жываце.

Майзель загадкава ўсьміхаецца.

Збоку варушацца кусты. Прыходзіць Дуб, Ясь,—з імі двое сялян.

За імі сьледам тры чыгуначнікі.

Яшчэ потым—адзін муляр.

... Два пячнікі.

Дуб вітаецца з Майзелем. Зьдзіўлены адступаецца. Глядзіць на яго. Абводзіць сабе вялізны жывот і з дакорам пакачвае галавою.

Майзель загадкава ўсьміхаецца.

Дуб адсоўвае па локці рукавы сьвіткі. Адкрываюцца грубыя жылаватыя рукі. Бярэ падпашкі Майзеля і лёгка падымае перад сабою навыцяжку.

Майзель вырываецца.

Брыкаюць у паветры ногі.

Адбываецца нешта дзіўнае. Пуза ў Майзеля раптам меншае, упадае ў сярэдзіну.

З-пад паліта сыплецца літаратура, лістоўкі.

На палянцы рогат. Хапаюць лістоўкі, літаратуру.

Дуб у позе страшэнна зьдзіўленага пераменай Майзеля.

Майзель з пакрыўджанай мінай на твары расьцірае тыя месцы цела, дзе браліся Дубавы рукі.

Рагоча Дуб, узяўшыся ў бокі. Магутная фігура яго вылучаецца з усяго натоўпу на палянцы.

**А тым часам...**

Ігнась з настаўленым каўнаром жакеткі, з кіяшом пазадзе, выходзіць з гораду.

Ад брамы аднаго двара адрываецца скручаная, ухутаная з носам у падраны пінджак, фігурка. Фігура асьцярожна пасоўваецца назіркам за Ігнасём.

Апошні домік на ўскраі гораду. Скручаная фігурка прыліпае к плоту. Пад насунутым казырком шапкі паблiскваюць вочы.

Нясьпешным крокам Ігнась заходзіць на высокае палатно чыгункі і зьнікае за ім.

Фігурка зноў адрываецца ад плоту. Шпаркім крокам прамервае адлегласьць да чыгункі. З разьлёту падае на палатно і прытульваецца да рэйкі. Асьцярожна, павольна падымаецца над рэйкай галава.

Від на дуброўку з чыгуначнага палатна.

Да кустоў на краі дуброўкі з двух розных бакоў падыходзяць два чалавекі.

Напрамкам на кусты, не сьпяшаючы, ідзе Ігнась.

Фігура зрываецца з палатна чыгункі, покатам коціцца ўніз, устае і бегма бяжыць па пройдзенай перад тым вуліцы.

Мільгацяць ногі ў атопках. Насустрач фігурцы бяжыць горад.

Пакой Юркевіча. Павятовец за сталом курыць папяросу.

Колцы дыму няўдала выходзяць з роту курца.

За дымавой завесай ня відаць столі.

На стале поўная попельніца акуркаў.

Час-ад-часу нэрвова барабаняць па стале пальцы.

Насьцеж адчыняюцца дзьверы. Убягае захутаная фігурка. Імгненым рухам рукі адкладвае каўнер, падымае ўверх казырок. Фігурка становіцца Юзікам.

Юзік пасьпешна гаворыць Юркевічу, размахвае рукамі, прыгінаецца, паказвае некуды ў бок.

Павятовец ускаквае, хапае шапку.

Юзік працягвае гаварыць.

Юркевіч адмахваецца. Бягом бяжыць з пакою.

Юзік прыслухоўваецца. Выглядвае ў вакно. Падыходзіць да буфэту.

Павольна адчыняюцца дзьверцы буфэту.

На паліцах поўныя пляшкі, талеркі з закускай.

Юзік бярэ пляшку.

Спрытным ударам аб далонь рукі выбіваецца корак.

Перавернутая горлам у рот пляшка.

Юзік, п'е набгом з пляшкі, доўга, з перадышкамі. Асушаную пляшку ён адстаўляе ў буфэт, засоўвае ў рот кавалак вянгліны.

Вочы гараць пры поглядзе на ўсё настаўленае ў буфэце.

Працягваецца рука, хапае поўную пляшку і хавае ў кішэню пінджака.

Працягваецца другая рука, загрэбае з талеркі закуску і напіхае другую кішэню пінджака.

Перад зачыненым буфэтам. Юзік выцірае рукавом рот. На твары п'яная ўсьмешка. Здымае шапку, нізка раскланьваецца з выабражаемым гаспадаром.

Юркевіч устае з-за стала насупроць ротмістра.

Ротмістр падсоўвае да яго некалькі крэдытак.

Юркевіч, ня гледзячы, леваю рукою засоўвае іх ў кішэню. Правая рука ля казырка шапкі.

Ротмістр працягвае яму над сталом руку. Юркевіч не заўважвае. Перад вачыма мільгаюць крэдыткі, чыны, ордэны, твар Любы. Усё пакрываецца туманам і з туману вырастае галава жандарскага ротмістра за сталом.

Юркевіч апускае руку, нязграбна паварочваецца і выходзіць.

Ротмістр ледзь-ледзь усьміхаецца. Ад гэтага ў яго дробна торгаюцца вусы—стрэлачкі.

Морда сярдзітага бульдога.

Бульдогападобны выраз твару ротмістра.

З сілаю апускаецца на стол ротмістра кулак.

Убягае і станавіцца на выцяжку перад начальствам жандар.

Ротмістр пасьпешна гаворыць. Таксама пасьпешна хапае портупею з рэвальвэрам, падпяразваецца.

Жандар выбягае.

Хуткім маршам з двара выходзіць атрад пешых жандараў. На чале сам ротмістр.

Палянка ў кустох абступаецца з усіх бакоў змрокам. На палянцы яшчэ відно. Прыкметны добра фігуры людзей.

У разамкнутым канцы круга стаіць Арон. Ён гаворыць прамову.

Збоку скурчыўся Ігнась з сабакам.

Фігура Арона рэзка вырысоўваецца на палянцы.

На процілеглым ад кустоў канцы дуброўкі рассыпаецца ў ланцуг атрад, жандараў. Перад жывым ланцугом ротмістр.

**— Толькі мне каб не страляць. Ні шкнуць пакуль дойдзеш. І браць жыўцом!**

Ротмістр махае рукою. Ланцуг рушыць з месца. Ротмістр ідзе з правага флангу.

Наперадзе густа вырысоўваюцца кусты.

На палянцы. Нярухомыя постаці людзей. Каля Ігнася ўскаквае Кіяш, ахібваецца.

Ігнась торкае ў руку Арона.

**— Сабака чужога чуе.**

Дуброўкаю рухаецца ланцуг жандараў. Трэці ад ротмістра жандар спатыкаецца і з выцягнутаю ў руках вінтоўкай цяжка ляціць далоў.

Струмень агню з рулі вінтоўкі жандара—нячайны стрэл.

На палянцы рух. Арон махае рукою.

Адзін за адным зьнікаюць удзельнікі масоўкі. Магутная постаць Дуба на самым задзе.

У дуброўцы. Ромістр перад вінаватым жандарам.

**— Мярзавец!.. казаў, нішкні...**

Рука ротмістра зразмаху аплявушыць жандара.

Ротмістр крычыць. Бяжыць бягом.

На палянцы пуста. На самай сярэдзіне бялее ліст паперы.

Ротмістр убягае на палянку. Падхопвае лісток.

Сьвятло электрычнага ліхтарыка ўзьбягае на паперу.

*„Пролетаріи всѣхъ странъ, соединяйтесь". Россійская Соціалъ-демократическая Рабочая Партія.*

У сьвятле ліхтарыка сьціскаецца ў кулак ротмістра лісток праклямацыі.

## ЧАСТКА ЧАЦЬВЕРТАЯ

На дарозе ў Ігнасеву вёску. У пэрспэктыве—уперад да вёскі ідуць два чалавекі. Паступова вырысоўваюцца характэрныя адзнакі і рысы твару, па чым можна пазнаць у двух Ігнася з Аронам. Яны жвава гутараць, размахваюць рукамі. Заварочваюць у двор Агапінае хаты.

Вялізарны замок вартуе дзьверы сянец.

Недаўменны твар Ігнася.

Незразумельны погляд Арона.

Павольна заварочваюцца ад сянец.

Цераз вуліцу з вядром вады ідзе бедна адзетая кабета.

Ігнась спыняе яе.

Спачуваньне ў вачох кабеты. Яна гаворыць неахвотна, абрыўкамі, паказвае рукою то на двор Агапы, то некуды за сяло.

Сьціскаюцца кулакі ў Ігнася і павольна расьціскаюцца.

«Халодная» пры воласьці. У вакно праз краты глядзіць сумна Агапа. У пэрспэктыву зроку пападаюць Ігнась з Аронам. Яны набліжаюцца да воласьці.

Ігнась з Аронам перад «халоднай».

Агапа сьвятлее тварам, працягвае рукі праз краты.

Ігнась падступаецца блізка да вакна.

Арон далікатна адварочваецца.

З воласьці выходзіць пісар.

Арон загароджвае яму дарогу. Павольна-разьмерана гаворыць Арон. Нудны выраз твару ў пісара. Ён кідае зірк на «халодную».

— **Заўтра суд.**

Пры гэтых словах пісара азіраецца назад Ігнась.

З такім самым нудным выразам на твары пісар абыходзіць Арона і зьнікае за рогам.

Гаворыць з маткай Ігнась. Ківае ўпэўнена галавою.

Агапа абнадзейваецца, сьвятлее ў твары.

Худая рука яе ўздымаецца і хрысьціць перад сабою. Дрыжуча шаволяцца вусны.

У пэрспэктыве Агапінага зроку аддальваюцца ад воласьці Ігнась з Аронам.

З другога канца да воласьці падыходзіць Люба з Ларысай.

**Па сканчэньні гімназіі Любку і Ларысу па іх просьбе і па хадайніцтву пана Вайніловіча прызначым настаўніцамі ў гэтую воласьць.**

Перад «халоднай» Люба раптоўна спыняецца. Яе погляд спалохана ўпяты у вакно халодной.

Агапіна рука павольна хрысьціць перад сабою.

Далёка ў пэрспэктыве дзьве чалавечыя фігуры, якія зьнікаюць з воч. Люба хапае за руку Ларысу і абедзьве бегма бягуць у валаснос праўленьне.

За сталом сядзіць барадаты чалавек з старшынёўскім ланцугом на грудзях.

Усхвалёвана, наперабой гавораць старшыні дзяўчаты.

З алімпійскаю важнасьцю слухае спакойна старшыня. Ён папраўляе мэдаль, украдкі пазірае на яго. Цяжка раскрывае рот, каб праказаць пару слоў.

— **Заўтра суд.**

Зьняважліва кідае старшыні некалькі слоў Ларыса. З высока і горда узьнятай галавой пасьпешна выходзіць.

Аднапаверхавы асабнячок на вуліцы, абсаджанай прысадамі.

На ганак узьбягаюць Ларыса з Любай і зьнікаюць за высокімі дзьвярыма ў доме.

Пакой з мяккаю мэбляю, лёгкімі невялічкімі столікамі пры вокнах, закрытых сьвіцюшчымі мярэжавамі фіранкамі.

З крэсла ўстае цяжка з газэтай у руцэ пан Вайніловіч.
Уваходзіць Ларыса з Любай.
Пан адказвае на паклон дзяўчатам і паказвае газэту.
Кавалак газэты.

### *С театра военныхъ действій*

**Геройскій подвигъ**

Ларыса бярэ газэту, але ня чытае. Рука з газэтай апускаецца. ўніз.

Ларыса выказвае просьбу. З кожным яе словам ўрачыста спакойны пан Вайніловіч траціць спакой і выяўляе характар. Ён нэрвовым крокам адыходзіць да бліжэйшага століка і ўпінае зрок праз фіранку на двор. Перад вачыма... сцэна здарэньня ў лесе, патрушчаная стрэльба, высозны селянін з страшэнай усьмешкай, акрываўленая хустачка.

З надзеяй глядзіць на яго Люба.

Пан Вайніловіч рэзка паварочваецца ад вакна.

**— Я... гэтым хамам даравацъ... Не! Яна панясе заслужаную кару!**

Люба ўздрыгвае, але потым нізка апускае на грудзі галаву і выходзіць з пакою.

Ларыса з дакорам, сурова глядзіць на хроснага. Пераводзіць погляд на Любу.

Газэта падае далоў.

Ларыса даганяе Любу, абдымае яе за плечы.

Поўная народу камэра валаснага суда.

За адгарокаю за накрытым сталом твары засядацеляў. Па вачох іх і па ўсіх паводзінах відаць, што яны пасьпелі перад судом асьвяжыць мазгі 40°.

Судзьдзя канчае чытаць паперу.

Наперадзе з левага боку, застаўляючы сваёю паважнаю постацьцю ўсіх з гарапнікам у руцэ аконам пана Вайніловіча.

З правага боку з стражнікам назадзе Агапа. Кабета прыкметна хвалюецца.

У пярэдніх радох публікі Ігнась. Ён хвалюецца таксама як і матка.

На запытаньні судзьдзі за істца адказвае аконам Вайніловіча. Гарапнік у левай руцэ бяскрыўдна павіс ўздоўж нагі. Аконам гаворыць коратка і ўпэўнена.

Судзьдзя зьвяртаецца да абвіняемай.

Агапа дрыжучымі губамі камечыць рэдкія словы.

Па тварах засядацеляў відаць, што ім ужо надакучыла.

Судзьдзя глядзіць на іх запытальна, але тыя адказваюць абыякавымі поглядамі.

Народ з камэры выходзіць на зборню. Суд застаецца для вынясеньня прыгавару.

За перагародкаю адкрываецца раскурачная. Судзьдзя гаворыць сакратару пару слоў і той піша.

Засядацелі пакурылі. Сакратар скончыў пісаць. Судовы прыгавор гатоў.
На зборню адчыняюцца дзьверы. Народ валіць зноў у камэру.
Судзьдзя чытае прыгавор.

— **Два месяца тюремного заключенія.**

Асунуўшыся стаіць Агапа.

Здаволена лэпнуўшы сябе па халяве бота гарапнікам, выходзіць аконам.

Ігнась кідаецца да перагароткі, але яго адціраюць другія абвіняемыя і істцы. З позіркам поўным нянавісьці ён выходзіць сьледам за Агапай з стражнікам.

---

Бедна абстаўленая кватэра Майзеля.

У кутку на табурэце сядзіць Ігнась. Уся постаць яго ўяўляе сабою асабістае гора.

Пры стале Майзель з Аронам. Арон тлумачыць нешта Майзелю.

Раптам той зрываецца з месца і з сьціснутымі ў кулакі рукамі бегае па пакоі.

Плачуць дзеці—двое—хлопчык і дзяўчынка.

Да Майзеля гаворыць жонка, худая, бедна адзетая кабета.

Майзель ня чуе. Ён бегае ў абурэньні, выкрыквае словы.

Прыбіты горам выгляд у жонкі.

Плачуць дзеці, працягваюць да маткі рукі, просяць есьці.

Яна адварочваецца, сьляза выплывае з воч.

Плач дзяцей выводзіць Ігнася. з бязуважнага стану. Ён абводзіць поглядам усіх ў пакоі, спыняецца на дзецях.

Дзіця на руках у Ігнася. Ігнась цешыць яго, падкідае пад столь.

Дзіцё пакідае плакаць, даверліва пазірае ў вочы чужому дзядзьку.

Другое дзіцё праз сьлёзы просіцца на рукі.

Сьвятлее Ігнасёў твар.

Абое дзяцей на руках Ігнася. Ён цешыць іх, забаўляе.

Праз сьлёзы нешта тлумачаць яму дзеці.

— **Сёньня ў нас няма нічога есьці.**

Сьвятло зьбегае з твару Ігнася. Але ён раптам ажыўляецца.

Ігнась стаўляе далоў дзяцей. Дастае партманэт. Высыпае на рукі ім некалькі сярэбраных манэт.

Дзеці бягуць да маткі.

Бедная кабета нерашуча паглядае то на грошы, то на дзеці, то на Ігнася.

Ігнась ўсьміхаецца яснай усьмешкаю. Наклонам галавы просіць узяць грошы.

Кабета выцірае рукою сьлёзы.

Бегае па пакоі Майзель.

З аднаго і другога боку яго радасна ловяць за рукі дзеці.

Майзель вырывае рукі.

Дзеці весела крычаць.

Майзель прыпыняецца, аглядвае ўсіх па адным. Падыходзіць да Ігнася паціскае яму руку.

Блішчаць Майзелевы вочы. Выраз твару абмяклы, спакайнейшы.

Па-таварыску спагадліва глядзіць Ігнась.

Разжалены адварочваецца Майзель.

---

Зіма у горадзе.

Абсыпаны сьнегам вялікі будынак турмы.

Пад варатмі стаяць Ігнась з Майзелем. У руцэ ў Майзэля пакунак.

Раз-па-раз кідаюць яны позіркі на вароты.

Адчыняюцца масыўныя вароты турмы.

Аслабелаю хадою выходзіць Агапа.

Яна кідаецца да сына, але ўбачыўшы староньняга чалавека, прыпыняецца. Хапаецца за грудзі.

Кашаль сатрасае Агапу.

Ігнась абнімае матку за плечы, гаворыць ёй некалькі ласкавых слоў.

Сабака Кіяш лашчыцца, віляе хвастом, падскоквае.

Майзель падае Агапе пакунак.

**— Гэта ад мае сям'і матцы нашага Ігнася.**

Удзячна нахіляе галаву Агапа. Яна радасна усхвалёвана словамі Майзеля, падарункам, які ня ведае куды дзець.

На пляцы. Ігнась з Агапай ідуць у той бок, дзе відна цэрква, і пры цьвінтары стаяць сялянскія хурманкі. Ігнась накіроўваецца да хурманак.

Неўзаметку для Ігнася Агапа падыходзіць да самае цэрквы.

На каленях у сьнегу перад цэрквою стаіць Агапа. Хрысьціцца, кладзе паклоны.

Зьверху сыпле сьнег.

Праходзяць з кніжкамі ў руках вучні. Зьдзіўлена пазіраюць на маліто́ўную кабету, спыняюцца.

**— Гэтак холадна, а яна моліцца.**

Ігнась канчае размову з селянінам, атлядваецца.

На каленях перад цэрквою стаіць Агапа. Вусны варушацца, а рука падымаецца і кладзе храсты.

Скорым крокам падыходзіць Ігнась.

Прыпыніўшыся з боку, глядзяць вучні.

Селянін запрагае каня.

Ігнась руплíва, квола падымае матку.

Ражком хусткі Агапа выцірае шчокі.

Ігнась падводзіць матку да санак селяніна.

Едуць.

Шыльда:

ТОРГОВЛЯ СЕСТНЫМИ ПРИПАСАМИ.

Ігнась прыпыняе селяніна, бяжыць у краму.

Вяртаецца з двума пакупкамі. Патрэсае імі ажыўлена ў паветры. Садзіцца побач з Агапай.

У хаце Агапы. Гарыць газьніца. На стале сякая-такая ежа, тут-жа пакупкі вынесеныя Ігнасём з крамы. Тут сама разгорнуты пакунак Майзеля.

Агапа завіхаецца каля печы. У печы ясна гарыць сухое ламачча.

Ігнась ходзіць па хаце.

Вокны з хаты аб'іневелі, паабмерзалі.

Ігнась прыпыняецца перад газьніцаю, хукае насупроць сьвятла. Густы струмень пары выходзіць з роту.

Агапа дастае з печы скавараду. Скаварада дыміцца ад смажаніны.

Стол прыбраны і ўстаўлены наедкам. За сталом насупроць адно аднаго Агапа з Ігнасём.

Агапа любоўна глядзіць на сына, запрашае есьці. Сама час-ад-часу падносіць да роту скібку хлеба, абмочаную ў тук на скаварадзе.

Ігнась вясёлы. нішто ня хмурыць твару: гэтак даўно ён быў так разам з маткай.

На ўбітым у сьцяну кручку вісіць вялізны замок. якім былі замкнуты сенцы.

На ўсю даўжыню сьцяны перад вакном рэал з наборнымі касамі. Наборшчыкі рытмічна пагойдваюцца з вярстаткамі у руках, набіраючы літары. Роўная рытмічнасьць пагойдваньня ломіцца, адзін з наборшчыкаў выпроствaецца і застывае перад вакном.

На вуліцы выкрыквае газэтчык. У кожнай руцэ па газэце. Торба цераз плячо поўная газэт. Можна прачытаць назвы: «Северо-Западный край», Русское слово», «Белорусский Вестник».

Наборшчык, які заглядзеўся ў вакно, паварочваецца. Гэта Майзель. Ён бяжыць бягом з друкарні і вяртаецца з газэтай. Крычыць на бягу, тыкае мурзатым пальцам у газэту.

Ляжыць на рэале Майзелева вярстатка.

Наборшчыкі адрываюцца ад кас. Майзель кідае газэту на рэал. Бліжэйшы рабочы, не пакідаючы вярстаткі, другою рукою падхопвае газэціну, прабягае шпарка вачыма. Галава яго быццам намерваецца вострым носам праткнуць ліст газэты.

Яго абступаюць другія наборшчыкі. Адны з бакоў, другія з-за плячэй заглядваюць у газэту.

Выраз зьбянтэжанасьці і гневу на твары ў Майзеля. Ён ўсьпічвае на плечы пінджачок, хапае газэту і выбягае з друкарні.

Цягельная вуліца. Майстэрня Зуся.

Бомбаю ўлятае Майзель З кішэні тырчыць скамечаная газэта.

**— Дзе Арон?**

Кучка рабочых сядзіць за сухім мізэрным полуднём. Рабочы Яўхім устае і паказвае на двор.

Майзель як на спружынах паварочваецца, выскаквае на вуліцу.

З кішэні тырчыць пакамечаная газэта.

Другі рабочы з кучкі палуднікаў зрываецца з месца няпрыстойна прысядае адтапырвае кішэню штаноў і паказвае ўсьлед Майзелю.

**— Прысьпічыла!**

Пырскаціць сьмехам кучка рабочых.

Рабочы выскаквае сьледам за Майзелем.

**— Гэй ты, жывое срэбра!.. чакай...**

Словы застываюць на вуснах у рабочага.

Каля майстэрні Майзель сустракаецца з Аронам. Вырывае газэту, сує Арону, гаворыць.

Рабочы ўслухоўваецца. Выраз гарэсьці зьбягае з твару. Вяртаецца ў майстэрню.

Кучка рабочых сустракае яго рогатам.

Сур'ёзны выраз твару жартаўлівага рабочага. Над вочы, ссунуліся бровы.

**— Цар пастраляў рабочых у Пецярбурзе.**

Адзін па адным высыпае з майстэрні кучка рабочых. З запытаньнямі абступаюць Майзеля з Аронам.

Майзель, узнэрваваны, гамоніць.

Гамоніць Арон. Ён спакойны, толькі паблісскваюць чорныя вочы з-пад чорных брывоў.

Вуліцаю ідзе гарадавы.

Рабочыя адзін па адным зьнікаюць за дзьвярыма майстэрні.

Арон з Майзелем насьпех даказваюць і разыходзяцца ў розныя бакі.

Міргае пад закурадымленым шклом настольнае лямпы агеньчык.

З-за стала ўстае Арон. Ходзіць па пакоі. Цень ад фігуры то ўвесь кладзецца на падлозе, то пераломваецца і падымаецца на сьцяну, на столь.

Арон прыпыняецца час-ад-часу, паглядвае на вакно, завешанае газэтаю, прыслухоўваецца.

Шырокім крокам выходзіць з пакою.

На засьнежаным ганку перад дзьвярыма дому дзьве ўхутаныя фігуры. Адна з іх стукае у дзьверы: раз... два... тры...

Адчыняюцца на цёмны калідор дзьверы... Дзьве фігуры зьнікаюць у цемры калідору.

У пакоі Арон, Ігнась, Люба. Арон з прастатою паціскае руку дзяўчыны.

У захапленьні глядзіць Ігнась на стройную абсыпаную дробным сьнегам Любу. Кучаркі валасоў пабеленыя інеем вытыркаюць з-пад хусткі.

У пакой заходзяць два невядомых у гарадзкой вопратцы. Вітаюцца з Ігнасём і Любаю.

На хвіліну паказвае галаву з-за дзьвярэй Арон і зноў зьнікае ў цемры.

Прыходзіць Дуб...

За ім Майзель у насунутай на вушы шапцы.

Дуб расшпільвае дарожны халат з кажухом.

За сталом. У розных позах—усе слухаюць

У канцы стала гаворыць Арон.

Дуб узапёрся локцямі на стол. Круціць з махоркі цыгарку.

**— Мы ўступаем у палосу рэволюцыі. Кроўю рабочае клясы ўжо акрапіліся вуліцы Пецярбургу. Царскія апрычнікі па загаду цара расстралялі мірную дэманстрацыю рабочых.**

Гаворыць Арон.

Майзель камечыць у руках шапку.

Арон садзіцца.

Дуб зацягваецца дымам.

Зрываецца з месца Майзель

**— Баставаць! Вось і ўсё!.**

Майзелева шапка ляціць на стол.

Лямпа хліпае раптам і тухне.

Панарама гораду. Дахі будынкаў пабеленыя сьнегам. Яшчэ рана, але дзе-ні-дзе з высокіх камінoў паўзуць угару тонкія палоскі дыму. Гэта гарадзкія прамысловыя прадпрыемствы.

Вялікі паравы млын. З сірэны вырываецца трывожны струмень пару. Гудок.

З канторкі выскаквае гаспадар, бяжыць у машыннае аддзяленьне.

Машыніст выцірае аб кудзелю запэцканыя ў мазь рукі.

Ярасна накідваецца на яго гаспадар.

Гудзе сірэна. З коміна ужо слабей выходзіць дым.

Пырскаціць сьлінаю гаспадар, паказвае на топку.

Машыніст паціскае плячыма, ківае качагару і паварочваецца да выхаду.

Гаспадар хапае за плячо качагара і пхае яго да топкі, тыкае злосна пальцам. Усьлед гаспадару машыніст паказвае кулак. Ледзь прыкметная тоненькая палоска дыму выплывае павольна з коміна млыну.

Машыніст пры выйсьці гукае качагара.

Качагар атрасае руку гаспадара, абодва пакідаюць машыннае аддзяленьне.

З мукамольнага аддзяленьня выходзяць рабочыя.

Зьяжджаюць з двара ламавікі, сялянскія хурманкі.

Гурма рабочых выходзіць на вуліцу.

Ламавік з мяшкамі на возе едзе да млыну.

Рабочыя спыняюць яго: абступаюць, гамоняць, паказваюць на млын.

З коміну ня выходзіць дым.

Апошні рабочы крэйдай выводзіць буйнымі літарамі на браме млыну:

*ЗАБАСТОЎКА! МЛЫН ЗАЧЫНЕНЫ.*
*ДАЛОЎ САМАДЗЯРЖАЎЕ!*

Ламавік заварочвае каня назад.

Бакалейны і тутунёвы гандаль.

З кучкі рабочых, якія ідуць вуліцаю, вылучаецца адзін і накіроўваецца ў краму.

За прыкрамкам стары сівы гандляр.

**—Сёньня забастоўка. Зачыняй зараз-жа краму.**

Стары бярэ вялізны замок з прыкрамку, выходзіць на двор.

Замкнутая крама.

Рабочыя ідуць вуліцаю. Пазадзе ў іх зачыненыя дзьверы крам.

Пякарня. Рабочыя месяць уручную цеста. Другія накідаюць яго ў формы, на лапаты. Трэція саджаюць у печ.

Знадворку ўрываецца некалькі рабочых млынароў. Той, што загадваў старому гандляру зачыніць краму, падбягае да рабочага з лапатай, вырывае з рук лапату, цеста ляціць далоў.

**— Соцыял-дэмократы прызвалі да забастоўкі ўсіх рабочых. Хіба ты ня ведаеш. Па царскаму загаду ў Пецярбурзе, пастрэлена рабочая дэмонстрацыя.**

Рабочы выпускае з рук лапату. Булачнік інстыктыўна выцірае рукі аб брудны хвартух.

Прыслухоўваюцца, пакінуўшы работу усе пекары.

**— А можа вы думаеце карміць сёньня крывавых царскіх сабак. За гэта!**

Гнеўна гаворыць рабочы-мукамол.

Ён махае рукою на дзьверы.

Рабочыя пекары, нерашуча, адзін за адным, выціраюць рукі, пакідаюць работу.

Рабочы пекар, у якога мукамол вырваў лапату, бярэ пад руку мукамола і разам выходзяць на вуліцу.

Майстэрня Зуся.

Рабочыя праходзяць паўз Арона і Ігнася да выхаду.

Арон з Ігнасём сунімаюць двух рабочых. Адзін з іх рабочы Яўхім.

**— Вы пойдзеце на бровар і распусьціце рынак.**

Рабочыя ківаюць галавой разьвітваюцца за руку з Ігнасём і Аронам.

У майстэрню паўз рабочых праціскаецца Зусь.

Рабочыя прапускаюць яго, але не прыпыняюцца і хутка выходзяць на вуліцу.

Зусь падыходзіць да Ігнася з Аронам.

**— Што гэта за работа?**

Арон пазірае на апошніх рабочых. Адварочваецца, настаўляе каўнер піджака.

Ігнась азірае майстэрню, сунімае погляд на гаспадару.

**Гэтая работа ў нас называецца забастоўкай. Зачыняй!**

Панарама гораду. Тоненькі струменьчык дыму цягнецца ўгару ў адным месцы.

Вуліца. Шыльда:.

ПІЎНЫ І МЯДОВЫ БРОВАР БРОСІЛЯ

Вялізарныя чаны выпускаюць з сябе пару. Рабочыя наліваюць у бочкі піва і мёд.

У сутарэньні. Рабочыя перакочваюць бочкі, ставяць у рады.

Наверсе. Два знаёмых нам рабочых, што атрымалі заданьне ад Арона, сабралі каля сябе рабочых бровару. Жывая гутарка. Адзін з рабочых бяжыць на двор, адчыняе дзьверы ў сутарэньне.

Рабочыя перастаўляюць у рады бочкі. На бочках надпісы: «мёд», «піва».

Урываецца рабочы зьверху.

**— Кідай работу! Забастоўка!**

Прыўзьнятая двума рабочымі бочка падае далоў. З бочкі выскаквае дно. Ракой выліваецца на цымантаваную падлогу піва.

Друкарня.

Майзель прысьпяшае рабочых хутчэй апранацца.

Гурмаю высыпаюць на двор друкары.

**— На пільню! На пільню!**

Крычыць Майзель.

Лесапільня. Мільгацяць пілы. Роўна рэжуцца дошкі. Адлятаюць абгонкі.

Гурма рабочых-друкароў заходзіць на двор пільні.

Адзін з друкароў вылучаецца з групы.

Адзін пільнік пакідае работу і адыходзіць ад рамы.

Знаёмыя цісьнуць адзін аднаму руку—друкар і пільнік. Гутарыць друкар.

Пільнік кідаецца да сваіх таварышоў. Крыкам пакрывае шоркат піл, і бяжыць у машыннае аддзяленьне.

Сунімаюцца ўраз у сваім бегу і застываюць на месцы пілы.

Пільнік варочаецца пад руку з машыністам.

Пільнікі мяшаюцца з кучаю рабочых друкароў.

Жандарскі ротмістр канчае свой туалет. Ён доўга і самаздаволена расчэсвае рознымі грабенчыкамі і шчотачкамі свае вусы. Узіраецце ў сваё адабражэньне ў вялікім трумо. Садзіцца на мяккую канапу. Туалетны столік нагадвае столік таго-ж прызначэньня ў кватэры якое-небудзь куртызанкі. Ён увесь устаноўлены рознымі фляконамі, шчыпчыкамі, ножнічкамі, нажыкам, напільнічкамі, каробачкамі, невялічкімі люстэрачкамі, пухоўкамі, пярсьцёнкамі, брошкамі, мэдальёнамі, фотографіямі жаночых галовак, пышных жаночых бюстаў, фотографіямі жанчын на ўвесь рост. Можна падумаць, што ротмістр зьбірае цэлую колекцыю фото прыгожых жаночых галовак, бюстаў у профіль і анфас, ува ўсіх паставах, розных убраньнях, гарнітурах розных эпох і народаў.

Погляд ротмістра з патайным жаданьнем мігаціць па сваёй колекцыі прыгожых жанчын. Рука з напільнікам усё павольней і павольней рухаецца. Напільнік адкладваецца на туалетны столік. У капрызна дагледжаных пальцах ротмістра фотографічны здымак. На здымку Ларыса Няслаўская ў адзеньні гімназісткі.

Ротмістр аддаляе ад сябе здымак, прыжмурваецца, узіраючыся з адлегласьці, прыстуквае пальцамі вольнае рукі, прыцмоквае губамі.

Настольны званочак трасецца ў ротмістравай руцэ. Калоціцца язычок званочка.

Перад ротмістрам жандар—дзяншчык.

Ротмістр падае яму фото.

**— Даведацца ў фотографа, што гэта за асоба.**

Дзяншчык асьцярожна бярэ двума пальцамі фотографію. Пры поглядзе на здымак гульліва загараюцца вочы. Але тут-жа жандар спалохана апамятваецца і шпарка выходзіць.

Гарадзкі рынак: столікі, шыльды, будкі, па бакох хурманкі, людзі, людзі і людзі... Два рабочых з майстэрні Зуся, якія атрымалі ад Арона даручэньне, абыходзяць рады крам, столікаў і будак. Пасьля іх праходу ўзьнімаецца палахлівая сумятня і цэлыя рады будак і столікаў згортваюць манаткі. На шляху, які праходзіць два рабочых, утвараецца глухая пустата. Разыходзіцца народ.

Фотографія Берковіча на рагу вуліцы.

У зачыненыя дзьверы стукаецца дзяншчык ротмістра. Масыўныя дзьверы абыякава спакойныя. Дзяншчык абыходзіць рог «фотографіі» Берковіча. Вокны зачынены вакеніцамі. Ён дастае з кішэні фотоздымак, даручаны яму ротмістрам, і рашуча варочаецца да дзьвярэй. Насок бота з размаху стукаецца ў дзьверы фотографіі.

На твары дзяншчыка выраз адчайнасьці.

З-за рогу вытыркаецца постаць чалавека. Чалавек бачыць сцэнку пад дзьвярыма фотографіі, усьміхаецца і ідзе далей.

Дзяншчык рэтыруецца ад зачыненых дзьвярэй фотографії. У левай руцэ пацялепваецца кашэлка. Па вуліцах сланяецца бяз толку публіка. Дзяншчык перад турэцкай пякарняй.

На дзьвярах выведзена крэйдай:

„ЗАЧЫНЕНА З ПРЫЧЫНЫ ЗАБАСТОЎКІ"

У розныя канцы па розных вуліцах рухаецца народ. Пільнікі, друкары, млынары, сьлесары, пякары, не сьпяшаючы, разыходзяцца па хатах.

У доме жандарскага ротмістра. Дзяншчык шпурляе на кухні парожную кашэлку і панікае галавой. Раптам ускаквае і з выглядам «эўрыка» лэпае сябе па ілбе.

Ён лезе ў сваю салдацкую скрынку і разгортвае адзін з газэтных згорткаў. Па меры разгортваньня іх кавалкі булкі, розных халодных закусак ў цьвёрдым відзе і ў заключэньне паўпляшкі коньяку з маркай Шустава зьяўляюцца на сцэну....

Сталовая. Асортымэнт прыведзеных у вядомы від кавалкаў булкі, цьвёрдых закусак, шклянкі, чарачкі, талеркі, відэлкі, нажы, лыжачкі. Дзяншчык аглядвае любоўна «произведение» рук сваіх і здаволены адступаецца.

На парозе зьяўляецца ротмістр.

Дзяншчык тушуецца пад празірклівым поглядам воч ротмістра. Ротмістр спадзяецца пачуць ад свайго вернага дзяншчыка аб пасьпяховым і дасканалым выкананьні даручэньня.

Яшчэ больш тушуецца дзяншчык.

**— У горадзе забастоўка.**

Вочы ротмістра набываюць акругленасьць няпрыемнае нечаканасьці, расчараванасьці. Потым наперамелкі адно за адным пачуцьці трывогі, гневу зьмяняюцца на твары. Уся гэтая гама пачуцьцяў завяршаецца, калі погляд ротмістра пераходзіць з перапалоханага дзяншчыка на накрыты стол.

**— А гэта што такое?**

Паказальны палец ротмістравай рукі працягнуты к стулу.

Вусны дзяншчыка бязьлітасна ня слухаюць яго.

**— Забастоўка...**

Паказальны палец ротмістра зьнікае. Рука парывіста хапае кавалачкі сухое булкі. Зьмена пачуцьцяў на твары ротмістра заканчваецца пэўнымі агрэсыўнымі дзеяньнямі. Кавалачкі сухое булкі, талеркі, відкі, нажы і цьвёрдыя закускі—адно за адным ляцяць далоў.

Юркевіч хлопае па плячы Юзіка.

Вочы Юзіка з адданасьцю вернага сабакі глядзяць то на Юркевіча, то на стол, то на дубовы буфэт.

Юркевіч перахопвае яго погляд, усьміхаецца няскрытай усьмешкай і пакідае Юзіка.

У ваяўнічым настроі выходзіць з дому жандарскі ротмістр.

Цёмны пакой.

Ротмістр ходзіць кароткім нэрвовым крокам. Закурвае цыгарку, зацягваецца і кідае ўсьлед за запалкай.

Павольна прачыняюцца дзьверы. Яшчэ пад уладай нядаўнага пачуцьця спагадлівага протэжэрства, ад сустрэчы з Юзікам, заходзіць Юр-

кевіч. Не заўважаючы настрою ротмістра, павятовец прыстуквае абсацамі выглянцаваных ботаў.

Ротмістр спыняецца. Паверх пляча глядзіць на Юркевіча.

Павятовец не заўважае нічога ненормальнага і ў гэтым. Ён гаворыць з упэўненасьцю асыпанага ласкамі служакі.

На твары ротмістра праз гнеў і злосьць праступае ясна выраз іроніі.

**— І вы толькі што даведаліся пра гэтую забастоўку? І сколь вы хочаце атрымаць за гэта? Слухайце... Вы далёка пойдзеце у сваёй дзейнасьці інформатара... Ужо некалькі гадзін, як усе бяздомныя сабакі на ўсіх вуліцах гораду брэшуць аб гэтай чортавай забастойцы!**

З расчыненым ротам застывае Юркевіч.

Ротмістр з гневам, з яркасьцю на твары і ўва ўсёй постаці паказвае яму сваю шырокую сьпіну, тлусты гадаваны карак.

Панарама гораду. Трубы прадпрыемстваў ня выпускаюць нідзе дыму.

Асортымэнт шыльд, зачыненых дзьвярэй і вакеніц.

Пусьцеюць вуліцы.

На пэроне провінцыяльнага вакзалу ў чаканьні поезда. Сярод пасажыраў круціцца несамавітага колеру паліто, з настаўленым каўняром. Рукі ў кішэнях паліта.

**З вельмі важнае паездкі павінен вярнуцца гэтым цягнікам Арон.**

З дзьвярэй вакзальнага будынку адзін за адным выходзяць на пэрон Ігнась, Дуб з пугай у руцэ.

Несамавітага колеру паліто з настаўленым каўняром круціцца сярод пасажыраў.

Мільганула постаць Юркевіча. Суб'ект у паліце з настаўленым каўняром цярнуўся паўз павятоўца.

Мільганулася ў натоўпе форменная шапка чыгуначнага жандара.

Паліто і павятовец перакінуліся быстрым выразным поглядам. Калючы погляд вострых воч суб'екта ў паліце момант фіксіруе вышаўшых з вакзальнага будынку Ігнася з Дубам.

Постаць Юркевіча зноў мільгае сярод пасажыраў і зьнікае.

Суб'ект з вострыма вачыма круціцца сярод пасажыраў—ужо паблізу Ігнася з Дубам.

Пасажыры прыслухоўваюцца. У баку ад вакзалу у напрамку зьнікаючых рэек паказваецца густы дым.

На пэроне зьяўляюцца насільшчыкі, рамізьнікі з пугамі ў руках. Пасажыры мітусяцца з чэмаданамі, кашэлкамі, клункамі, мяшкамі.

Багажная тачка ў руху.

Падыходзіць поезд.

Даўка на пэроне.

За натоўпам мільгаціць твар Юркевіча побач з тварам чыгуначнага жандара.

Ігнась чакальна азірае рад вагонаў.

Буфэры вагонаў ў дзеі.

Поезд стаіць.

З дзьвярэй вагонаў паўзуць струмені пасажыраў, чамаданаў, клункаў. Ігнась кідаецца ў натоўп пасажыраў, якія згрудзіліся перад вагонамі.

З падножкі вагону саскаквае Арон, з цяжкім чамаданам у руцэ.

Су'бект у паліце з паднятым каўняром зьбянтэжана азіраецца на ўсе бакі і праціскаецца да Арона.

У вочы Дубу кідаецца яго падазроная рухавасьць.

Недалёка ад суб'екта ў паліце з натоўпу вырастае постаць Юркевіча. Яшчэ далей за Юркевічам, чыгуначны жандар.

Дуб ня зводзіць воч з несамавітага колеру паліта.

Суб'ект у паліце перакідваецца поглядам з Юркевічам і рашуча прыступаецца да Арона.

— **Цяжкаваты чамаданчык... Дазвольце пасобіць.**

Жылаватая дужая рука працягваецца да каўняра суб'екта.

Момант... Побач вырастае фігура Юркевіча, за ім форменная шапка чыгуначнага жандарма.

Момант... Постаць суб'екта з настаўленым каўняром прымае натуральны «горызонтальны» стан.

Мільгацяць твары Юркевіча і жандара.

Пасажыры кідаюцца да вагонаў.

Сумятня... Даўка. Крыкі.

Дуб вырывае з рук Арона чамадан і бегам бяжыць у аббег поезда.

Чыгуначны жандар насілу прадзіраецца скорзь жывую сьцяну людзей. Ён работае рукамі і нагамі, раскідвае ўва ўсе бакі пасажыраў, якія ня вельмі ахвотна расступаюцца перад ім.

Постаці Дуба, Арона, Ігнася зьнікаюць па другім баку поезда.

Жандар вырваўся з натоўпу. На бягу выхватвае з кабуры рэвольвэр.

Суб'ект у пакамечаным паліце пад руку з Юркевічам зьнікаюць за дзьвярыма вакзальнага будынку.

За вакзалам на глухой вуліцы сялянская фурманка. На санках у перадку сядзіць у кажусе Ясь. Лейцы накручаны на руку. Ён чакальна паглядае ў бок вакзалу.

З-за таварных вагонаў на апошняй лініі рэек выбягаюць Дуб з чамаданам у руцэ, Арон, Ігнась.

Ясь становіцца на калені, напінае лейцы.

Усе трое як папала кідаюцца ў санкі. Торкнуты лёйцамі конь рве з месца. Груды сьнегу з-пад капытоў каня ляцяць у твар пасажырам.

З-за таварных вагонаў вытыркаецца чыгуначны жандар з рэвольвэрам у руцэ. Санкі Яся ляцяць па сьнежнай дарозе. Жандар выцягвае руку з рэвольвэрам усьлед санкам.

Стрэл.

На санках рогат. Махае рукою ў накірунку жандара Дуб.

— **Да пабачэньня.**

Адлегласьць паміж жандарам і санкамі нарастае нязвычайна хутка. На дарозе за горадам ад санак астаецца невялічкая кропка.

У палусьвятле адчынены Аронаў чамадан. Грубая жылаватая рука вымае з чамадана жмуты лістовак, газэт, кніг. Мільгацяць назвы соцыял-дэмократычных брошур, надпісы «Российская Соціал-демократическая Рабочая партия». «Пролетарии всех стран, соединайтесь». Тая-ж рука дастае нязграбныя скруткі, разгортвае іх. Раскрываюцца маўзэры, наганы.

Сьвятло газьніцы асьвятляе сьцены і ўсю сярэдзіну вясковае клеці.

Чамадан абкладзены кіпамі літаратуры. На літаратуры зьверху рэвольвэры, патроны.

Наўкола чамадану Дуб, Арон, Ігнась, Ясь.

Дуб засоўвае па локаць у чамадан руку і выцягвае загорнутую ў анучы даўгую рэч.

Па меры разгортваньня паказваецца руля, лёжа і затвор зусім новае рускае вінтоўкі кавалерыйскага ўзору.

Дубавы пальцы любоўна гладзяць рулю вінтоўкі.

**Зацямненьне.**

Машыннае аддзяленьне паравога млыну ў горадзе.

Заходзяць ўкрадкі два мукамолы.

Машыніст выглядае на двор. Потым дастае аднекуль з-за машын лістоўкі і брошуры. Дае рабочым.

Мукамолы хаваюць у запазуху і выходзяць таксама ўкрадкі як і прышлі.

Пільня. Рабочыя раніцою прыходзяць на работу. Каля рам і на бярвеньні белыя лісткі з надпісам «Российская Социал-демократическая Рабочая партія». У зьдзіўленыя рабочыя падымаюць лістоўкі і, зірнуўшы шпарка, хаваюць пад вопратку.

На палову цёмнае сутарэньне бровару. На сьцяне куродыміць лямпа. Пад лямпаю прыкурнуўшы за бочкамі трымае перад сабой лісток рабочы.

Вясковая школа. Пяць-шэсьць мужчын—сялян задуменна слухаюць, што гаворыць Люба.

У руцэ ў Любы лістоўка. Побач на стале некалькі кніг.

У лясной глушы на прагалку.

**Зацямненьне.**

Кучка рабочых варушыцца, тупае ў сьнягу. Сярод іх знаёмыя нам машыніст, друкары, пільнікі, сьлесары з майстэрні Зуся, Майзель, Дуб, Ясь і некалькі незнаёмых сялян.

У руках у Майзеля вінтоўка. Ён падымае яе к плячу, мецішца, апускае вінтоўку, левою рукою насоўвае на левае вока шапку і зноў мецішца.

Стрэл.

Майзель прымае к назе вінтоўку.

Дуб бяжыць унапрамку да цёмнае плямы—мішэні, прыстаўленай да дрэва.

Дуб каля мішэні. Здымае шапку і паказвае на верх мішэні.

Балючая грымаса нездавальненьня на твары Майзеля.

Шырокім крокам падыходзіць Дуб, бярэ ў Майзеля вінтоўку, закладвае патроны, паказвае прыём прыцэльваньня.

Усе слухаюць і глядзяць як робіць Дуб.

Дуб салдацкім прыёмам ускідае да пляча вінтоўку і прыцэльваецца. Ногі яго правільна раскінутыя моцна ўрасьлі ў сьнег.

Стрэл.

Дуб бярэ вінтоўку да нагі і ідзе да мішэні. Уся група ідзе за Дубам.

На кавалак дошкі наклееный партрэт цара Нікалая II.

Дуб паварочваецца да Майзеля.

**— Вось, як трэба мецішца Тады кулі рэвалюцыі расстраляюць самадзержаўе.**

**Мішэнь. На ілбу портрэта цара дзірка ад кулі.**

*(Канец будзе).*

Уладзімер Хадыка

## ДАЛІКАТНЫЯ ВЕРШЫ

Загудзела вастрожная ноч
У кулак адубелай рукі.
Расьцірае старое сьцягно,
Пасыпае зямлёй сінякі.

Шапялявіць бяззубым іртом
Пра сваю завірушную злосьць...
Золак дню залатым капытом
Наступіў на упартую косьць.

Злымі іскрамі сыпаўся жах,
Выгіналася курчам пастаць.
Вецер выбег на ўзбуджаны шлях
Далікатна бяду абсьвістаць.

І калі з галашэньнем куляў
Пад узгорак скрываўлены ком,—
Ён, як брой, наўздагон рагатаў,
Вычырынджваў пад лад языком.

Цені выслалі пушчу імгой,
Перакроілі сьмехам былым,
Перасыпалі памяць тугой—
І вякі не азваліся ім.

Зброд ашчэраных зданяў багны
Пералушчыў калючы брызок.
Старасьветчыны мройлівай сны
На вільготны апалі пясок.

Пухне чэравам плодным аблонь,
Каб жыты красавалі штогод...
Маладая дужэе далонь
У наступны апошні паход.

Маладая далонь налягла,
Каб ня ведалі смутку палі
Там, дзе радасьць чужая была,
Там, дзе воўчыя сьлёзы цяклі.

* * *

Па стрэхах рэха рынула
Рабіць разьбежны рух.
Спрадвечнасьць у роспач кінула—
Трымаць астатні дух.

Плыве яе за хмарамі
Надмерная хада.
Ваюе з тратуарамі
Вясеньняя вада.

Праз поля роль дзябёлую,
На крыг сьмяротны хруст—
Тугу, як дзеўку голую,
Жане ў лазовы куст.

---

Цікуе цень бязногая
— Падлыжны звадыяш,—
Як дождж калючы шлёгае
Напорны рогат наш.

Узрые пад атрускамі
Ён бездараж нагод,
Што звалі беларускімі,
Чым жыў здавён народ.

Ён будзе скрасьці слова рад,
Каб фарбу ў казках мець,
Каб самабытны коварат
Лагоду мог скрыпець.

---

Зброд возьме шлях разьмінавы—
Жывы даходаць труп,
Аб косьці Гэдымінавы
Вастрыць драпежны зуб.

Аднэй рукою робляны
І на адзін капыл.
Зьлятуць—праз продкаў гроб яны
Пускаць у вочы пыл.

У кут паставяць бога там
Прымаць маленьне хат
Пад кулямётным рогатам,
Пад мовaю гармат.

---

Вярозе гэтай (стрэчамі)
Імкне жыцьця надаць
З аблічча мі авечымі
Бандыцкая арда.

Ў гайне, дзе ветах куліцца
Падгледзець дню усход,
Героі цёмнай вуліцы
Вядуць рашучы сход.

Шуміць фатыга панская
І точыць злосьць аб злосьць.
І сьмерць у іклах ляскае
На жудасьць здалягосьць.

---

Ўрачыстасьць зборняў гойная
Гады ў рады зьвядзе...
Ім доля—марыць войнамі,
Іх лёс—сканаць ў бядзе.

Ім—ганьба (з картай бітаю)
Сваіх правадыроў...
Выходзіць „чэрнь нямытая“
Ад сёл і гарадоў.

Рве шторм стагодзьдзяў насьцілы,
Каб скідаць бруд за борт,
Каб болей сьвет ня засьцілі
Ні пан, ні бог, ні чорт.

* * *

Пагрызла сіверам зубастым
У крыжы ўмураваны прыклет,
Дзе ў славе ныдвіў госьцем частым
Хрыста расьпятага шкілет.

Крывавай раце сымбаль веры
Не дапісаў агонь і меч.
Сьвятыя выламаны дзьверы
У аблуды клятай немярэч.

Чарнобыль зрэзаных пагудак
Правёў легэнду праз туман.
Культурных нацыяў адлюдак
Для твару робіць параван.

Ўзгадована ў дрэблым целе
Спакуса мройлівых турбот:
На нашу спраўджаную веліч
Паставіць свой салдацкі бот.

Ўтаптаць пад выскідзь сухадрэвін,
Каб нэндза з кукалем узрасла...
Стаўбурчыць грэбень польскі певень
Пад белым пудзілам арла.

Грабе з-пад маршалаўскай спальні
Шаленства выплеваных мар:
Злуе гэрой нацыянальны,
Вялікай годнасьці брусар.

Злуе на моц усходніх клямак
Сусьветны майстра разанін...
Бяруць ўратозаны напрамак
Вятры заходніх пуцявін.

Згарае сум пары прыгоннай,
Што клалі ў прывідзе адным
Абсацы царскіх фараонаў,
Жандараў панскіх бізуны.

Дарог гісторыі пазбаўлен
Зьвярынай хэўры чорны лад.
На жвір суровы сьвет пастаўлен—
Прыбіць гандлярскі маскарад.

І права, ўзятае змаганьнем,
Апошнім катам (наўздагон)
Сыграе песьню разьвітаньня
Пад карны сівер і праклён.

1932 г.

**Міхась Зарэцкі**

# ВЯЗЬМО

**(Раман)**

## Частка першая

*(Працяг)*

### 5

Мястэчка, у якім разгортваецца дзея гэтага апавяданьня, хоць нічым бадай ня розьніцца ад звычайнага сяла, але-ж сяло тое вялікае. Яно рассыпалася па двух узгорках, паміж якіх цячэ невялікая рэчка Сівец (гэткую-ж назву мае й мястэчка). На Сіўцы стаіць млын. Гады з два таму тут пабудавалі новы—высокі ды моцны мост.

Такім чынам мястэчка дзеліцца на дзьве часткі. Адна—чысьцейшая, дзебялейшая,—там адміністрацыйны, гаспадарчы і культурны цэнтр: сельсавет, каапэрацыя, школы (пачатковая і сямігодка) аптэка ды інш. Гэта—уласна Сівец, бо другая частка, хоць у паперах таксама Сіўцом азначаецца, але ў простым народзе за-звычай завецца пагардлівай назваю—Сівалапы. Тут ужо—праўдзівая вёска. Ды яшчэ якая вёска? Убогая, брудная, закаржавелая ў сярэднявечным побыце. Адзін менскі этнограф перабыў тут неяк аж цэлае лета—дык быў у цудоўным захапленьні ад непарушнае сівалапаўскае цаліны і ад'яжджаючы мілосна кулдыкаў:

— Я пачуў тут сапраўдны дух Беларусі!

У Сіўцы (уласна Сіўцы) хоць таксама няма камяніц ці нават гарадзкога тыпу драўляных будынкаў, але ёсьць ці мала добрых—раскошных і чыстых пяцісьценак. У Сівалапах-жа ўсяго адна людзкая пяцісьценка. праўда, з разьбяным ганкам і фарбаванымі вокнамі. У пяцісьценцы ў тэй жыве селянін-серадняк Малах Тодараў Загароўскі.

І акурат у гэтай у пяцісьценцы, акурат у гэтага ў селяніна-серадняка, у Малаха Загароўскага жыве прыгожая—бадай першая на ўсе Сівалапы, а мо' й на Сівец—дачка Аўгінька. А за тэй за дачкой, як кажуць, троху ўлягае недалёкі сусед і таксама хлопец ня зломак—камсамолец Віктар, сэкратар Сівецкае камсамольскае ячэйкі.

Надвячоркам—толькі-толькі сядзе за Сівец гультаяватае зімовае сонца—Аўгінька пачынае турбавацца. Ёй канечна трэба знайсьці нейкую прычыну, каб кінуць сваё бясконцае, да краю абрыдлае прадзіва, і выбегчы

на вуліцу. Ну пэўна-ж, ёй трэба зьбегаць да суседак даведацца, ці зьбіраюцца сёньня ў супрадкі, дый газы няма ўжо, трэба пазычыць дзе калiва, дый малыя некуды зьбеглі—мо' пашлі на каўзель, яшчэ патопяцца ў прыцемку,—ці мала ёй рознага клопату?

А выйшаўшы на вуліцу, яна нікуды ня йдзе, а стаіць перад форткай, схаваўшы рукі ў рукаўкі свайго чырвоненькага з чорнай смушковай абляможкай кажушка. З захаду яшчэ плыве лёгкая ружаватая яснасьць зары—яна насычае Аўгіньчын твар і ўсю яе празрыста-мяккаю цяплынёй, і Аўгінька цяпер яшчэ прыгажэйшая, яшчэ мілейшая, чымся заўсёды. Ці дзіва, што Віктар, яшчэ здалёку ўбачыўшы яе, скаланецца ўсім сваім камсамольскім нутром ад раптоўнае хвалі глыбокае нястрымнае пяшчотнасьці.

Аўгінька добра ведае, што Віктар зараз будзе ісьці ў Сівец, на вечную сваю працу, на нейкі там сход ці пасяджэньне, яна й выйшла наўмысьля, каб пабачыцца з ім, але яна і ў той бок не глядзіць—у яе зусім іншы клопат, яна старанна жмурыць вочы, пільна ўглядаючыся туды, пад Сівец, яе цікавіць нешта ў тым баку. І будзе стаяць так і глядзець, аж пакуль не падыйдзе Віктар, не аклікне яе:

— Добры вечар, Аўгінька! Вочы папсуеш, так узіраючыся!

Тады Аўгінька паволі абернецца да яго, нібы цяжка ёй адарвацца ад свайго выгляданьня, і адкажа троху няўважна, каб паказаць, што яна папраўдзе занята нейкаю справай.

— Здароў, Віця! Куды гэта ты разатнаўся?

— От, пацягнуся ў Сівец. Як маешся, Аўгінька?..

— Дзякую. Ты малых там дзе нашых ня бачыў?

Віктар хоць і бачыў, дык скажа, што не. Аўгінька тады задумена мяркуе:

— Ці не пашлі яны—чаго добрага—на каўзель?.

Віктар з рашучай праканаласьцю пацьвярджае:

— Пэўна што там. Наш Юзік таксама пабег туды.

Гэта значыць, што Аўгінька пойдзе з ім аж да млына. Гэта-ж ня менш, як гоняў з пяцёра!

Ідзе Віктар наўмысьля марудна, ледзьве пераступаючы нагамі, каб як даўжэй працягнуць дарогу. Вось Сівалапы асталіся ззаду, іх захінула старая разгатая вярба, абвешаная сівымі пасмамі шэрані. У Віктара сэрца пачынае біцца яшчэ мацней, чымся дагэтуль, і ў грудзёх узмываецца дужа салодкая і дужа пякучая хваля. Ён клапатліва азірае дарогу—ці ня відаць там каго?—і ўпэўніўшыся, што ніхто іх ня бачыць, неўзаметку, на хаду абнімае аднэй рукой Аўгіньку і пяшчотна туліць яе да сябе. Яна не вырываецца, і ў гэтай любай пакорлівасьці яе самае радасьць Віктару. Ён мацней прыціскае яе і яму здаецца, што праз халодную паверхню кажушка да яго рукі даходзіць мяккая цяплыня яе ўтульна схаванага цела. Гэта мабыць яшчэ больш распаляе Віктарава пачуцьцё і мабыць ён яшчэ мацней сьціскае Аўгіньку ў сваіх абдымках, бо яна раптам хапае яго за руку і шэпча з ласкавым дакорам:

— Віця! Што ты?

Але рукі ягонае не адрывае, а толькі ціха, нясьмела сьціскае яе сваймі сагрэтымі ў рукаўкох пальцамі.

Так падыходзяць яны пад самы млын. Тут яшчэ стаяць, колькі хвілін, і на разьвітаньне Віктар абавязкова запрашае яе прысьці ўвечары ў нардом. Яна за-звычай адмаўляецца, і Віктар ідзе ад яе з адчуваньнем свае глыбокае віны, што ня можа, ня здольны ўвесьці яе ў грамадзкае жыцьцё мястэчка, ліквідаваць яе культурную і палітычную адсталасьць.

Аўгінька-ж кідае ўсьлед яму спакойны ласкавы погляд і пасьпешна варочаецца дахаты, добра ведаючы, што малыя знойдуцца і без яе.

Так бывае ў іх бадай што-дня, і, як заўсёды ў маладых каханкаў, такая аднастайная паўторнасьць ня толькі не дакучае ім, а, наадварот, падкрэсьлівае цёплую інтымнасьць іхных мімалётных сустрэч.

... Сёньня Віктар падышоў чамусьці асабліва сьмелы і нават, як здалося Аўгіньцы, троху паважны. Спачатку ўсё йшло, як належыць: прывіталіся, пагаварылі пра малых і ўжо Аўгінька гатова была ўспомніць пра каўзель, як раптам Віктар запытаў у яе:

Аўгінька, ці ў хаце твой бацька? Я маю да яго інтарэс.

Ого! Віктар, мае інтэрас да яе бацькі! Віктар гатоў пайсьці ў іхную хату! Ці ня воўк за гарой здох, што гэткае прысьпела? Дасюль-жа ён ніякім чынам туды не залучаў: баяўся, сароміўся, ці мо' так меў якую прычыну.

Бацька, вядома, у хаце—дзе-ж ён будзе яшчэ?

— Калі хочаш, зайдзі—тата там.

І з дзелавым выразам на твары, а ў нутры з радасным зьдзіўленьнем ідзе сьледам за ім, уваходзіць у хату, і, астаўшыся ля парогу, моўчкі, заціяўшы дух, сочыць за тым, што будзе дзеецца.

Віктар зважна сядае на лаўку і заводзіць гаворку.

— Як, дзядзька Малах, падскакваеце?

— От, як той пень гнілы, не раўнуючы. Гэта вам, маладым, скокі-падскокі...

— Мусіць, у калгас ужо запісаліся, дзядзька Малах?

— Пэўна што. Яшчэ з восені торбы нарыхтаваў.

І, каб загладзіць свой няпрыязны жарт, зараз-жа дадае:

— Дзе-ж той калгас? Яшчэ ніякага ў нас калгасу няма. Яшчэ й гутаркі сур'ёзнае ня было.

— А мы, дзядзька Малах, бяз гутаркі яго арганізуем. Ураз, па-бальшавіцку.

Малах замест адказу ўздыхае працяжным чатырохпавярховым уздыхам:

— Эх-хе-хе-хе-е-е...

Зрабіўшы належны ўступ, Віктар падыходзіць да справы.

— Як вы з дрыўмі, дзядзька Малах?

Малах ажыўляецца:

— Кепска, браточак мой даражэнькі! Лічаныя паленцы ўжо засталіся.

— Тую палавіну ня паліце?

— Які яе чорт будзе паліць? Ці нам гэтае мала?

Віктар яшчэ з хвіліну маўчыць і нарэшце пытае:

— Ці ня пусьцілі-б вы ў яе хлопца аднаго на які месяц ці два. Дроў мы неяк прыдбаем.

Малах троху думае, але больш дзеля прылікі. Чаму-ж ня пусьціць чалавека ў пустую хату, а злашча калі ён з дрыўмі?

— Хто яго... Так ад людзей мы ня ўцякаем, хай-бы жыў сабе... Адно клопату троху. А хто ён, гэты твой хлопец?

— З гораду што... Брыгадзір.

Малаху гэта зусім да ўпадобы. Хто-ж адмовіцца пусьціць да сябе начальства? Можа яшчэ якая й палёгка будзе... І Малах ураз канчае:

— Хай прыходзіць. Сёньня мы неяк сваімі прапалім.

— Дык я скажу яму. Бывайце, дзядзька Малах!

І ён ідзе да дзьвярэй—зважна, спакойна—ведама, сур'ёзны такі чалавек. І ідучы паўз Аўгіньку, ловіць яе вясёлы ўдзячны погляд.

Аўгінька надзвычайна рада. Гэта-ж ня йначай Віктар з ім таварышуе, з гэтым гарадзкім. Ён штодня будзе хадзіць да яго і бачыцца з ёй. І вясёлая Аўгінька гатова ўжо з радасьці пабегчы ўсьлед за Віктарам, але парой суньмаецца: адразу кінецца ў вочы!

І яна астаецца ў хаце.

А Віктар рады яшчэ больш за яе—дармо, што там, у хаце, трымаў такі зважны, сур'ёзны выгляд. Гэта-ж ён сам і падстроіў усё, сам нараіў Зелянюку закватараваціца тут, у Сівалапах.

З першых дзён Зелянюковага прыезду ў Сівец, у іх завязалася з Віктарам цёплая дружба. Віктар адразу прыхінуўся да Зелянюка з шчырай дзяцінай адданасьцю. Малады рабочы з гораду—такі разумны, разважны, такі дасканалы знаўца ва ўсіх палітычных пытаньнях—стаў для Віктара жывым ўвасабленьнем ідэалу грамадзкага чалавека. Ён скрозь прыглядаўся да яго, сачыў за кожным ягоным рухам і зусім сьвядома пераймаў ад яго тыя звычкі, якімі асабліва захапляўся, якія лічыў за ўзорныя для кожнага грамадзкага працаўніка. Праўда, яны ў яго адпаведным чынам трансфармаваліся, набываючы большую мяккасьць і сьціпласьць, уласьцівыя ягонаму характару.

Зелянюк бачыў гэтую прыхільнасьць да яго вясковага хлопца, яна яму імпанавала, і ён з свайго боку адчуваў да яго сымпатыю і даверлівасьць. У вялікім бязладным Сіўцы, куды закінула яго партыйная мабілізацыя, адарваўшы і ад работы на заводзе і ад вучобы (Зелянюк ужо трэці год, як вучыўся ў завочным камвузе), камсамолец Віктар быў першы чалавек, якому ён мог вольна адкрываць свае маладыя думкі— столькі-ж гарачыя і імклівыя, сколькі цьвярозыя, пэўныя.

Пераход Зелянюка на кватэру да Малаха яшчэ больш замацаваў іхнае сяброўства з Віктарам.

...І павялося так ад самага таго дня ці, праўдзівей, ад вечара, калі перабраўся Зелянюк ў Сівалапы, што Малахава чыстая палавіна памалу зрабілася неафіцыйным цэнтрам, дзе завязваўся клубочак дружнага актыву, адкуль пачынала кусьціцца сьвежая рунь новага сівецкага быта ваньня.

Ужо тады, у першы вечар, падышлі былі па-суседзку да Зелянюка: былы партызан і чырвонагвардзеец Якуб Лакота, некалі дужы мужчына, а цяпер чэзлы і хваравіты—сьлед белагвардзейскага катаваньня; Малахаў сваяк—паджылы, але здаровы, камляваты мужык, увесь у густой паклы-

чанай барадзе; малады спраўны гаспадар Мікіта, які калісь троху ўчыўся на агранома і якога ў Сівалапах вельмі паважалі за ягоную стараннасьць і за практычныя досьледы ды паляпшэньні ў гаспадарцы. Прыцягнуўся нарэшце й Паўлюк Гвардыян, старэйшы брат Цімахвея Міронавіча Гвардыяна, але—ня ў пару яму—зусім нікчэмны, шалапутны мужык—вялікі гультай і п'янюга.

Усе яны перш сышліся ў гаспадара—там сядзелі сьціху гаманілі аб сім аб тым, з чаканьнем пазіраючы на дзьверы ў другую палавіну. Зеленюк пачуў гамонку, вышаў пацікавіцца, паслухаць; разгаманіўся сам і, нарэшце, перацятнуў усіх да сябе. А тады ўжо да познай начы ішла жвавая нясьціханая гутарка, у якой памалу, слова па слове, раскрываўся вялікі сэнс будаўніцтва, што стаяла на парозе непарушнае Сівецкае старасьветчыны.

Увайшоў быў потым, сьціху прачыніўшы дзьверы, Малах, абапёрся аб вушак і стаяў так чорным нярухомым ценем—слухаў толькі, а сам праз увесь вечар не сказаў ніводнага слова.

Мабыць найбольш гаваркі, вясёлы і спрытны на слова, быў сёньня Віктар, які адразу ўжо стаў тут, у Зеляньковай кватэры, за свайго чалавека. Ад яго звычайнае сарамлівасьці не асталося й сьледу. Адно перашкаджала яму, што вельмі часта хацелася піць і ён, кідаючы гутарку, выходзіў на гаспадарову палавіну. Праўда, ён іншы раз забываўся йналіцца, але ніводнага разу не забыўся сказаць колькі слоў Аўгіньцы і атрымаць ад яе вельмі выразную і мілосную ўсьмешку. Нават разы са два, здаецца, ці тры яму пашчасьціла засьпець яе ў хаце адну—дык там справа даходзіла ўжо й да пацалункаў.

Ведама, маладосьць!

6

Усё ішло як мае быць.

У Сымона Карызны ня было ніякіх сумненьняў аб тым, што той зрух, тая вялікая рэвалюцыйна-ператорная работа, якая бурна разгарнулася ў Рэспубліцы, якую несла на сваім баявым сьцягу партыя, ёсьць сапраўды адзіна-правільны, пэўны і няўхільны шлях далейшага поступу Рэвалюцыі. Ён з поўнай шчырасьцю галасаваў супроць усялякіх выступленьняў апартуністых, якія сеялі ў масах бязьверыцу, страх перад нямінучымі цяжкасьцямі і перашкодамі, якія фактычна клалі палкі ў колы Рэвалюцыі. Ён лічыў іх за здраднікаў, за трусоў, і заўсёды вымагаў большага ім пакараньня, чымся было запрапанована. Ён нават адчуваў да іх чыстаасабістую варожасьць, бо ў глыбіні душы, недзе на мяжы сьвядомасьці, насіў нявыразную думку ці нават адчуваньне, што пералом гэты пэўным чынам вынікае з яго глухога інстынктыўнага нездаволеньня нэпаўскаю будзёншчынай і азначае зварот да рамантычна-баявых традыцый мінулых дзён. Гэта—зноў кажу—было больш адчуваньне, чымся думка, бо йначай Сымон Карызна бязумоўна знайшоў-бы ў сабе патрэбную сілу і здольнасьць да самакрытыкі і зразумеў-бы шкодную памылковасьць гэтай тэндэнцыі.

Карызнава захапленьне, энэргія яго і парываньне ня толькі не згасалі з цягам дзён, а распаляліся з большаю сілай. Пасьля першага сходу ў мястэчку ён пабыў бадай ува ўсіх вёсках свайго сельсавету і канчаткова пераканаўся, што пад знадворным нездаволеньнем, недавер'ем, боязьню, пад бабскімі гістэрычнымі крыкамі і сьцеражліва-разважным маўчаньнем мужыкоў, хаваецца ўсё-ткі глыбокая гатоўнасьць да нейкае рашучае, яшчэ неасазнанае зьмены жыцьця, поўнага дзікіх супярэчнасьцяй і нясуладзьдзя. Трэба выявіць гэту гатоўнасьць, памагчы асазнаць яе і даць ёй належны кірунак.

Так, Зелянюк праўду казаў: перш-на-перш—разварушыць. Гэта—галоўнае.

І Сымон Карызна, упэўнены ў нямінучай удачы, даў сабе слова намагчыся ўсімі сіламі і калектывізаваць свой сельсавет раней ад усіх у раёне.

Трэба пачынаць з Сіўца. За Сіўцом пойдуць іншыя вёскі. Але пакуль што тут справа яшчэ ня рушыла з месца—усё асталося застыўшы на тым пункце, да якога прывёў першы, па Зелянюковаму вельмі ўдалы сход. Але тут нешта робіць сам Зелянюк. Гэта добра—браць зьнізу, спакваля раскалупваць каржаватую глебу сялянскае псыхікі. Добра й тое, што ён узяў на рэмус камсамольцаў, прыцягнуў іх да гэтае напружанае штодзеннае прапагандыскае работы. Яны сапраўды «разварушваюць», і вынікі гэтага «разварушэньня» ўжо добра відаць: невялічкі але дружны бядняцка-серадняцкі актыў гатоў выступіць першым баявым атрадам у змаганьні за калектывізацыю мястэчка. А тады—шырокае арганізаванае наступленьне, масавая агітацыя, масавае «разварушэньне», уздым энтузыязму—і поўнае завяршэньне ўсяе работы.

Адным словам—усё ідзе, як мае быць.

Як і заўсёды, зладнасьць у працы настройвае Карызну на зладнасьць і ў асабістым жыцьці. На свае сямейныя справы ён, пачынае глядзець з пагадлівай спакойнасьцю. Фактычна, аб чым-жа тут справа? Ці ёсьць які сэнс і прычына да тых згрызот і душэўнага мятушэньня, што апанавалі былі яго апошнімі часамі?

Праўда, жонкі свае, Марыны Паўлаўны, ён не кахае. Ён ужо даскавала праверыў свае цяперашнія адносіны, свае пачуцьці да яе і зрабіў гэтую рашучую канчатковую выснову. Але ці-ж гэта сталася толькі цяпер? Ці ня мінула ўжо колькі год з таго часу, як згасла ў ім цікавасьць да яе, як да жанчыны, і іхнае сужыцьцё абярнулася ў простае—праўда, нуднаватае троху, бледае таварышаваньне? Ні ён, ні яна не наракалі—мабыць, лічылі гэта за няўхільны закон усемагутнага часу (яму-ж ужо бяз малога сорак год!) і абое моцна трымаліся за рэштку свае шлюбнае сувязі, што ўвасаблялася ў іхнай адзінай дачцэ, якую любілі яны бязьмежна. Нават пасьля таго, як выправілі яны дачку ў Менск на вучобу, адсутнасьць яе, пастаянныя думкі і турботы аб ёй, яшчэ больш былі зблізілі іх.

Ці вінаваты ён перад Марынай Паўлаўнай?

Ён, мабыць, кахае Веру Засуліч. Жонка ведае гэта—яна за дзевятнаццаць год супольнага жыцьця навучылася адгадваць усе яго перажываньні.

Але-ж ён сам абмяжоўвае сваё пачуцьцё, хавае яго нават ад самае Веры. Нават Вера—ён упэўнены ў гэтым—нічога ня ведае. Што ён часта ходзіць да яе? Ён ходзіць, як да таварыша ў рабоце, ён і гаворыць з ёй больш аб розных справах—яна ўмее разумець яго і нават памагае яму разважыць тыя ці іншыя—выключна дзелавыя—сумненьні.

Чым-жа ён вінаваты? За што-ж Марына Паўлаўна злуе на яго? А яна злуе, ён добра бачыць, ды й яна надта гэтага не хавае. Ня йначай—тут нейкае непаразуменьне.

І Сымон Карызна бярэцца за ліквідацыю гэтага непаразуменьня.

Ён прычакаў зручнага моманту і неяк раз, як былі абое ў добрым гуморы, запытаў яе:

— Марына! Ці ня думала ты калі-небудзь, што ў нас з табой нейкая недарэчнасьць выходзіць. Ня так мы жывем адзін з адным... дрэнна жывем... га?

Марына Паўлаўна адгукнулася на гэта з гарачай гатоўнасьцю:

— Сеня! Нам-жа даўно трэба было пагаварыць пра гэта. І я чакала ўсё, я ня важылася першая пачаць.

Яе пасьпешная гатоўнасьць і тое, што яна яго раптам назвала «Сеня» (гэтага ня было ўжо даўно), троху ахалодзіла Карызну, але раз пачаў, дык трэба канчаць.

— Ты ўсё злуеш ня мяне, Марына. Заўсёды нейкая нездаволеная, чураешся мяне.

Марына Паўлаўна ціха ўсьміхнулася.

— Ці-ж гэта я?

І ў ціхім асьцярожным дакоры яе чулася глыбокая пакорная аддана-насьць жанчыны, якая гатова ўсё дараваць. Карызна ня ведаў, як далей павесьці гаворку, і яна памагла яму.

— Ты ўсё гавары, Сеня, аб усім. Нам няма чаго сароміцца адзін аднаго. І я ведаю ўсё...

Карызна настаражыўся.

— Гэта ты пра Веру? Ну, я буду зусім адкрыта... Вера мне падабаецца, я часта хаджу да яе, мы гутарым, абмяркоўваем нашыя справы...

Марына Паўлаўна ў тахт гаворцы яго з ласкава-іранічнай усьмешкай ківала галавой.

— Я ўсё гэта ведаю. Дзіўны ты, Сеня! Ці-ж аб гэтым клопат? Ці-ж гэта мучыць мяне? Помніш, мы ўжо гаварылі... Я не зайздрошчу... Але— ты чужы стаў нейкі... быццам няма цябе зусім... ці мяне няма... Ты ніколі ня скажаш слова мне, не пагаворыш са мной, не параішся...

Карызна разумеў, што яна кажа чыстую праўду. Але што-ж ён зробіць? Ён ня можа перамагчы ў сабе таго пачуцьця ніто сораму, ніто прыкрае няёмкасьці, якое заўсёды абуджаецца ў ім, калі ён спрабуе зноў завязаць з ёй былую блізкасьць. Можа гэта—часовае, можа яно потым мінецца. Можа яна й сама вінавата, што сваёй падазронасьцю, сваёй вечнай настарожанасьцю перагараджае яму да сябе дарогу. З цягам часу гэта напэўна сатрэцца, і іхныя адносіны стануць зусім нармальныя. Вось сёньня яны ўжо гавораць усё адкрыта, не саромяюцца адзін аднаго і вераць адзін аднаму.

**Гайнрых Гайнэ**

## 1649—1793?

Брытанцы—непачцівыя.
Загэтым
Яны пакончылі з дакучным этыкетам—
Кароль іх Карл
правёў прад сьмерцю ноч бяз сна
У палацы Уайтгол ля вакна.
За вокнамі кпіў з караля народ
Ды біў цьвікі ў ягоны эшафот.

Ня ведалі французы этыкету.
На месца кары ў простым экіпажы
Падвезьлі там Людовіка Капэта
І учынілі з ім ня так, як кажа
Нам этыкет стары,—павінна голь
Трымацца з тым, каго завуць—„кароль“.

Яшчэ цяжэй Марыі-Антуанэце давялося,
Тая атрымала адны калёсы—
Не капэлян, ня фрэйліна—
на эшафот
З ёю на калёсах ехаў санкюлот.
Капэтава ўдава пагардна пазірала
І губку ніжнюю таўстую адстаўляла.

Французы ці брытанцы—дык яны
Адвеку нелагодныя. Адны
Лагоднасьць маюць немцы. Застануцца
Яны лагоднымі і ў часе рэвалюцыі.
З яго вялікасьцю як можна
Зьвяртацьмуцца яны пабожна.
Запрэжана шасьцёркай гофкарэта—
Уся ў чорным. Коні крэпам прыадзеты,
Затым на козлах з траурнаю пугай
Галосіць кучар—так калісьці цугам
Аж да Кальварыі нямецкага манарха падвязуць
І галаву яму—
з пашанай адсякуць.

*Пераклаў з нямецкае мовы* Ю. Т.

**Ал. Кучар**

# УЛАДЗІМЕР ХАДЫКА

„Аўтарам кіравала імкненьне сабраць разам супярэчнасьці, награмазьдзіць анахранізмы, каб схаваць праўду...

...Аднак, ня гледзячы на ўсе ягоныя патугі, яна праб'ецца наповерх, як парасткі дзікай лазы, што магутна прабіваюцца сярод дагледжанага вінаградніку".

Онорэ Бальзак.

## I

Паэтычны шлях Уладзімера Хадыкі складаны і супярэчлівы. Але бязумоўным зьяўляецца адно: у сваёй аснове яго паэзія расьце ад буржуазнае дэкадэнскае паэзіі перадрэвалюцыйнай эпохі, на творчасьць Уладзімера Хадыкі мела вялікі ўплыў беларуская буржуазна-нацыяналістычная літаратура.

Паэзія Хадыкі цяпер перажывае сур'ёзны крызіс. Гэта значыць—сам паэта, хоць у невялікай ступені, але зразумеў, што далей працягваць у творчасьці тую-ж паэтычную лінію немагчыма. Унутраныя супярэчнасьці творчасьці Хадыкі ня могуць знайсьці сабе прымірэньня. Веліч нашае эпохі перакульвае, абвяргае, наносіць сьмяртэльны ўдар вузкаму сьвету паэты-ідэалістага, які адмяжоўвае сябе ад вялікае творчае, будаўнічае работы. Унутраныя супярэчнасьці паэзіі Хадыкі ўжо цяпер «знутры» пачынаюць узрываць прывідзісты сьвет глыбокіх псыхалёгічных рыс, адценьняў чалавечае душы, што ствараюць ілюзію, нібыта паэта пачынае пранікаць у адмяжованы ад звычайных людзей кітайскай сьцяной сьвет рэчаў «у сабе». Гэтыя супярэчнасьці пачынаюць узрываць увесь комплекс тых ідэй, які здолен толькі стварыць сабе паэта пасьлядоўны ідэалісты.

Раскрыць асновы творчага мэтаду Уладзімера Хадыкі, ускрыць асноўныя ідэёвыя пружыны ягонай творчасьці—нялёгкая задача, бо філёзофская аснова творчасьці схавана пад тканінай вялікшай лірычнай сілы і складанасьці—вобразаў. Аднак, ісьціна праб'ецца, праз гэтую тканіну, выйдзе на поверх за якімі-б яна засьціламі не хавалася. Гэта разумеў яшчэ ў свае часы такі геніяльны прадстаўнік буржуазнае літаратуры, як Онорэ дэ-Бальзак.

Для Уладзімера Хадыкі, для яго паэзіі аб'ектыўная рэчаіснасьць ёсьць такая, што ў яе найвышэйшых «недаступных» тайнах пазнана быць ня можа. Агульная філёзофская аснова творчасьці Хадыкі—агностычная,

ідэалістычная. Паэта рэзка па-кантыанску падзяляе сьвет—на сьвет рэчаў для нас і сьвет рэчаў «у сабе», на рэчаіснасьць сацыяльную і рэчаіснасьць біалёгічную.

Да пазнаньня рэчаіснасьці Уладзімер Хадыка падыходзіць як ідэалісты. Для яго «фактычна дадзена» адчуваньне, пры чым зьнешні сьвет аб'яўляецца комплексам адчуваньняў» (Ленін, «Матэрыялізм і эмпірыакрытыцызм», стар. 88).

Але вельмі часта паэта робіць уступку агностыцызму: прызначаючы за непасрэдна дадзенае «адчуваньне»—адмаўляе прынцыповую пазнавальнасьць сьвету паза нашымі ўспрыманьнямі.

Тая непасьлядоўнасьць, якая зьяўляецца характэрнай для агностыка, вельмі часта характэрна і для Уладзімера Хадыкі.

«Ён (агностык) **ня ідзе далей** адчуваньняў,—піша Ленін,—ён **спыняецца па гэты бок зьяў,** адмаўляючыся бачыць што-б ня было «верагоднае» за межамі адчуваньняў. Аб **самых гэтых рэчах,** г. ё. аб рэчах у сабе, аб'ектах саміх па сабе мы нічога верагоднага ведаць ня можам,—гэткая зусім пэўная заява агностыка... Агностык не дапускае **самой думкі** аб рэчах у сабе, заяўляючы, што нічога верагоднага аб іх мы ведаць ня можам» (Ленін, «Матэр. і эмпірыакрыт», стар. 84).

Пазыцыя ідэалістычная, агностыцызму зьяўляецца бадай асноўнай для характарыстыкі творчага мэтаду Уладзімера Хадыкі. Хадыка адзіным крытэрыям ісьціны ў сваёй паэзіі абвяшчае свае адчуваньні, няясныя, неакрэсьленыя, псыхалёгічна-хворыя успрыйманьні, але ў адрозьненьне ад пасьлядоўнага агностыка, за межамі гэтага ён пакідае вялізарны прастор для існаваньня сьвету ў сабе, сьвету шырокага, таямнічага і непазнанага. Гэтыя творчыя пазыцыі пранізвалі, і ў большасьці яшчэ і цяпер пранізваюць, усю творчасьць Уладзімера Хадыкі.

Сваё бясьсільле перад вялікасьцю сусьвету паэта ўвесь час надзвычайна яскрава разумее, і разуменьне, усьвядомленасьць гэтага бясьсільля выступае ва ўсёй складанай тканіне вобразаў.

Прыкрасьці і сэрца болю
Расьпасьцёрты чорны мошаст.

«Чорны мошаст прыкрасьці і болю»—гэтая ўнутраная хворасьць паэты пераносіцца на аб'ектыўную рэчаіснасьць. Успрыманьне рэчаіснасьці праз прызму «прыкрасьці і болю распасьцёртага чорнага мошасту» абвяшчаецца паэтай за тую існую аб'ектыўную рэчаіснасьць, якая і ёсьць па-за нашымі ўспрыманьнямі і пачуцьцямі. Але-ж паэта разумее, што ёсьць нейкая розьніца паміж яго пачуцьцямі і настроямі і той рэчаіснасьцю, якая існуе і па-за яго ўспрыманьнямі. Ён ня толькі гэта разумее, а стараецца вылучыць такую «забароненую зону» «сьвятой», самой па сабе рэчаіснасьці, куды ня могуць пранікнуць адчуваньні, пачуцьці і настроі звычайных сьмяротных людзей. А як і ўсялякі пасьлядоўны ідэлісты, з ліку гэтых сьмяротных сябе ён вылучае. Ён пакідае для свайго ўспрыманьня шлях пранікнуць у гэты складаны і таямнічы сьвет рэчаў і зьяў «у сабе»: вершы «Табе я сёньня не скажу» паэта піша:

Прайшлі ўсялякую мяжу
Мае пачуцьці і настроі.

Гэтыя пачуцьці і настроі, якія «прайшлі ўсялякую мяжу» рэчаіснасьці, яны адны здольны хоць у невялікай ступені пранікнуць у тое «прадоньне мар», «дзе будзе тло вісець». Перад гэтымі «дарагімі» паэту пачуцьцямі нават «ноч узьняла свой чорны вэлюм», адчыніла свае таямніцы:

Ня ўсе мы ў кроках далі сьцелем,
І кожны з нас хоць што зьбярог...
Ноч узьняла свой чорны вэлюм
Перад вянком маіх трывог.

Але адным з самых цікавых вершаў у творчасьці Хадыкі, дзе скандэнсавана бадай уся сума асноўных ідэёвых праблем яго паэзіі—зьяўляецца верш «У абрыве ноч». Прыводзім гэты верш, амаль поўнасьцю:

Бруяць над вухам ня спыняе жук,
Я рыюся ў свапы...
Няўцямны мрок кідае на мяжу
Падковы ад капыт.
З нялюдных поймаў ворлікаў камок
Сагнаў ручай-буян...
Ад брызгаў, гледзячы на іх, замок
І паблакітнеў я.
Гурчыць злагоджана ў абрыве ноч
Як могілкі, палі,
А твар балот, як выпалены корч...
Прыпаў я да зямлі.
На чэраве зямлі я сном разьмяк,
Хачу напіцца рос.
І мне кіпто, што зброддівы чарвяк
З травы на твар успоўз.
Мы з ім цяпер, як роўныя сябры:
Выконваем разлом...
Вы ск нуўся цікавы калёрыт
Над згубленым сялом.
Вось выплыла на выкрыты грудок
Былых гадоў асець.
У прадоньне мар абсыплецца пясок—
І будзе тло вісець
Гурчыць ручай. Такі шумлівы ён,
На чорным дне далін.
Ляжыць сяло. І дрэмле з вішняй клён...
Прыпаў я да зямлі. .

Калі перакласьці гэты верш на мову лёгікі, дык у чым аснова яго лёгічная?

Па-першае зусім зразумела тое, што мы тут маем справу з імкненьнем самым энэргічным чынам адштырхнуцца ад існае рэчаіснасьці фактычна закрэсьліць гэтую рэчаіснасьць, а толькі на аснове яе скласьці ўяўленьне пра нейкую новую містычную і таемную, складаную рэчаіснасьць. Гэтая новастворaная рэчаіснасьць, якая звычайнае зжатае поле ператварае ў «могілкі», дзе ў сувязі з гэтым полем зьяўляюцца асацыяцыі ў паэты пра «ручай-буян», які «сагнаў ворлікаў у камок», пра «тло», якое будзе «ў прадоньні мер вісець»—зьяўляецца прадуктам ўнутраное дзейнасьці самога паэта. І зразумела, што Ул. Хадыка энэргічна адштурхоўваючыся ад аб'ектыўнай рэчаіснасьці—фактычна закрэсьлівае яе, зводзіць яе да комплексу ўласных пачуцьцяў, успрыйманьняў, адчуваньняў.

У гэтым вершы мы маем ілюзорнае уяўленьне паэты таго, што нібыта ён пранікае ў няведамы нам сьвет зьяў і рэчаў «у сябе». Гэтае ў вершы выяўлена ў містычнымператварэньні, відаць, звычайных коняй, якія ідуць па дарозе і кідаюць на мяжу водбліскі падкоў ад капытоў—у змрок, які нямаведама адкуль бярэ гэтыя падковы «і кідае на мяжу». Гэта-ж выяўлена ў ператварэньні палёў у могілкі:

Гурчыць злагоджана ў абрыве ноч.
Як могілкі, палі,
А твар балот, як выпалены корч...
Прыпаў я да зямлі.

Нарэшце, да містычнасьці Хадыка даходзіць у сваім імкненьні «пазнаць рэчаіснасьць» па-за межамі нашага быцьця ў наступных радкох:

Вось выплыла на выкрыты грудок
Былых гадоў асець
У прадоньне мар абсыплецца пясок—
Ї будзе тло вісець.

У гэтым вобразе паэта даходзіць да сваясаблівай ідэалістычнай агоніі Вобраз увесь прасякнуты немагчымай празрыстасьцю, абсалютным адрачэньнем ад усяго матар'яльнага. Таму, што пясок абсыпаецца ў нешта зусім выключнае па сваёй неадчувальнасьці, няўлоўнасьці—«у прадоньне мар», а далей вобраз яшчэ больш містыфікуецца: у гэтым прадоньні мар «будзе тло вісець». Відавочна, у гэтым вершы паэта ня толькі ня можа паставіць сябе ў становішча ўладара прыроды, а сам ахоплены жахам перад дзейнай цудоўнай сілай, «недаступных» тайн і зьяў прыроды:

З нялюдных поймаў вёрлікаў камок
Сагнаў ручай-буян
Ад брызгаў, гледзячы на іх, замок
Ї паблакітнеў я.

Тут якраз дзеяньне адваротнае. Гэтыя страшныя сілы непазнанага, няведамага нам сьвету узьдзейнічаюць на чалавека, падпарадкуюць яго сабе, ставяць яго залежным ад сябе.

Такім чынам зусім ясна, што ў паэзіі Хадыкі—па-дэалістычнаму «зьнешні сьвет аб'яўляецца комплексам адчуваньняў», але ня зводзіцца да яго,—пакідаецца яшчэ простор для існаваньня зьяў і рэчаў «у сабе», і вялізарнейшыя творчыя мукі паэта—што ён ня можа пазнаць усю складанасьць гэтага «сьвету ў сабе», хаця і імкнецца яго пазнаць і стварае сабе ілюзію, што няясныя праблескі гэтага пазнаньня атрымлівае.

Мы гаварылі вышэй, што Уладзімер Хадыка, рэзка падзяляе сьвет на сацыяльны і біялёгічны, прычым біялёгічны сьвет зьяў і дзей прыймае, адкідаючы сьвет сацыяльных ідэй (асабліва на этапах творчасьці 1928-29 г. г.). Ён угрунтоўвае біялёгічны крык пратэсту, які ідзе ад самае зямлі, ад зьвяроў, якіх выганяюць з бярлогі, ад лясоў, якія сьсякае сякера чалавека, ад кожнага чарвяка, расьліны—і гэтае мы маем у найбольш рэакцыйных формах амаль ва ўсёй творчасьці Уладзімера Хадыкі. Ёсьць яно і ў вышэй згаданым вершы «У абрыве ноч»:

На чэраве зямлі я сном разьмяк,
Хачу напіцца рос,
Ї мне нішто, што збродлівы чарвяк
З травы на твар успоўз...

З чарвяком—гэтай часьцінкай біалёгічнага сьвету, паэта адчувае сябе, як роўны з роўным:

Мы з ім цяпер, як роўныя сябры:
Выконваем разлом...

Ілюзіі адыходу ад сьвету сацыяльнага ў біалёгічны, фізыалёгічны працягваюцца і ў іншых творах Ул. Хадыкі. Гэтае-ж мы маем у вершы «Перад вянком трывог».

Ў празрыстай далі цені нікнуць
І чад растоптаная тугі.
Але ня раз яшчэ мо' крыкнуць
Шалёных рэчак берагі.

Тут гэты крык ідзе ад самае прыроды, ад самае зямлі. Характэрным, з гэтага пункту гледжаньня, зьяўляецца і верш «Сярод дарог». У вершы—біалёгічны крык пратэсту ў Хадыкі пераплятаецца з бунтарскай, анархічнай, рэакцыйнай позай абароны вёскі ад наступу гораду, рэакцыйнае супрацьстаўленьне вёскі гораду, сялянства—сацыялістычнаму пралетарыяту. У вытлумачэньні гэтае праблемы, праблемы гораду і вёскі Ул. Хадыка ня ўносіць, трэба проста сказаць, нічога новага пасьля Ясеніна. Тое-ж, што і ў Ясеніна, супроцьстаўленьне вёскі тым «жалезам узброеным людзям», што «аднекуль збоку надыйшлі».

І рэжуць чэрава зямлі,
І ломяць лоз старыя грудзі.

Часамі, праўда, вырашэньне гэтага пытаньня пераносіцца ў плошчу тых ідэёвых праблем, якія пастаўлены былі ў свой час у «Барсуках» Ляонава, дзе селянін, анархічны, эсэраўскі, варожы да гораду,—узьвялічваецца сваёй мужыцкай сілай, абагатвараецца. Абагатварэньне вёскі, зямлі, селяніна, які супрацьстаўляецца гораду, пралетарыяту, набывае ў творчасьці Хадыкі сыстэму, цэльную лінію, зьвязаную з яго сьветапоглядам, з агульнай тэарытычнай і філёзофскай асновай творчасьці.

На белым фоне камяніц
Стаю адзін, як чорны статуй,
Малюся шчыра, паўшы ніц,
Ў адплыў на шэранькую хату.

Зразумела і тое, што ў аснове гэтае няпрыхільнасьці, а то і нянавісьці да пралетарскага гораду ляжаць буржуазна-нацыяналістычныя погляды, якія займалі значнае мейсца ў творчасьці Уладзімера Хадыкі.

Але ў гэтым напрамку нас цікавіць, як гэтае рэакцыйнае супрацьстаўленьне вёскі гораду пераплятаецца з біалёгічнасьцю, нібыта адмежаванай ад сьвету сацыяльных ідэй (так думае пра гэта, прынамсі, сам аўтар, мяркуючы па творах). У вершы «Сярод дарог» мы чытаем наступнае:

Ваўкі грызуць шалёны сум,
Кідаюць цёплыя бярлогі.
Дзікліва зграямі ідуць
Шукаць кватэр, калі дзе знойдуць.
Гушчар на голлях, як бяду,
Каваліі поўсьці стане гойдаць...

І от гэты біалёгічны крык, як мы бачым з вершу, яскрава спалучаецца з рэакцыйнымі сацыяльнымі ідэямі—ідэямі супрацьстаўленьня сялянства сацыялістычнаму пралетарыяту.

Такім чынам, як паэта сам не стараецца ўцячы ад сацыяльнае рэчаіснасьці, адкінуць яе, аддзяліць яе ад сьвету біалёгіі, ён ня толькі ня можа гэтага зрабіць, але творы яго гавораць за тое, што захапленьне гэтым сьветам біалёгічным, ёсьць таксама вынік сацыяльнае сутнасьці паэты, што біалёгія як самамэта, як самастойная, аддзеленая ад сьвету сацыяльных ідэй—ня існуе. Такая сувязь і ўзаемадзеньяне сьвету сацыяльных і біалёгічных ідэй яшчэ больш яскрава паўстае перад намі ў вершы Хадыкі «Пароша». Хадыка, гаворачы ў гэтым вершы пра вераб'я, гаворыць пра яго выключна ў пляне фізыалёгічным.

Ён цяпер, як сумны доказ,
Чуе хітры шчэбет самкі...

І зразу-ж пераходзіць на пратэст супроць тых, якія «голасам лютушак ганяць болю чорны мошаст»—гэта значыць, становіцца ў позу пратэсту тым, хто ганіць «чорны мошаст болю» паэтавага сэрца. Як бачым, і тут фізыялёгія і сувязь яе з сацыяльнымі інтарэсамі і сацыяльнымі ідэямі зусім поўная і наяўная...

Падводзячы тут кароценькае падагульненьне сказанаму, трэба канстатаваць цікавае ўзаемадзеяньне і ўзаемасувязь паміж асноўнымі філёзофскімі і ідэёвымі стрыжнямі ў паэзіі Ул. Хадыкі.

Філёзофскай асновай паэзіі Хадыкі зьяўляецца агнастыцызм, ідэалізм. Агнастычнае прызнаньне адчуваньняў адзінай крыніцай ведаў»; пакідаючы за межамі гэтага вялікі прастор для кантыянскага існаваньня зьяў і рэчаў па-за межамі нашага быцця. Гэтае агульна-філёзофскае рашчапленьне, раздваеньне сьвету дае і ілюзорнае ў паэзіі, як мы паказвалі ўжо, раздваеньне сьвету на суму біалёгічных і сацыяльных ідэй. У простай сувязі з гэтым стаіць і супрацьстаўленьне селяніна сацыялістычнаму пралетарыяту, вёскі—гораду, нацыянальнага—сацыяльнаму і г. д.

Поўнае філёзофскае адзінства і ўзаемасувязь.

Для характарыстыкі таго, як сам паэта уяўляе ўжо ў апошнія часы, калі рэзка вызначыўся крызіс сьветапогляду і пералом ў творчасьці Хадыкі, сваё гэтае прыніккненьне ў сьвет «недаступных» ідэй, пра якое мы гаварылі вышэй, цікава будзе прывесьці адну вытрымку з яго нізкі вершаў «Радкі лірычнай песьні»:

Дзікаркай лютаю
Кранала скронь
Нямая здань
Дзіцячых успрыйманьняў
Парой тэй слоты сны
Зьлятаюць на далонь,
Па нэрвах драпаюцца,
Лезуць беспратхланьня...

Тут паказальна абгрунтаваньне падсьвядомасьці, інтуіцыйнасьці, неасьвядомленага—гэтага пранікненьня ў сьвет ілюзорных, зданьнёвых, непарушных і сьвятых ідэй («Нямая здань дзічых успрыйманьняў»)— і прызнаньне таго, што нават ужо ў 1930 г. паэта ня можа пазбавіцца ад

яе «гэтай нямой зданi», якая «па нэрвах драпаецца» лезе без пратхланьня».

У другiм месцы апраўданьне iнтуiцыйнага, несьвядомага падыходу да зьяў i працэсаў рэчаiснасьцi абгрунтоўваецца роспачным разладам памiж складанымi формамi рэчаiснасьцi i немагчымасьцю пранiкнуць, пазнаць гэтыя таемныя i складаныя формы схаванай ад нас рэчаiснасьцi. Паэта прызнаецца—яно катуе яго, не дае яму спакою, даводзiць да экстазу, роспачы. Ён ня можа нават пазнаць усяе складанасьцi дум i пачуцьцяў свае ўласнае iстоты.

У адказ тым, якiя абвiнавачваюць паэту ў адыходзе ад нашага сучасься. Ул. Хадыка з сiлай пiша:

Вазьмеце, струны, свой акорд
I пахавальны марш грымiце.

Вось схэматычна выкладзены той фiлёзофскi i iдэёвы багаж, з якiм Уладзiмер Хадыка жыў, iшоў у сваiм творчым росьце, з якiм ён яшчэ ў большасьцi жыве i цяпер, i з якiм ён сустрэў эпоху разгорнутага будаўнiцтва сацыялiзму—1930-32 гадоў. Да характарыстыкi творчасьцi паэты гэтых гадоў мы i пяройдзем у другой частцы гэтага артыкулу.

2

У паэтычных работах Уладзiмера Хадыкi элемэнты буржуазнанацыяналiстычнае iдэалёгii займалi даволi значнае мейсца. Яны (нацыяналiстычныя элемэнты) выяўлялiся ў абстрагаваньнi Беларусi (у паэзii) ад працэсаў клясавага змаганьня, якiя на справе адбывалiся ў краiне, ды выражалiся яны ў паэтычным паказе беларускага народу, якi, нiбыта, увесь ад веку i аж да цяпер пакутваў, прыгнятаўся, што «ад веку яе нашу родную» Беларусь, «калечыў разьюшаны» польскi пан i жандар:

У балоце жабрачкай галоднаю
Яна памiрала ад ран.

«Калечыў яе» i расiйскi п'яны урадник.

У развагах такога характару, ёсьць элемэнты нацыяналiстычных поглядаў на Беларусь, як на краiну, якая была расьпята крыжавым расiйскiм i польскiм агнём, сама безабаронная, прыгнечаная.

У паэзii Хадыкi вельмi часта выступае рэзкае супрацьстаўленьне нацыянальнага клясаваму. Элемэнты буржуазнага нацыяналiзму праяўляюцца i яны зьвязаны з усёй iдэалiстычнай фiлёзофскай i адэёвай асновай паэзii Хадыкi, яны праяўляюцца i ў форме супрацьстаўленьня бiалёгiчнага сьвету—сьвету сацыяльнаму i асаблiва яскрава ў форме супрацьстаўленьня вёскi, селянiна—пралетарыяту, гораду.

Маючы такi iдэёвы багаж, для Хадыкi, рашучы паварот да удзелу ў сацыялiстычным будаўнiцтве, паварот да перамаганьня свайго сьветапогляду быў надзвычайна цяжкiм i павольным. Але гэты паварот у сваёй аснове быў зроблены яшчэ ў 1930 годзе.

Пералом у творчасьцi Уладзiмера Хадыкi быў абумоўлены посьпехам сацыялiстычнага будаўнiцтва ў нашай краiне. I гэты пералом быў не адзiным.

Нашы посьпехі, нашы перамогі над клясавым ворагам прывялі да вялікага зруху ў колах старое тэхнічнае інтэлігэнцыі. Партыяй і яе праваднром тав. Сталіным гэты зрух быў ацэнены як наша перамога. Пра гэты зрух тав. Сталін у гістарычнай прамове на нарадзе гаспадарнікаў гаварыў:

«Новыя абставіны павінны былі стварыць і сапраўды стварылі новыя настроі сярод тэхнічнай інтэлігэнцыі. Гэтым, уласна, і тлумачыцца той факт, што мы маем пэўныя адзнакі павароту вядомай часткі гэтай інтэлігэнцыі ў бок савецкай улады...

«Каб улічыць, абставіны, што зьмяніліся, трэба зьмяніць нашу палітыку і праявіць максымум клопату ў адносінах да тых спэцыялістых і інжынэрна-тэхнічных сіл, якія напэўна паварочваюць у бок рабочай клясы...»

Гэтыя-ж па сутнасьці працэсы ў іншай форме адбываліся на ўсіх франтох нашага ідэалёгічнага змаганьня. Паварот да задач сацыялістычнага будаўніцтва, да падтрыманьня пляцформы савецкай улады быў зроблены і з боку асноўнай масы дробна-буржуазных або тых, што былі яшчэ ў моцным палоне буржуазнае літаратуры, пісьменьнікаў. От посьпехі нашага сацыялістычнага будаўніцтва, посьпехі нашыя ў змаганьні з клясавым ворагам, з кулацтвам абумовілі паступовы адыход Уладзімера Хадыкі ад буржуазнае літаратуры, ад буржуазнага нацыяналізму.

Зрухі ў творчасьці Уладзімера Хадыкі перш за ўсё вызначыліся ў яго актыўным выступленьні супроць ворагаў савецкай улады: замежных і ўнутраных: шкоднікаў, контррэвалюцыйных нацыяналістых і інш. Гэты паварот да актуальных задач савецкай улады ў змаганьні з клясавым ворагам пацягнуў бязумоўна і зрух у асновах творчага мэтаду: у нязначных яшчэ, але адыходзе ад агнастыцызму, ідэалізму, хоць старая містыфікаваная форма далёка ня зьнікла яшчэ і тут. Але патрэбнасьць адыходу ад містычнасьці, ад ідэалізму, была ўжо асьвядомлена паэтай:

Мяркую я хваробу выкрыць,
Каб перад тлом ня падаць ніц.
Я сам сабе раблюся прыкрым
З крутым трамплінам таямніц.

Калі прыгадаць верш «у абрыве ноч», дзе паэту захапляе «пясок, які абсыпаецца ў бяздоньне мар», дзе (у бяздоньні) «тло вісіць», дык тут суб'ектыўнае жаданьне ня падаць «перад тлом ніц», азначае падрыў сваіх ранейшых поглядаў «знутры», азначае хоць нязначны, але крок наперад.

Супроць «драпежнае чарады» нашых ворагаў, супроць «худых рыцараў чужых прыгод» («хто скіраваў на брудны троп аглоблі») супроць «плюгавых вусеняў», супроць тых, што:

Сабачай зграяй
Ходзяць ля варот,
Грызуць прабой,
Фальцэтам хрыплым скогляць...

Супроць гэтых ворагаў Хадыка выступіў поўны нянавісьці, агню і полымя:

Пра іх шуршыць, зьвініць праклёнам
Дарожны жвір, крывёй прыбіты.
... Зьнікае змрок з крутых адхонаў,
Як цені здраднікаў-вучоных
Цывілізованых бандытаў.

Але паказальным зьяўляецца, што ў сваім змаганьні праз вобразнае слова, праз паэтычнае слова, з клясавым ворагам Ул. Хадыка яшчэ амаль цалкам у палоне тае містыфікаванае формы выяўленьня, якая была ў яго на мінулым этапе ягонай паэзіі. Сьведчыць яно, па-першае, пра тое, што паэта яшчэ дужа моцна знаходзіцца ў палоне мінулага і, па-другое; што мімаволі ён прымушаны «знутры» ўзрываць сыстэму сваіх асноўных ідэёвых поглядаў. Яскрава прасачыць можна гэтае на самых паэтычных фактах. Калі Ул. Хадыка пра нашых ворагаў піша:

Замшэлым крыжам
Па шкілетах стукае,
Сьлед крывавы ліжа
Здані беларускае...

Гэта пра ворага сказана моцна і лірычна пераканаўча, але-ж, зразумела, што тут Ул. Хадыка прымушаны выступаць і супроць сябе самога, узрываць самую аснову сваіх мінулых поглядаў, бо ён-жа сам, поўны містычнасьці пісаў:

Вазьмеце, струны, свой акорд
І пахавальны марш грыміце.

Ул. Хадыка піша пра нашых ворагаў, як пра «музык воўчага ігрышча».

Толькі ноч (на ўкрадзеным палене)
Рада шчэ абвыць крадком усход...
І гугнявіць, паўшы на калені,
Воўчы псальм на здань сваіх маркот.
Я іду праз гэты тлум кастрывы.
Ў шпарах дум суровасьць пустае.

Так ён піша пра варожыя нам сілы, але і ў вершы. «У абрыве ноч» і «Сярод дарог» гэтыя «Воўчыя псальмы» зьяўляюцца ўнутранай неабходнасьцю самога паэты. Сам Хадыка музыкам на «воўчых містычных ігрышчах» быў надзвычайна доўга, а часамі і цяпер прарываюцца ў яго паэзіі журботныя ноты гэтага «воўчага ігрышча». Або, калі ўзяць нават апошні ягоны зборнік «Праз жыцьцё прапетае», які цяпер друкуецца, дык і тут зьвярыны фізыялёгічны крык пратэсту, які характэрны для пройдзенага этапу паэзіі Хадыкі яшчэ жыве:

І пабеглі за багну ад жаху
Дзікіх мэс і свавольства цары,
Каб ня бачыць апошняга шляху,
Каб ня чуць негаданай пары.
І ў прамежках брыжоных адтулін,
Ў дбайнай нэндзе сваіх спасьцярог,
Аддаюць на астатнія гулі
Старадаўнюю славу бярлог...

Такім чынам мы бачым, што робячы паварот да ўдзелу ў сацыялістычным будаўніцтве сваёй творчасьцю—Ул. Хадыка тым самым павінен быў узрываць рэакцыйныя асновы свае паэзіі.

Новыя дарогі ў паэзіі Хадыкі, вызначылі і новыя адносіны да вёскі, да селяніна. У паэты вызначыліся элемэнты адыходу ад ідэалізацыі старое вёскі, убогае, прыгнечанае. Ён хоча што-кольвек сказаць пра калгас, пра сувязь гораду і вёскі і інш. Але з новых вершаў яскрава відаць, што

сутнасьць нашых калгасаў, сутнасьць тых новых працэсаў, якія адбываюцца на вёсцы, паэта не зразумеў; у сіле таго новага, што адбываецца на вёсцы, ён не пераканаўся; у моц гэтага новага не паверыў, не перажыў, не адчуў яго, ня вывучыў яго. Таму з боку мастацкага вершы на гэтыя тэмы слабейшыя. Няма тае лірычнае сілы і глыбіні пранікненьня ў рэчаіснасьць, якая характэрна для ўсяе паэзіі Хадыкі.

Пісьменьніку здаецца, што супярэчнасьць паміж вёскай і горадам, супрацьстаўленьне вёскі гораду ў яго ліквідавана:

У росных травах я не патушу
Ліхтароў ад тропу гарадзкога...

Калі-ж уважліва прасачыць за апошнімі творамі Хадыкі, дык мы бачым, што гэта яшчэ ня так, што гэта проста ўяўленьне, самападман паэты. Яшчэ жыве ўсхваленьне сялянскага, анархічнага, падыход да зьяў рэчаіснасьці з пункту суровай «сялянскасьці». Нават змаганьне з нашымі ворагамі вядзецца Хадыкам з пункту гледжаньня гэтае «сялянскасьці»:

Каб нораў збродны (ценям звыклы)
Пранесьці злыдні не маглі,
Ўздымалі злосьнікі на іклы
Кашулю зрэбную зямлі...

Жыве яшчэ і рэакцыйнае супрацьстаўленьне мужыка пралетару:

Ля гарадзкой высокай брамы
Я ў палявы гляджу прастор...
... Стрыжэ зялёнымі вушамі
Заходлівы далёкі бор...

Гэты верш характэрны яшчэ прыёмам, які тут ужываецца Хадыкам. Калі раней ён проста пратэставаў, лямантаваў супроць жалезнага волата, які разбурае вёску, дык цяпер, ставячы ізноў гэтае-ж пытаньне, ад простага і катэгарычнага адказу на яго адмаўляецца, абыходзіць яго моўчкі, пераводзячы думку на іншыя рэйкі, на іншы вобраз.

У простай сувязі з супроцьстаўленьнем вёскі гораду ў паэзіі Хадыкі стаяць і элемэнты апалёгетычных адносін да кулацтва. У вершах «у зялёным адвячорку» гэта выяўляецца найбольш яскрава. Тут даецца малюнак зьбіраньня хмар, надыходу навальніцы, грому.

На сухім папары,
Голыя і босыя,
Танцавалі хмары
Дзеўкі чарнакосыя;

«Плакала на дубе скрыпка галасістая», «стукалі па даху сьлёзы дробнай кропляю», і тут-жа, сярод створанай атмасфэры навальніцы, грому,— тут-жа адзінокі, пакінуты ў полі кулак «б'е па шляху мокраю пантопляю».

Біў па долі горкай,
Каб жыцьця ня бачыла...

Паэта знарок кулака ставіць у такія паэтычна-вобразныя абставіны, што ўсё тут гаворыць на карысьць «беднага, пакінутага, адзінокага кулака». А сам-жа паэта вызначае сваю ролю як пасывістычную, бесстароньнюю:

Я стаяў пад горкай.
Сьветлым даль маячыла.

Супроць гэтакай кулацкай апалёгэтыкі ў творчасьці Хадыкі трэба весьці рашучае змаганьне.

У тых вершах, дзе Уладзімер Хадыка прабуе гаварыць пра нашы калгасы, пра тыя новыя працэсы, якія адбываюцца ў краіне, дужа часта ён гаворыць пра іх павярхоўна, абстрагавана, некапкрэтна, хоць гэта ня супярэчыць таму, што пералом у паэзіі Хадыкі выводзіць яго на шырокае поле новых глыбокіх і вялікіх ідэй, без якіх замкнёная ў сьвет містыкі, ідэалізму яго паэзія ішла да гібелі. Прыкладаў абстрагаванасьці і неперакапаўчасьці багата ў вершах апошняга часу, багата і пасывізму, неактыўных адносін да рэчаіснасьці:

Іду я ніцы ля прыйсьця,
Праходжу гурт палян...
Над краем горды вольны сьцяг
Рабочых і сялян.

Альбо:

Злой бядой дратованы няраз,
Заранеюць ўзораныя гоні.
Вартавым да стром прыпаў калгас
За суровым часам на ўздагоне...

Аднак, ня гледзячы на гэтае, Уладзімер Хадыка зрабіў першы рашучы крок ад буржуазнае паэзіі да ўдзелу ў нашым сацыялістычным будаўніцтве. Пра гэтае проста і надзвычайна глыбока сказаў ён у наступных радкох:

І цяпер, калі спалены мох
На прастрэленым сьвету аблічча,—
Стану сьціпла і строга ў вякох,
Выйду ў сівер эпох палітычных...
І таму сваіх песень сок,
Каб прарастаць крывей маглі,
На жарсьцьвяны кладу пясок
Ля музычных дарог зямлі.

Першы рашучы крок Уладзімера Хадыкі ад сьвету містыкі ў сапраўднае жыцьцё, жыцьцё плоці і крыві нашае эпохі, было выйсьцем у сьвет шырокіх пэрспэктыў, у сьвет шырокіх палітычных тэм і ідэй.

## 3

Уладзімер Хадыка зьяўляецца сёньня адным з самых выдатных прадстаўнікоў беларускае лірычнае паэзіі.

У чым-ж мастацкая, паэтычная сіла Уладзімера Хадыкі, як гэта сталася, што паэта, які толькі што пачынае вызваляцца ад свайго ідэалістычнага сьветапогляду, змог дасягнуць такое паэтычнае сілы, і чым наогул вымяраецца гэтая паэтычная сіла?

Крытэрыем мастацкасьці таго ці іншага твору мы лічым тое, наколькі мастак раскрыў існыя бакі рэчаіснасьці, наколькі ён ведае гэтыя існыя бакі рэчаіснасьці, наколькі ён іх адчуў, вывучыў, пазнаў, перажыў.

У гэтых адносінах пытаньне становіцца ясным, калі мы згадваем геніяльныя радкі У. І. Леніна пра гэтае пытаньне ў ягоным артыкуле пра кніжку Аверчанкі. Вось што піша У. І. Ленін:

«Цікава наглядаць, як нянавісьць, што дайшла да кіпеньня, выклікала і надзвычайна моцныя і надзвычайна слабыя мейсцы гэтай высокаталентавітай кніжкі. Калі аўтар свае апавяданьні прысьвячае тэме, яму невядомай, выходзіць не па-мастацку...

«Затое большая частка кніжкі прысьвечана тэмам, якія Аркадзь Аверчанка дужа добра ведае, перажыў, перадумаў, пераадчуў. І з надзвычайным талентам пададзены ўражаньні і настроі прадстаўнікоў старой абшарніцкай і фабрыканцкай, багатай, што аб'елася і аб'ядалася—Расіі...

«Нянавісьць, што агнём шугае, робіць апавяданьні Аверчанкі часам—і большай часткаю—яркімі да надзвычайнасьці.

Да сапраўднага патасу, аднак, аўтар падымаецца толькі тады калі гаворыць пра ежу. Аўтар апісвае гэта проста такі са сладастрасьцю: вось што ён ведае, вось гэта ён паражыў і перачуў, вось тут ужо ён памылкі ня дасьць. Веданьне справы і шчырасьць—выходзяць з рамак звычайнага» («из ряда вон выходящее»,—Ленін т. XXVII).

Тое, што Уладзімер Хадыка перажыў, адчуў, выпакутаваў, там, дзе ён яскрава у межах ідэалістычнага сьветапогляду, бачыць увесь жах перад рэчаіснасьцю абумоўлены яго клясавай прыродай буржуазнага інтэлігэнта, там, дзе ён адчувае, што буржуазны сьветапогляд вядзе да пагібелі, да выраджэньня—там ён выступае як буйны мастак.

Аднак гэта толькі там, дзе паэзія Хадыкі не становіцца на шлях рэакцыйны ў дачыненьні да рэчаіснасьці, там-жа, дзе Хадыка становіцца на абарону кулацкіх рэакцыйных сіл, на абарону рэакцыі,—там ён зьбіваецца з сапраўднае мастацкасьці, творы яго становяцца менш мастацкімі. Тое, што ў межах ідэалістычнага сьветапогляду Ул. Хадыка як мастак узьнімаецца на вялікую вышыню, не супярэчыць аднак наступнаму:

Ідэалістычны сьветапогляд скоўвае і ідэёвыя і мастацкія мажлівасьці такога буйнага паэты як Ул. Хадыка, гэты ідэалістычны сьветапогляд (калі яго паэта ў як мага кароткі тэрмін ня зможа перамагчы), вядзе паэзію Хадыкі ў бязвыходны тупік, вядзе яе да катастрофы, бо за ідэалізм чапляюцца цяпер усе рэакцыйныя элемэнты нашай краіны. І вось чаму першыя яшчэ крокі паэты ад ідэалістычнага сьветапогляду ёсьць ужо факт для яго творчага росту надзвычайнае важнасьці, бо гэтыя першыя крокі даюць яму выйсьце ў сьвет вялікіх праблем, вялікіх чалавечых пачуцьцяў і ідэй.

Паказальным у паэзіі Хадыкі зьяўляецца тое, што ў ёй змагаюцца дзьве тэндэнцыі мастацкага раскрыцьця рэчаіснасьці. Адна мае ў сабе містычную афарбоўку, але яна ідзе па лініі глыбокага пранікненьня ў рэчаіснасьць, па лініі пазнаньня і раскрыцьця новых бакоў рэчаіснасьці, непазнаных яшчэ, невядомых нам, глыбокага раскрыцьця новых рыс, фарбаў у прыродзе, псыхалёгічна складаных працэсаў сваіх уласных пачуцьцяў (прыкладам гэтага зьяўляюцца вершы «У абрыве ноч», «Сярод дарог» і інш.). Гэтая глыбокая паэзія зьяўляецца вынікам выпакутаваных з кроўю, розумам і пачуцьцямі здабытых з артэзіянскіх глыбінь паэтавай сьвядомасьці слоў, думак.

Тэндэнцыя другая—дае падставы паэту ўяўляць сябе «блакітным», шчырым, натхнёным і пачуцьцёвым лірыкам, лірыкам бесклапотным, які

ўсё сваё жыцьцёператварае ў песьню, які ўвесь свой жыцьцёвы шлях праходзіць з песьняй. Прыкладам гэтага могуць быць вершы «Агонь душы» і інш. Сэнс гэтай лірычнасьці прыблізна такі:

Прайшоў я лятуценна да зары
І сэрца чыстае пакінуў каля роз,
Каб аб сабе лірычней гаварыць
І сноў травы і залатых бяроз...

Ад лірычнасьці такога характару ідзе і назва другое кніжкі вершаў Хадыкі «Праз жыцьцё прапетае». Відавочна і тое, што гэтая бесклапотная, чулая, але ня глыбокая і павярхоўная лірычнасьць ідзе ў многіх сваіх элемэнтах ад творчасьці Ясеніна.

Вось чаму, разам з вызваленьнем ад свайго ідэалістычнага сьветапогляду, перамаганьнем містычнасьці ў сваёй творчасьці, Уладзімер Хадыка павінен і надалей разьвіваць тыя рысы свае паэзіі, дзе ён раскрывае сапраўды глыбінныя пачуцьці і настроі чалавека (а трэба раскрыць ва ўсёй складанай сувязі сацыялістычнай практыкі гэтую глыбіннасьць і ўсебаковасьць пачуцьцяў у новага сацыялістычнага чалавека), павінен разьвіваць тыя рысы свае паэзіі, дзе ён падыходзіць па-новаму да зьяў і працэсаў рэчаіснасьці, дзе ён вынаходзіць новыя адценьні фарбаў, гукаў у прыродзе, і змагацца, перамагаць, самым рашучым і бязьлітасным чынам выжываць са свае паэзіі гэтую лёгкую бесклапотную і павярхоўную па сутнасьці, Ясенінскую лірычнасьць.

Наша задача, задача ўсяе савецкае літаратуры змагацца супроць паэзіі Хадыкі там, дзе яна выступае ў сапраўды рэакцыйных формах, і дапамагаць паэту там, дзе ён робіць крокі да ўдзелу сваёй творчасьцю ў практыцы сацыялістычнага будаўніцтва, з тым, каб Хадыка апынуўся цалкам у нашых шэрагах.

А трэба адкрыта сказаць, што там, покуль што, дзе паэта імкнецца паказаць клясавае змаганьне ў нашай краіне, калектывізацыю і інш., вельмі часта адчуваецца невыстарчальнасьць сьветапогляду, невыстарчальная прадуманасьць, невыстарчальнае адчуваньне, захапленьне патасам нашага будаўніцтва, і атрымліваецца або мала-мастацкі, або іранічна на адрас гэтага будаўніцтва, накшталт:

Я смутак ў сэрцы пасяку,
А бацька сядзе мой на трактар.

Ці:

Нехацімец братка, справа чорту вартая,
Дойдземся парадку, дапаможам партыі.

А сам-жа паэта выступае супроць «таннага піліканьня»:

Нэрвамі ўпрагуся,
Словы з сэрца выкіну,
Калі вызнаць мусяць
Таннае піліканьне.

Калі паэта зможа сапраўды адчуць, перажыць, перадумаць, перакanацца, вывучыць, убачыць паэтычную веліч нашага будаўніцтва, ён тады з містычнага тупіку свае паэзіі выйдзе ў шырокі простор тэм, фарбаў, багацьцяў думак і адчуваньняў будаўніка бясклясавае сацыялістычнае грамады, і тады яго песьні на новай глебе, на новай аснове будуць прарастаць крывёю нашай эпохі.

**М. Бязродны**

# „ЗЯМНЫЯ ЗОРЫ“ АЛЕСЯ ПРУДНІКАВА

*(Кнігапіс)*

Агорнутая ў паперу сіняга колеру, фарматам 12 на 18 см, на 20 старонках, цаной у 35 кап. выйшла з друку новая кніжка новага паэты А. Прўднікава.

На першай старонцы тытульнага ліста напісана: «Алесь Прўднікаў. Зямныя зоры (паэма) ДВБ—Л і М—Менск 1932 г.», а на адвароце— «Рэдактар А. Сянкевіч. Тэхрэдактар С. Лапідус. Вокладка мастака А. Заборава».

Дзівіцца вядома няма чаго. Новыя кніжкі—рэчы далёка ня новыя; новыя паэты—справа старая. Можна толькі радавацца, што наша выдавецтва практыкуе пералік усіх, хто трымаў кніжку ў руках да выхаду ne з друку, заўзята змагаючыся з абязьлічкай, змагаючыся за няўхільнае ўзьняцьце сваёй прадукцыі. Але што да гэтай прадукцыі, дык падамо лепш зьмест самой паэмы:

1. **Замест уступу**—Люстрам зялёным вады лягла ўсьцяж рака;... Мелі за шмат уклей мелі зялёных вод. Тут як жабрак сірата стаяў над вадою млын»...

2. **Так пачалі**—Турбіну зьмянілі новай (старую вада зьлізала). Так залажылі аснову пачатку работ вялізарных... рабочыя ўрачыста турбгэнэратар сустрэлі. Болей не капляў мукою млын ад буйнога зерня... Старому млыну стары яго сьніўся ўласьнік, якога—панком Галынскім клікалі калісь за «ласку»... з глыбіні надхмарнай глядзіць у прастор нярухома месяц падбітай сарнай з бяльмом на вачох і трахомай... Казалі яму дзяўчаты «свае ў нас будуць зоры».

3. **Песьня.**—Ліпы, ліпанькі, вёцьцем шастайце, усьміхнецца нам скора шчасьцейка... Будзем Леніна меці лямпачку. А вы, зоранькі, у небе згасьніце; даражэй свае нам— калгасьніцам.

4. **Тымчасам таксама пелі**—Зьявілася шмат «жабракоў» (сірэч—клясавыя ворагі М. Б.)... Хадзілі ўвечар па хатах, а ўдзень па палёх хадзілі. Калгасьнікі крылі іх матам, усьлед пагражаючы віламі.

5. **Рукамі пана Галынскага і кулака Мордзіна**—...Сёньня ў горад паехаў Дзёма, конь назад бяз яго прываложся... Сумна чайкі гігікалі ў далях.

6. **Пасьля ночы**—Сярод лесу забітым знойдзен брыгадзір Качагараў Дзёма. Вораг затрыман (Галынскі і Мордзін). Допыт вядзем мы. **Райміліцыя.**

7. **Страціўшы брыгадзіра**—Замест сына стаў дзед брыгадзірам (бацька Дзёмы). Ён слова шукаючы так гаварыў. Мне шкода да сьлёз,

шкода так, што сын, мой сынок... І, як уключылі ток у жылы сталёвых дратоў—глянуў стары на столь, радасьць на ўвесь куток.

8. **Зямныя зоры.**—Вечна цьвіў над палямі месяц, асьвятляючы поле, вазёры... Толькі мы, раз адзін наўсягды сьлед будовы пакінем усьцяж, на касьцёх агнявой барацьбы неабсяжнай дарогі жыцьця. Так адцьвіў над зямлёю месяц, калыхаўшыся ў хвалях вазёрных...

...Замянілі ягонае месца чалавекам
здабытыя зоры!

Вясна 1931 г. Менск.

---

Вось зьмест паэмы.

Асноўная яе загана, разумеецца, ня ў тым, што там «гігікаюць чайкі» (ці яны табун дзікіх коняй?), ды што» з глыбіні надхмарнай глядзіць у прастор нярухома месяц падбітай сарнай з бяльмом на вачох і трахомай, а ў тым, што яна дае матар'ял рэцэнзэнтам філёзоўстваваць, што часам у чалавека (жаўцёвая залоза) фукцыянуе больш, чым гэта трэба для нармальнага арганізму і тады чалавеку хочацца шмат вымаўляць няпрыстойных слоў, плявузгаць. Але гэта хай будзе між намі, бо інакш і ў кожнага маладога чалавека трэба будзе пытаць даведку аб стане здароўя, як толькі ён здае які небудзь твор. Адзін, напрыклад, рэцэнзэнт на старонках «Літаратуры і Мастацтва» піша, што—«Алесь Пруднікаў для свайго твору ўзяў **новую тэму** (падкрэсьлена намі—М. Б.), пра якую зусім мала і амаль што зусім ня было **буйных твораў** (падкрэсьлена намі—М. Б.) у нашай літаратуры. Пытаньне разгрому старога (па Пруднікаву—млыну) і заснаваньне на гэтым месцы новага...» Што гэта? нявольная гіронія да прыяцеля, ці што іншае. З якіх гэта часоў пытаньне амартызацыі млынаў, ці нат пабудовы новых ператварылася ў праблему, для вырашэньня якой патрэбны буйныя мастацкія творы? Далей рэцэнзэнт кажа—«Клясавае змаганьне ва ўсёй шырыні і супярэчнасьцях у паэме не паказана», што—«Нічога не гаворыць Алесь Пруднікаў у сваёй паэме ні пра кіраўнічую ролю камуністычнай партыі ў сацыялістычным будаўніцтве, ні пра ролю ленінскага камсамолу». Гэты рэцэнзэнт думае і ўводзіць у зман аўтара «Зямных зор», што быццам-бы ўбогай жменькай рыфмаваных слоў можна і паставіць і вырашыць праблему клясавай барацьбы, праблему кіраўніцтва кампартыяй сацыялістычным будаўніцтвам. Ось аж да чаго можна даходзіць мілае глупства. Ну, і народ!

Што такое «Зямныя Зоры»?—«Зямныя Зоры» гэта не паэма, гэта—добрасумленныя ўпартыя практыкаваньні па вершаваньню аднаго нашага добра-знаёмага маладога чалавека—Алеся Пруднікава. У свой час, у пэрыяд Вялікай Францускай рэвалюцыі кожны пісьменны «жыхар» быў «адзяржым нядугам» да рыфмацтва, але гэта ня значыць, што кожны з іх разумеў глыбіню сацыялістычных зрухаў, якія адбываліся ў краіне. Мала хто з «жыхароў» разумеў складаны мэханізм Вялікай рэвалюцыі, а ў нас і пісьменьнікі,—не «жыхары», ня ўсе разумеюць, ня ўсе бачаць вялізарнасьць сацыяльных зрухаў у Краіне Саветаў, а А. Пруднікаў, як відаць з яго рэцэнзуемай кніжкі, нічога не зразумеў. Адна ўцеха, што ён яшчэ малады і здолее свае зрывы ў далейшым перамагчы.

«Зямныя зоры»—гэта маленькае непаразуменьне, якое здараецца шмат з кім. Пруднікаў выступіў супроць старога млына, за тое каб млын новы, электрыфікаваны «не кашляў мукою ад буйнога зерня» (?!) чым-жа яму загадаеце кашляць, калі ня мукою (хіба з вашага вершу булкі французкія вырастуць?). Мы таксама за тое, каб млын рэканструяваць, каб ён працаваў добра, бо млын, як і кожная рэч, можа спатрэбіцца ў гаспадарцы. Чым вы падмятаеце свой пакой, калі ў вас няма веніка? Але адгэтуль ня вынікае, як піша хтосьці Кавалёў, што па пытаньню аб веніку «ня было буйных мастацкіх твораў», і знача трэба іх ствараць.

Некаторыя пісакі любяць фарбаваць чырвонай фарбай неба і плот, а Пруднікаў гэта правіла парушыў: яго «Зямныя Зоры» плот фарбуюць чырвонай фарбай, а зоры незямныя і месяц—чорнай.

Ня зусім удалая арыгінальнасьць. Дарэмна, браце, узводзіць паклёп на зоры і месяц. Дарэмна гэта рабіць хаця-б таму, што нашы продкі карысталіся зорамі, як компасам у сваіх вялікіх вандраваньнях, а месяц, без асобнага дазволу Эльвода, асьвятляў нашу брэнную ў мінулым плянэту. Клясавая няпрымірымасьць, нянавісьць да клясавых ворагаў не падмацоўваецца вашай непатрэбнай, неразумнай злосьцю на зоры і месяц. Хай яны сьвецяць, як сьвяцілі і мірыяды стагодзьдзяў. Будаўніцтву сацыялістычнага грамадзтва яны не пашкодзяць, а калі фактам сваёй наяўнасьці яны дрэнна ўплываюць на вашы практыкаваньні па складаньню вершаў, дык усе мы, хто жывем пад гэтым месяцам і зорамі, тут ня прычым.

Даволі пералічаных кур'ёзаў з «Зямных Зор», каб зразумець сьмехатворнасьць спробы рэцэнзэнта—Кавалёва знайсьці тут «ва ўсёй шырыні і супярэчнасьцях клясавае змаганьне» і ўгледзець «кіруючую ролю камуністычнай партыі ў сацыялістычным будаўніцтве». Гэта ясна. Застаецца зусім няясным, што думаў рэдактар, калі падпісваў да друку кніжку, што думаў увесь калектыў, пускаючы яе ў сьвет. Нельга адносіцца так да справы рэдагаваньня твораў, асабліва нашых маладых, пачынаючых пісаць, таварышоў. Мы ня сумняваемся, што т. Пруднікаў згадзіўся-бы прыняць на ўвагу трайныя заўвагі, унёс-бы іх у твор, а чытачу было-б прыёмна ўзяць у рукі добра напісаную і выданую кніжку. Вядома, з «Зямных Зор» ня можа хутка быць зроблена добрая кніжка, бо там справа не ў асобных памылках, а ў тым, што яна—суцэльная памылка; прыклад лёгкадумнага падыходу да адной з самых вялікіх праблем нашага часу—рэканструкцыі вёскі, клясавай барацьбы вакол жалезнай хады пераможнага сацыялістычнага будаўніцтва.

*Адказны рэдактар*: **Платон Галавач.**

*Рэдкалегія*: **Бацюшкоў, Браніштэйн, П. Галавач, Гальперын, Жылуновіч, Залатухін, Клімковіч, Якуб Колас, Крапіва Платун, Лынькоў, Кузьма Чорны.**

# ЗЬМЕСТ

*Стар.*



---




**1932 ГОД**

НА НОВУЮ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУ
І МАРКСЫЦКА-ЛЕНІНСКАЙ ТЭО

ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА НА

ОРГАН АРГАНІЗАЦЫЙНАГА КАМІТЭТУ САЮЗУ САВЕЦКІХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ БССР

# ПОЛЫМЯ РЭВАЛЮЦЫІ

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ

Бацюшкова, Броштэйна, Галавача (адказны рэдактар), Гальперынай, Жылуковіча, Залатухіна, Клімковіча, Коласа, Крапівы, Лынькова, Платуна, Чорнага.

Часопісь „ПОЛЫМЯ РЭВАЛЮЦЫІ“ выходзіць штомесячна, 6 кніжок да канца гэтага году, памерам кожная ня менш 200 старонак.

## УМОВЫ ПАДПІСКІ:

На 6 месяцаў . . . . . . . . 5 р. 50 к.
„ 3 „ . . . . . . . . . 3 р.
Цана асобнага нумару . . . . . . 1 р. 50 к.

ПАДПІШЧЫКІ на былую часопісь „ПОЛЫМЯ“ атрымаюць замест яе адпаведную колькасьць нумароў новай часопісі „ПОЛЫМЯ РЭВАЛЮЦЫІ“.

ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: у аддзеле падпісных і пэрыядычных выданьняў ДзВБ, кнігарнямі ДзВБ, аддзелам падпіскі пэрыядсэктару ОГІЗ'у, усімі паштова-тэлеграфнымі канторамі і ўсімі кніжнымі крамамі спажывецкай каапэрацыі.